ББК 84
Бел 7

Серыя заснавана ў 1991 годзе

Аўтарызаваны пераклад з рускага
Міхася Тычыны

Адамовіч Алесь.

Апакаліпсіс па графіку / Пер. з рус. М. Тычыны.— Мн.: Беларусь, 1992. — 159 с. — (Сер. «Плошча Свабоды»),

ISBN 5-338-00954-4.

Адамович А. Апокалипсис по графику.

Алесь Адамовіч адным з першых павёў штурм саркафага лжы, які пачаў узводзіцца над Чарнобылем ці не адразу пасля аварыі. Праз барыкады «дзяржаўных інтарэсаў», езуіцкія «навуковыя» супакойванні, цэнзурныя лабірынты пісьменнік прарываецца да кіраўнікоў краіны і рэспублікі, да сусветнай грамадскасці, са словамі болю нястомна біў у набат чарнобыльскай трагедыі.

Аварыя — выпадак ці заканамернасць? Хто вінаваты, што рабіць? Пра гэта — страсны роздум аўтара — народнага дэпутата СССР.



# ЧАРНОБЫЛЬ І ЎЛАДА

> Вучоныя лічаць: з 600 умоўна хірасімскіх (па доўгажывучых элементах) бомбаў 450 упала на Беларусь.

## 1. «Вучыцеся ў беларусаў...»

Чарнобыль і ўлада — чаму я бяруся пісаць пра гэта, хоць сам вельмі далёкі ад «калідораў улады»?

Асаблівасцю нашай краіны, сістэмы, як яна склалася за сем дзесяцігоддзяў, з'яўляецца тое, што ў нас усё — палітыка: ворыва зямлі, збор ураджаю, літаратурная дзейнасць, усё, усё. А ўжо тым больш — атамная энергетыка ці, напрыклад, будаўніцтва гідрастанцый. Таму, калі я паспрабаваў адкрыта ўмяшацца ў паслячарнобыльскую сітуацыю на Беларусі, адразу ж пачуўся ў Мінску тэлефонны званок «самога Чэбрыкава» (старшыні КДБ), а мне потым перадалі словы неадабрэння вельмі высокіх начальнікаў: «Куды ён лезе — гэта ж высокая палітыка!..»

Да Чарнобыля мне і ў галаву не прыйшло б па нейкіх справах і праблемах звяртацца «на самы верх»: далей, далей ад іх трымайся, нікому з пісьменнікаў дабра і гонару не прыносіла блізкасць да «цароў»! А тым больш —

да Палітбюро. І ў той жа час сказана: рускі пісьменнік — больш чым пісьменнік. (Я — пісьменнік беларускі, але гэтая традыцыя ў нас агульная.) Чым толькі пісьменнік у нашай краіне не займаецца: заходняму гэта, бадай што, і не зразумець.

Напрыклад, дапамагаем адной частцы вучоных адвяргаць праект або напрамак другой групы вучоных, якая часцей за ўсё абслугоўвае ведамства, г. зн. тую ж уладу. Ну, а што рабіць, калі ў савецкай навуцы, як і ў палітычным жыцці, заўжды квітнела манаполія напрамку або асоб, той ці іншы варыянт лысенкаўшчыны? Не набліжаныя да ўладаў вучоныя публічнага голасу амаль не мелі. І вось здаралася, што за іх першымі голас падавалі пісьменнікі, г. зн. неспецыялісты. Не ўсе, вядома, пісьменнікі, многія якраз хвалебныя оды складалі «грандыёзным праектам і планам партыі». Але заўжды знаходзіліся і «рызыканты». Не выступі Сяргей Залыгін у 60-ыя гады супраць праекта затаплення бясконцай заходнесібірскай нізіны і будаўніцтва там ГЭС — жыць бы нам (ці як у Расіі кажуць, кукаваць) без цюменскай нафты і газу. Або здабывалі б іх утрая даражэй — з-пад вады. Некалькі ўпартых публікацый, выступленняў пісьменніка С. Залыгіна праламалі сцяну, плаціну навукова-ведамаснай манаполіі на ісціну, услед уключыліся ў палеміку нязгодныя з праектам вучоныя — і Цюмень была выратавана.

Тая ж гісторыя — з Байкалам. І менавіта пісьменнікі збавілі, выратавалі краіну ад спусташальнага і непрадказальнага па выніках «праекта веку» — павароту на поўдзень сібірскіх рэк. Ох, гэтыя «праекты веку», якія нагадваюць злачынствы веку...

Сказанага, мабыць, дастаткова, каб растлумачыць мэту і пафас вось гэтага майго пісьма М. С. Гарбачову: не проста прыцягнуць увагу ўладаў і атрымаць дапамогу, але перш за ўсё праламаць сцяну маўчання вакол самай вялікай трагедыі Чарнобыля — трагедыі Беларусі. (Пісьмо прыводзіцца з невялікімі скарачэннямі.)

*Глыбокапаважаны Міхаіл Сяргеевіч!*

*Калі ласка, не адносьце тое, што Вы тут прачытаеце, на кошт пісьменніцкай фантазіі Алеся Адамовіча...*

*Не будзем шумець «на ўсю Еўропу», але мы ўжо ж разумеем, што Беларусь перажывае нешта такое, што можна супаставіць хіба толькі з яе трагедыяй у гады мінулай вайны.*

*Пад пытаннем само існаванне (фізічнае) дзесяцімільённага народа. Радыяцыя ўдарыла перш за ўсё па нашай рэспубліцы. Як пісала адна цэнтральная газета, не разумеючы, што піша: «На шчасце, вецер дзьмуў не на Кіеў». Сапраўды, у самыя грозныя дні, з 26 па 30 красавіка (а потым*

*яшчэ шмат дзён), вецер цягнуў радыеактыўныя ападкі на Гомель, Магілёў, Жлобін, Мазыр, Слаўгарад, Краснаполле, Рэчыцу, Хойнікі, Нароўлю, Брагін, Пінск, Слуцк, Брэст... Дасталася Мінску. А паміж гэтымі гарадамі тысячы вёсак. Колькі людзей атрымалі розныя дозы радыяцыі і праз колькі дзён ці гадоў гэта паўплывае на кожнага, сказаць цяжка. Але калі мець на ўвазе, што БОЛЬШАЯ ПАЛОВА РЭСПУБЛІКІ была засыпана ёю (Гомельская, Брэсцкая вобласці і часткі Магілёўскай і Мінскай), — гаворка пойдзе пра лічбы найцяжэйшыя.*

*Але не пра гэта ўжо гаворка. Добра, што здарылася, тое здарылася, што здолелі, змаглі, а да чаго, выявілася, не гатовыя (да вельмі многага) — таксама позна размахваць рукамі...*

*За спінаю спее новая небяспека, можа, яшчэ больш грозная. Калі не будуць неадкладна прыняты меры, не будзе зроблена ў найкарацейшыя тэрміны тое, што абсалютна неабходна (на думку вучоных), яшчэ мільёны людзей на Беларусі будуць пакутаваць (а многія загінуць), і тады можна будзе сказаць, што здарылася трагедыя — куды страшней за тую, якую наш народ перажыў у 1941-1944-ым.*

*Усім гэтым людзям (у межах Беларусі і ў сумежных раёнах іншых рэспублік), таксама, як, відавочна, і на Украіне, цяпер пагражае РАДЫЯЦЫЙНАЕ АТРУЧВАННЕ ПРАЗ ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ.*

*І кіраўніцтва рэспублікі, і вучоныя нашы могуць з гэтым справіцца, калі атрымаюць дапамогу і падтрымку. У НАС ФАКТЫЧНА НЯМА ПАТРЭБНАЕ КОЛЬКАСЦІ ПРЫБОРАЎ ДЛЯ ЗАМЕРУ РАДЫЯЦЫІ Ў ПРАДУКТАХ ХАРЧАВАННЯ. Старыя прыборы непрыгодныя, яны разлічаны на жорсткае выпраменьванне (на выпадак выбуху ядзернае бомбы), а тут патрэбныя прыборы, якія ўлоўліваюць мяккае выпраменьванне. Тэрмінова трэба арганізаваць вытворчасць прыбораў КРВП-3 АБ. Беларусь, як лічаць спецыялісты, мае патрэбу для пачатку хаця б у 500 штуках.*

*Апрача таго, патрэбныя хоць бы 50 заходнегерманскіх ДL-MeSSer-6150 для вымярэння альфа-, бэта-, гама-актыўнасці, каб дакладна вызначыць раёны і плошчы паражэння па ўсёй рэспубліцы. (Асабліва цяжкімі элементамі: стронцыем, плутоніем, уранам і г. д.).*

*Патрэбныя, апрача таго, «лічыльнікі імпульсаў чалавека» для абследавання тысяч і тысяч пацярпеўшых. Гэта мінімум неабходнага, а сёе-тое і яшчэ спатрэбіцца.*

*Без гэтых прыбораў Беларусь (і, на самай справе, не адна наша рэспубліка) застанецца фактычна беззабаронная перад пагрозай усё больш шырокага заражэння радыяцыяй праз прадукты харчавання. Лакалізаваць яго не ўдасца.*

*Апрача таго, патрэбная дапамога спецыялістамі па гэтай тэхніцы і дактарамі-спецыялістамі. Неабходнае прамое падключэнне да гэтае работы на Беларусі і на Украіне АН СССР і Акадэміі медыцынскіх навук СССР, стварэнне на мяжы пацярпеўшых рэспублік цэнтра па*

*назіранню, вывучэнню доўгатэрміновых вынікаў радыяцыі і лячэнню хворых.*

*І яшчэ адна рэч, нібыта прыватная, але ва ўмовах паражэння радыяцыяй рэспублік яна мае першаступеннае значэнне. Пазбегчы бяды ад асабліва небяспечнага ў нашых умовах продукта — малака — можна, калі кароў перавесці на стойлавае ўтрыманне. А для гэтага Беларусі і Украіне патрэбныя камбікармы, вядома, у колькасцях, якія ніколі раней не прадугледжваліся.*

*Патрэбна спецыялізаваная арганізацыя, «штаб», людзі, якія толькі гэтым і займаліся б — прадуктамі харчавання. З якіх можна было б спагнаць, але ў якіх былі б усе правы і паўнамоцтвы патрабаваць, вырашаць, забараняць.*

*І вывозіць, вывозіць дзяцей, падлеткаў, цяжарных жанчын і наогул усіх, каго можна! Шырока і за межы рэспублікі і не на месяц-два, а пакуль не нармалізуецца сітуацыя. Самая прыкметная чыноўная інертнасць — і ўпушчэнні — тут. Радыяцыя імгненная, чыноўнік марудны, абачлівы — такая ўжо ў іх прырода. Дый то сказаць: ЗАНАДТА МАЛАЯ, ЯК ВЫЯВІЛАСЯ, РЭСПУБЛІКА ДЛЯ ТАКОЙ вялікай бяды, сваіх «чыстых» раёнаў для эвакуацыі яўна недастаткова. Ну, а тыя, хто нашых дзяцей прымаюць, таксама не заўсёды паказваюць спрыт (за межамі рэспублікі). Час зразумець усім, што кожны прамаруджаны дзень — недаравальны грэх перад будучыняй народа. Ніякія нашы апраўданні і тлумачэнні хворыя нашчадкі не даруюць. І неапраўданых ахвяр мы самі сабе не даруем.*

*Зараз, заадно ўжо: пра манаполію на ісціну ў навуцы, якая прынесла нам нямала бедаў раней (біялогія, меліярацыя), а цяпер прывяла да чарнобыльскай трагедыі. Былі ж, былі вучоныя-фізікі (акадэмік П. Л. Капіца і інш.), якія папярэджвалі, як небяспечна будаваць АЭС у густанаселеных раёнах. І яшчэ адно — ля вялікіх рэк, якія забяспечваюць вадою гарады. Але каб на Палессі, дзе вузел усяго нашага заходнееўрапейскага водазабеспячэння, адкуль п'е ваду ўся Украіна, каб тут пяць блокаў АЭС — гэта ж трэба было прыдумаць і адважыцца!*

*І як часта ў нас бывае, апанентам не далі ні магчымасці кантраляваць практыку «пераможцаў»-вучоных, ні апаніраваць у друку. Каб было інакш, яны маглі б перашкодзіць усім парушэнням нормаў, правілаў, «спрашчэнцам» і «патаненням», якія цяпер выявіліся і вунь да чаго прывялі.*

*Дарагі Міхаіл Сяргеевіч, гэта не проста станцыя ўзарвалася, але і ўвесь той комплекс безадказнасці, недысцыплінаванасці, бюракратызму... Гэта гісторыя: як і чаму здарылася, наколькі гатовыя (не гатовыя) былі і чыноўнікі, і многія ваенныя, а асабліва так званая грамадзянская абарона (невыпадкова ў народзе: «Паўтарылася 22 чэрвеня 1941 года») — усё, усё патрабуе прынароднага высвятлення. І перш за ўсё — абгрунтаванасць усталяванай практыкі будаўніцтва АЭС.*

*Вось і за 30 кіламетраў ад сталіцы Беларусі ўзводзім свой Чарнобыль. Не цяжка ўявіць, што пра гэтую будоўлю кажуць і думаюць сёння беларусы.*

*Краіна, народ не змогуць вытрымаць яшчэ нечага падобнага да Чарнобыля, таго, што сёння*

*абрынулася на мільёны людзей. Трэба было б падумаць пра гэта энтузіястам з упраўлення ядзернай энергетыкай, якія разважаюць па тэлебачанні і ў прэсе пра тое, што ўсё будзе, як было, бо ўсё выдатна. Не пра тое гаворка, быць ці не быць атамнай энергетыцы (гэта адыход ад сутнасці спрэчкі), а як і дзе павінны будавацца і*

*размяшчацца АЭС. Трэба было б даць зноў голас вучоным, здольным меркаваць аб рэчах з большым пачуццём адказнасці за «канчатковыя вынікі» сваіх ідэй і прапаноў, рэкамендацый.*

*Даруйце, але Беларусь сапраўды на краі прорвы! Патрэбна неадкладная дапамога народу, які сам заўжды ўсім ахвяраваў у цяжкія для краіны гады. Беларусы рэдка плачуцца. Вы гэта маглі заўважыць і па цяперашніх паводзінах нашых людзей і кіраўнікоў. Але тут пытанне стаіць неадкладнае, жыццё незлічонае колькасці людзей залежыць ад таго, ці арганізуем мы дзейсны, прадуманы, а не фармальны толькі кантроль за прадуктамі харчавання, ці забяспечым службы сучаснай апаратурай, падрыхтаваўшы неабходную колькасць спецыялістаў.*

*Як шмат залежыць ад такога, па сутнасці, нямногага. Толькі б не ўпусціць час!*

А. М. АДАМОВІЧ,
член-карэспандэнт АН БССР,
член Камітэта савецкіх вучоных
у абарону міру і супраць ядзернай пагрозы,
пісьменнік

*1 чэрвеня 1986 г.*

У пісьма гэтага была перадгісторыя, быў і працяг.

Так атрымалася, што якраз ноччу з 25 на 26 красавіка я ляцеў лячыцца на Каўказ, а на зямлі тым часам усё якраз адбывалася. Першая інфармацыя па тэлебачанні аб аварыі ў нейкім Чарнобылі прагучала цьмяна, але трывога кальнула: у 1986 г. мы ўсе яшчэ жылі па звычцы, што пра такія рэчы не паведамляюць, але ўжо калі паведамілі... Наводдаль ад радзімы трывога аб тым, што адбываецца дома, заўжды вастрэй. Таму, калі вярнуўся ў Мінск, быў, магчыма, самым успрыімлівым да чарнобыльскай інфармацыі. Тыя мінчане, хто патрапіў пад «чарнобыльскі дождж» 26 і 27 красавіка (людзі адпачывалі на возеры, загаралі, нікім не папярэджаныя), былі ўстрывожаны, але лічылі за абавязак храбрыцца: ат, нічога, жывём, усё нармальна! Мне, «не ветэрану», храбрыцца не было чаго, я тут жа панёс правяраць адзенне дачкі, «адзенне таго дня», — «бруднае»! Выкінуў. Да мяне прыходзілі, са мной сустракаліся (пісьменнік) знаёмыя, у тым ліку вучоныя Акадэміі навук Беларусі, фізікі, біёлагі, нагружаючы мяне трывожнай інфармацыяй. Як бы з разлікам нагружаючы: гэта неяк трэба абнародаваць, даць гэтаму выхад! А як абнародуеш, калі ў газетах ледзь не свята, не ўрачыстасць

казённа-журналісцкая: такі выпадак народу, савецкім людзям праявіць свой калектывізм і гераізм! У нас і землятрусы як бы «дзеля гэтага» здараліся: прадэманстраваць перавагі сацыялістычнай сістэмы, калі ўсе заадно і няма такіх крэпасцей, якія мы не ўзялі б!

Вянчаў усё гэтае кашчунна-непрыстойнае «свята», бадай што, артыкул у «Правде», які бадзёра абвясціў на ўсю краіну ў загалоўку: «Салаўі спяваюць над Прыпяццю».

І тыя, і другія свайго дамагліся (калі таго дамагаліся): стала немагчыма маўчаць і нічога не рабіць. Пачаў абрываць тэлефоны і штрыфелі пінжакоў у маскоўскіх калег па Камітэту савецкіх вучоных: ну, ужо ж яны разумеюць, што, калі вецер дзьмуў не на Кіеў («на шчасце», як было ў газеце «Известия» напісана), тады — на Гомель, на Магілёў, на Беларусь дзьмуў — менавіта на поўначы прагучалі першыя сігналы міжнароднай трывогі, з Швецыі.

Але ўсе былі як быццам зачараваныя «трыццацікіламетровай зонай» і за межамі яе нічога амаль заўважаць не жадалі. (Ну, чым не банальны эксперымент з курыцай: пасадзіце на падлогу, абвядзіце крэйдай круг — усё, замерла, сядзіць нерухома!)

З дапамогаю філосафа Юрыя Каракіна мне ўдалося нарэшце выйсці на памочніка М. С. Гарбачова — на Анатоля Сяргеевіча Чарняева. Выслухаў і ўсё зразумеў першы: рыхтуйце пісьмо, як мага больш дакладнай інфармацыі!

Вось з гэтага, з удачы, і пачалося маё практычнае знаёмства з праблемай: Чарнобыль і ўлада.

А ў Мінску рэчы адбываліся дзіўныя. Нават вышэйшае кіраўніцтва рэспублікі, ад якой Чарнобыль на адлегласці шасці кіламетраў, нейкі час знаходзілася ў няведанні аб тым, што здарылася. Як мне потым паскардзіўся Слюнькоў М. М. (першы сакратар ЦК Беларусі): «Нават Шчарбіцкі не пазваніў! Сусед называецца!» Тое ж самае на больш нізкім партыйным узроўні: па абодва бакі Прыпяці, на беларускім і ўкраінскім беразе, жылі-сябравалі сакратары райкомаў, часта юшку варылі разам. І вось беларускія начальнікі бачаць: нешта абязлюдзеў украінскі бераг. Пераплылі раку, а там ужо ніводнага жыхара — эвакуіраваліся. І ні слова, хоць бы па тэлефоне: і не таму, што сябры яны дрэнныя, а таму, што добрыя партработнікі, вышэй за ўсё шанавалі таямніцу партыйна-дзяржаўную.

Вось у гэты ланцужок, такіх вось правілаў гульні і ўзаемаадносін, я мерыўся ўбудавацца са сваёй трывогай, пісьмом, наіўна разлічваючы, што праўду яны чакаюць і ёй абрадуюцца, й даведаўшыся, што я еду да

Гарбачова, мяне адразу паклікалі на самы высокі рэспубліканскі ўзровень — да Мікалая Мікітавіча Слюнькова. Можа, мне што незразумела і таму я вырашыў ехаць? Мне растлумачаць...

Мяне, неспецыяліста, паклікалі самі. Маёй думкаю зацікавіліся. Таму што я ўхітрыўся выйсці на ўзровень вышэй за рэспубліканскі, на гарбачоўскі. А вось калі ў гэты ж кабінет у першыя ж пасля аварыі дні стукаўся сапраўдны спецыяліст, кіраўнік беларускага атамнага цэнтра Васіль Несцярэнка, перад ім усе дзверы зачыняліся. Яшчэ чаго: з Масквы аніякіх распараджэнняў, а гэты шуміць, панікуе, патрабуе, каб людзям абвясцілі аб пагрозе іх здароўю, прыбралі з вулічных латкоў піражкі і садавіну, не праводзілі масавых мерапрыемстваў. (Можа, і майскую дэманстрацыю не праводзіць?!)

Не без гумару ён, Васіль Несцярэнка, хоць і казалі, што плакаў (у прамым сэнсе) ад адчаю, што не чуюць, не хочуць нічога разумець, успрымаць. Але калі яго гналі ад начальніцкіх дубовых дзвярэй, ён што прыдумаў: мераць дазіметрам шчытавідкі ў сакратарак. Тыя — у паніку. Трошкі, але перадалося гэта і іх начальнікам, занепакоіліся...

Вось ад яго, ад Несцярэнка я і атрымаў канкрэтную інфармацыю (аб тыпах патрэбных нам прыбораў і г. д.). Ён шукаў абыходныя шляхі, каб неяк прабіць сцяну, ну, і выйшлі мы адзін на аднаго. У яго, ды яшчэ ў Мікалая Барысевіча, прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, атрымаў я асноўную навуковую інфармацыю. І для пісьма, і для гаворкі са Слюньковым.

Не надта ўжо я быў гатовы да гаворкі: у кіраўніка рэспублікі нібыта ўсе «даныя» аб узроўнях радыяцыі ў розных раёнах Беларусі, а ў мяне толькі неадступная трывога і веды, але тут ужо дакладныя, што прыбораў для абароны мільёнаў людзей ад унутранага апраменьвання праз прадукты харчавання няма. Зусім адсутнічаюць яны, і калі будуць, невядома. А галоўнае: ці будзем старацца іх атрымаць, купіць, зрабіць, калі «і наперад будзе лічыцца, што «вецер дзьмуў нікуды...».

Шэсць з паловаю гадзін дзяржаўнага часу адабраў я ў першай асобы рэспублікі. Ужо ж я разумеў, калі ішоў да яго, што мяне паклікалі толькі таму, што цяпер я не проста нейкі там пісьменнік, не, я чалавек, які едзе да Гарбачова. Толькі ў гэтай якасці я патрэбны і цікавы, а дакладней, небяспечны. Але хочацца заўжды думаць пра людзей лепш. Тым больш што і плаўны голас, і шырокая ўсмешка, і ўспаміны гаспадара кабінета пра сваё галоднае пасляваеннае дзяцінства «пэтэвушніка»

(вучня вытворча-тэхнічнага вучылішча), рабочага на будаўніцтве Мінскага трактарнага завода — усё настройвала на даверлівы тон, нават на шчырасць. Ну, хіба яму таксама не хочацца, каб было як мага лепш? Хто ж захоча, каб было горш? Так, так, узроўні радыяцыі ў мілірэнтгенах і кюры на кіламетр нібыта не такія жахлівыя (па яго паперах), праўда, рабілі замеры найбольш з паветра, з верталётаў і самалётаў, але нават калі і так — прыбораў для прадуктаў харчавання няма? Няма. Дык гэта ж вунь чым пагражае!

Пра перасяленне... З «зоны» вывезлі людзей. Ну, а каторыя побач з «зонай», там дзецям жыць можна? І чаму людзей не вывезлі далей ад «зоны», раз ужо зрушылі з месца, а пасялілі амаль побач? Не давядзецца перасяляць яшчэ раз? Адказ, дадзены мне, слова ў слова і пафасам супадаў з тым, што я потым пачуў ад дырэктара інстытута біяфізікі Акадэміі навук СССР акадэміка Л. А. Ільіна: маўляў, эвакуіруючы такую масу людзей, не абысціся без траўмаў і нават ахвяр. Так што трэба яшчэ палічыць, што больш гуманнае... (Пройдзе некалькі гадоў, і мы пачуем, убачым, як вучоныя кшталту Ільіна ці старшыні гідраметэаралагічнай службы Ізраэля будуць спрачацца прылюдна з партыйна-дзяржаўнымі дзеячамі, хто і каго абманваў і хто вымагаў хлусню. Дасюль спрачаюцца і прыводзяць доказы. З пераменным поспехам. Але тады было поўнае яднанне ў іх у дзеянні і ўзаемаразуменне.)

Яшчэ праблема, якую рэспубліканскаму кіраўніку давялося абмяркоўваць з пісьменнікам (нагадаем: які едзе да Гарбачова), — куды падзелі мяса заражанай жывёлы. Гэта ж тысячы тон. У халадзільніках? А ці не лепш было ў магільніках пакінуць? Што з ім потым будзем рабіць?.. Зноў спасылка на навуку: вылежыцца — вызваліцца ад некаторых «элементаў», а там бачна будзе. (Ну, а там, як ужо вядома, яго сталі змешваць з чыстым прадуктам — злачынства, дарэчы, асвечанае ведамаснай навукай, маскоўскім інстытутам харчавання.)

Не маглі не загаварыць пра лёс цеплавой атамнай станцыі, якая будуецца за 30 кіламетраў ад Мінска, — няўжо і пасля Чарнобыля будзем працягваць? Мне былі выдадзены лічбы: патрэбы горада ў цяпле, запасы нафты ў Цюмені, сродкі, затрачаныя на будаўніцтва...

За акном будынка, дзе мы знаходзіліся, ужо запаліліся неонавыя літары і словы над дахам музея Вялікай Айчыннай вайны: «Подзвіг народа неўміручы». Што прыйшло мне ў галаву, але я раптам паказаў на святлівыя

словы Мікалаю Слюнькову: «Вось, і ваша імя вось так, калі выратуеце Беларусь».

Мінула з таго дня амаль чатыры гады. Няма на Беларусі больш ненавіснага мільёнам людзей імя, чым гэта — Слюнькоў. На мінскіх мітынгах плакаты: «Судзіць Слюнькова!». Скандзіраванне ў час чарнобыльскіх забастовак у Гомелі: «На суд Слюнькова! Патрэбен чарнобыльскі Нюрнберг!»

Жахлівы вынік жыцця ўвогуле не самага дрэннага чалавека, які сустракаўся на маёй дарозе. Ён, вядома, у той дзень, калі мы асцярожненька перацягвалі канат — кожны да сваёй праўды, — не здагадваўся, куды вынесе яго хваля, якая ўжо яго падхапіла. Верна і аддана служачы сістэме, выконваючы ўсе правілы апаратнай гульні, гэты былы «пэтэвушнік» літаральна праз паўгода пасля Чарнобыля стаў членам Палітбюро ЦК КПСС — пра што яшчэ можа марыць партыец? Але развеялася ўсё, як міраж, пасля XXVIII з'езда КПСС: ён ужо не член Палітбюро, ён усяго толькі Слюнькоў, а гэта сапраўды страшна — насіць сёння прозвішча, якое праклінае народ, што зразумеў, як яго абманулі і як здрадзілі яму.

Тры з паловай гады больш за мільён беларусаў (а колькі ўкраінцаў на сваіх такіх жа землях, а колькі рускіх на Браншчыне і ў Калужскай, Тульскай абласцях — таксама пакінутых сваімі кіраўнікамі) жылі там, дзе жыць нельга, малако ад уласнай каровы піць нельга (падаіў і вылі ў яму), яблык, грыб з'есці небяспечна, і раптам ім сказана, яны і самі даўно прадчувалі, а цяпер зразумелі: яны, іх дзеці былі толькі заложнікамі ў нейкай бесчалавечнай гульні, партыйна-апаратнай. Іх трымаюць як падвопытных кролікаў — і, нават схаваўшы праўду, усё не перасяляюць.

А пачаў гэта на Беларусі (і сапраўды так) ён, Слюнькоў.

Вядома, не ён адзін, і не ён быў галоўным звяном у Вялікай Агульнадзяржаўнай Ілжы. Але на Беларусі — ён, як на Украіне — Шчарбіцкі, а ў рускіх абласцях — свае кіраўнікі.

Ключавым у той нашай шасцігадзіннай гаворцы быў, бадай што, вось гэты момант. Слюнькоў раптам сказаў:

— Паклікалі нас да Старшыні Савета Міністраў Рыжкова, дык Ляшко (украінскі прэм'ер) паўтары гадзіны плакаўся, клянчыў аб дапамозе, а наш Кавалёў (беларускі прэм'ер) за дзесяць хвілін зрабіў справаздачу. Дык Рыжкоў паляпаў яго па плячы: «Вось, украінцы, вучыцеся ў беларусаў!»

Не ведаю, чаго ў словах Слюнькова было больш: закліку не ехаць, не клянчыць? Вунь як на гэта глядзяць там, наверсе. Ці гэта быў той

шчадрынскі «административный восторг» чыноўніка, пахваленага і заахвочанага, гатовага цяпер у блін распляскацца (і каго заўгодна залажыць), абы толькі яшчэ раз паляпалі па плячы.

І ўсё роўна цяжка растлумачыць, як і што адбылося пасля таго, як пісьмо маё (я яго ўсёткі адвёз і перадаў) было нечакана зачытана на пасяджэнні Палітбюро (4 чэрвеня 1986 года). І Гарбачоў распарадзіўся, каб на Беларусь паслалі камісію. Самая аўтарытэтная камісія выехала: так атрымалася, што я вяртаўся ў Мінск у адным вагоне ледзьве не з двума дзесяткамі міністраў і намміністраў. Яны не ведалі, што гэта я іх вязу ў Мінск, але і я пра гэта таксама не ведаў.

## 2. Эх, Мікалай Іванавіч, што ж вы нарабілі?

У адным з артыкулаў я вось гэтак папракнуў Старшыню Савета Міністраў М. І. Рыжкова, і менавіта за тое, што ён так неасцярожна пахваліў, у прыклад паставіў «сціплых» беларускіх кіраўнікоў. За кошт уласнага народа непатрабавальных і сціплых. І без таго гатовыя пагрэбаваць яго інтарэсамі ў імя партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, пасля таго паляпвання па плячы яны наогул з глузду з’ехалі ў стараннi даказаць, што заахвочвання вартыя. Што азначае хоць бы такі факт: засыпаная радыенуклідамі рэспубліка адпраўляе ў суседнюю, якая пацярпела менш, усе наяўныя палівальныя машыны. Мыць вуліцы, асфальт Кіева, быццам у гэтым не было патрэбы ў беларускім Гомелі ці Магілёве. Ці ж не дзіўна, што маскоўскую камісію яны завярнулі ледзьве не з вакзала: не патрэбна нам дапамога, самі справімся, ды ў нас і не так дрэнна, як вас і Гарбачова інфармуюць гэтыя пісакі! Здавалася б, прыехалі міністры і замы прыборабудавання, саюзнай медыцыны, зам. старшыні Дзяржплана і іншыя — карыстайцеся, дабівайцеся, што льга атрымаць, тым больш што вас ужо абвінаваціць няма ў чым: не вы клянчылі, за вас гэта зрабілі. Нічога такога не адбылося. Наадварот, калі той жа В. Несцярэнка і другі фізік М. Барысевіч заікнуліся аб сапраўдных маштабах радыяцыйнага паражэння на Беларусі — гэта ім дорага каштавала. Іх неадкладна адхілілі ад кіруючых пасад. Заадно нас з Несцярэнкам выкраслілі са спіска тых, хто балаціраваўся ў акадэмікі: і гэта ў нас кантралявала партыя. Але ўсё гэта драбяза ў параўнанні з тым, што зрабілі з Беларуссю, з яе насельніцтвам. Сёння рэспубліка (уся) аб’яўлена зонай бедства. Вядома, Чарнобыль

вінаваты. Але і ўся паслячарнобыльская палітыка кіраўніцтва — прычынай таму.

Жыхары «зоны» ды і ўсёй Беларусі асабліва абураны тым, што сам Слюнькоў «збег у Маскву» — пасля таго, як адмовіўся ад усякай дапамогі рэспубліцы. Але, гэта так. Аднак самае вялікае няшчасце нават не ў адмове ад дапамогі. Не надта ўжо гатовае было кіраўніцтва камісіі па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, той жа кіраўнік камісіі Б. Е Шчарбіна, расшчодрыцца на сур'ёзную дапамогу. Калі Беларусь усё ж папрасіла валюту, каб набыць хоць бы самыя неабходныя прыборы (наколькі ўжо настойліва прасіла, не ведаю), намеснік Рыжкова Архіпаў даслаў такі адказ Савета Міністраў СССР: валюты не будзе, абыходзьцеся ўласнымі рэсурсамі.

Папраўдзе жахлівыя вынікі паслячарнобыльскай палітыкі Слюнькова, Барташэвіча (другі сакратар ЦК КПБ), Кавалёва (Старшыня Савета Міністраў СССР) заключаліся ў тым, што яны сваімі паводзінамі задалі праграму ўсяму дзяржаўнаму і партыйнаму апарату рэспублікі. Напрыклад, поспехі або непоспехі работнікаў медыцынскага нагляду (ад міністра да ўрачоў санэпідэмстанцый) ацэньваліся не па строгасці кантролю за прадуктамі харчавання і г. д., наадварот, наколькі іх дзейнасць і паводзіны адпавядаюць прынцыпу: няма падставы для панікі. І наогул усё ў нас добра. Таму. і ў Мінску на цэнтральным, Камароўскім, рынку, і ў сябе на роднай Магілёўшчыне я назіраў адзін і той жа малюнак: жанчына ў белым халаце суне ў кош з ягадамі ці грыбамі «мікрафон» вельмі грубага, неўспрыімлівага да большасці выпраменьванняў апарата «Д-5» і нават не глядзіць на стрэлку: а што глядзець, усё роўна нічога не пакажа, ды і не патрабуе ніхто ніякай строгасці ці дакладнасці! Падобна, што якраз адваротнага патрабуюць.

А ўжо абысці нават такі кантроль прасцей простага: купі кілаграм-другі ягад ці грыбоў, мяса ці малака хоць колькі, якія ўжо прайшлі «праверку», нясі гэта да жанчыны ў халаце і атрымлівай дазвол на продаж усяго, што ты сам прывёз на базар.

Правілы гульні, зададзеныя на самым версе і ад самага пачатку, вытрымліваліся ўсе наступныя гады — і пры новым кіраўніцтве рэспублікі. Дзейнічаюць яны, бадай што, і сёння. У выніку: замест таго каб лакалізаваць радыеактыўную пляму, і без таго велізарную, яе размазалі па рэспубліцы і за межамі яе. Асабліва таму, што ў заражаных раёнах не толькі не спынілі землеробчую працу і жывёлагадоўлю, а нават нарошчвалі і павялічвалі

планы, імкнучыся як бы і гэтым пацвердзіць, што адпачатковая ацэнка сітуацыі была праўдзівая. Дзе ўзводзілі палацы культуры, харчова-перапрацоўчыя цэхі і да т. п.? — у заражаных раёнах найперш.

Праўду сказаць, сродкі на «ліквідацыю вынікаў» усё-ткі вылучаліся Беларусі, і нават не малыя. Траціць іх можна было толькі ў забруджаных зонах. Ну, і трацілі: не на перасяленне людзей, не на сур'ёзны медыцынскі кантроль і лячэнне, а на адмыўку хат і нават дрэў, асфальтаванне дарог, будаўніцтва школ-інтэрнатаў для дзяцей (каб яны менш былі на вуліцы ці, ратуй Божа, у лесе, на рэчцы) — сотні мільёнаў рублёў і горы будматэрыялаў патрацілі марна, не шкадавалі, абы людзі жылі там, дзе жыць нельга, немагчыма. У партыйных сейфах ляжалі карты з паказаннямі: 40 кюры/км, 140 кюры, 300 кюры, але небяспечнымі «раёнамі жорсткага кантролю» на Беларусі, як і раней (і ў 1987, і ў 1988-1989 гг.), лічыліся толькі некалькі раёнаў.

Так што справа, вядома, не ў Слюнькове толькі, або Шчарбіцкім, або Шчарбіне, Ільіне, Ізраэле, Чазаве — буйных партыйных ці акадэмічных чыноўніках. Яны ўсяго толькі звенні і выява Сістэмы, створанай і ўзніклай з «партыі новага тыпу», ленінскай, пабудаванай на прынцыпе вайсковай арганізацыі. Адрэгуляваная Сталінізм за дзесяцігоддзі тэрору, гэта партыя, якая ўрасла ў дзяржаву, злілася з дзяржаўнымі структурамі, дзейнічала ў паслячарнобыльскай сітуацыі ў адпаведнасці з тымі ж правіламі, тымі ж сродкамі, якія народам нашым ужо каштавалі дзесяткі мільёнаў ахвяраў.

Але навошта гэта Сістэме — такія ахвяры і пакуты людзей? Што гэта ёй давала, магло даць? Яна што, «знарок» шкодзіць людзям? Ды не, проста яна не запраграмаваная на зваротную сувязь, неўспрымальнасць да чужога болю і да чужых, не апаратных, пачуццяў. Гэта тое самае, што папракаць мёртвую прыроду ў неадчувальнасці да ўдараў і болю жывых істот. Тое і яно, што таталітарная сістэма сталінскага тыпу (а яна ўсё яшчэ гэтага тыпу, нягледзячы на перабудову) у нейкім сэнсе мёртвая, неадушаўлёная.

Я потым пацікавіўся ў аднаго сакратара абкама: вы ж ведалі, разумелі, што жыць людзям нельга ў вашых раёнах? Выяўляецца, ведалі ўжо ў 1986 годзе. І нават некаторыя дакладвалі вышэйшаму начальству. І што? А ім адказвалі: у нас ёсць навука і яна сцвярджае, што трэба пратрымацца з паўгодзіка, гадок, клімат на Беларусі сыры, дажджлівы, радыяцыя пойдзе ў грунт, «растворыцца» (вось такая навука!).

— Ну, а што потым?

— А потым да нас прыязджалі самі вучоныя, з інстытута біяфізікі, кажуць, мы не ўлічылі, што ў рэактар, які гарэў, засыпалі пясок, свінец, часціцы выпраменьвання апынуліся як бы ў неразмываемых шкляных капсулах. Кажуць, мы памыліліся.

### 3. «Пара ставіць на месца...»

Неяк па тэлебачанню ў 1989 годзе паказвалі: Міхаіл Гарбачоў прыехаў на Чарнобыльскую АЭС, з ім старшыня Бюро Савета Міністраў СССР па справах энергетыкі Шчарбіна, старшыня Гідраметслужбы Ізраэль і новы дырэктар Чарнобыльскай станцыі. Запэўніваюць кіраўніцтва краіны, што з атамнымі станцыямі цяпер усё ў парадку. А калі дзе і непарадак, дык вінаватыя ў тым пісьменнікі, газетчыкі: перашкаджаюць атамшчыкам працаваць дзеля дабра народа. Нават арганізавалі «голас з народа»: суніміце, маўляў, друк, «неспецыялістаў».

Гарбачоў неяк усё пазбягаў гаворкі, разумеючы, вядома, што чыноўнікі хочуць паказаць народу, на чыім ён баку. А потым усё-ткі паказаў: не, маўляў, без дапамогі грамадскасці цяжка дасягнуць галоўнага — бяспекі АЭС.

Гэта адзін толькі эпізод пастаяннай барацьбы паміж тымі, хто «саркафаг» хацеў бы збудаваць і над самой праблемай Чарнобыля — поўную сакрэтнасць усіх даных, — і тымі, хто ўсведамляў: чарнобыльская катастрофа можа паўтарыцца ў любы момант. Трывога нарастала, як яе ні глушылі, людзей, якія спрабавалі загаварыць уголас пра гэта, усе большала. Але ў друк, на тэлебачанне нас не выпускалі. Калі ў 1987 годзе я выступіў у мінскім Доме кіно перад журналістамі, а тэлебачанне здымала нашу пра гэта гутарку, матэрыял праляжаў «на паліцы» амаль тры гады. Да пары да часу гэта быў наш выключна вусны жанр — чарнобыльская бяда. Для беларускага пісьменніка Віктара Казько і ўкраінца Юрыя Шчарбака, для журналіста Барыса Куркіна і фізіка Рыгора Мядзведзева.

У гэтым жанры я паспрабаваў дасягнуць чагосьці на пленуме савецкіх пісьменнікаў летам 1987 года. Пабываўшы ў Дзяржаграпраме, у гэтым монстры ведамстве, народжаным, як не дзіўна, перабудовай, які ўзначальваў зямляк нашага Генсека Мурахоўскі, пераканаўся: нічога праз апарат дабіцца немагчыма. А хадзіў я да яго з ідэяй-патрабаваннем: забараніць сельгасработы на заражаных землях і практыку змешвання «брудных» радыеактыўных прадуктаў (мяснога

фаршу, малака, яечнага парашку і інш.) з незабруджанымі, чыстымі. Гэта рабілася часткова таму, што «план» на прадукцыю з заражаных раёнаў Беларусі (і, вядома, Украіны, Расіі) нікольки не зніжаўся. А трэба было б землі гэтыя наогул выводзіць з абароту. У адказ я атрымаў пісьмо за подпісам акадэміка М. А. Карнеева, у якім пісьменнікаў запрашалі... на барацьбу з радыефобіяй. І на растлумачэнне народу правільнасці палітыкі ўладаў.

З гэтаю ж праблемай я выйшаў на трыбуну пісьменніцкага сходу. Слухалі. Асабліва калі паведамляў масквічам, што яны ядуць сыр з такога вось змешанага малака. І што гэта наша, беларусаў, удзячнасць за навуковыя рэкамендацыі Маскоўскага інстытута харчавання.

«Литературная газета» набрала тэкст выступлення, але ў цэнзараў быў самы строгі наказ: пра Чарнобыль нічога ў такім духу не прапускаць.

Загадаў такіх і забарон, як выявілася, была процьма. Напрыклад, для медыкаў: ніяк не звязваць захворванні, інваліднасць людзей з заражаных раёнаў (і нават тых, хто непасрэдна ўдзельнічаў у ліквідацыі аварыі) з Чарнобылем. Мне пазванілі з маскоўскай клінікі «ліквідатары», прама аб гэтым паведамілі. І імёны-прозвішчы галоўных кантралёраў над гэтай практыкай назвалі: доктар Гуськова, акадэмік Ільін. (Так, так, тая самая сімпатычная доктар навук Гуськова, з якой гэтак паспяхова доктар Гейл супрацоўнічаў у 6-ай паліклініцы Масквы адразу пасля аварыі. Але адкуль было ведаць амерыканцу тое, пра што і мы даведаліся не адразу. Магчыма, спецыяліст доктар Гуськова і добры, але як бывае карная псіхіятрыя, і яе практыкуюць таксама спецыялісты, так вось і гэтакая радыялогія бывае — якая служыць не людзям, а Сістэме.)

Калі я хадзіў у Дзяржаграпрам, выступаў на пісьменніцкім пленуме, у мяне, ужо, здавалася, навучанага Слюньковым і яго камандай, усё роўна заставаліся ілюзіі, што яны там наверсе маюць патрэбу, бедныя, у нашай дапамозе. Хіба ж не будзе рады ў глыбіні душы новы сакратар ЦК Беларусі Яфрэм Сакалоў, калі нехта там, без яго старання і рызыкі з яго боку, даможацца скарачэння плана на цэнтралізаваныя пастаўкі. Усё тое ж наіўнае неразуменне наша, што ім нічога так не шкада, як улады, якой яны зусім не схільныя дзяліцца, улады і аўтарытэту. Ім усё здаецца, што калі, напрыклад, нешта карыснае хочуць зрабіць нефармалы, народныя франты (ці вось такія адзіночкі-пісьменнікі) —

гэта замах на аўтарытэт партыі (а значыцца, і іх асабіста). М. М. Слюнькоў прама заявіў: «Гэты пісьменнік думае, што ў яго аднаго душа баліць за рэспубліку!»

У газеце маё выступленне не з’явілася. Але ж на стале ў кіраўнікоў рэспублікі — неадкладна. Доўгацярпенне іх лопнула. Былі запрошаны рэдактары газет, узнікла нават ідэя новага выдання для гэтакіх спраў — «Политического собеседника». Формула-ўказанне: «Усё, пара іх ставіць на месца!» (Калі яны распрацоўваюць вось такія хады за дзвярамі кабінетаў, то ім здаецца, што мы пра гэта не даведаемся.)

З гэтага пачалася актыўная газетная і вусная кампанія, у выніку якой я апынуўся жыхаром Масквы. Што ж, бліжэй да Гарбачова, да перабудовы — свае ў гэтым перавагі. І я іх неўзабаве скарыстаў.

### 4. Другое пісьмо

З ленінградцам Даніілам Граніным вырашылі мы ісці на Старую плошчу да Гарбачова з нашымі агульнымі пісьменніцкімі праблемамі. Гэта была ўжо вясна 1988 года. У Маскве свая барацьба — за ўплыў на ход перабудовы з боку дэмакратаў ці кансерватараў — з ліку пісьменнікаў. Хіба магло нам падабацца, калі ад імя пісьменнікаў (г. зн. і ад нашага імя) на партыйных з’ездах красамоўнічаюць, напрыклад, дрымучы лігачовец Маркаў ці ўлюбёнец генералаў — Карпаў. Што ў нас з імі агульнага — членства ў адным Саюзе пісьменнікаў? Дык навошта гэткі Саюз — прыстанак для лігчыноўнікаў...

Вядома, ідучы на сустрэчу, аглядалі, як тут уладкаваўся наш, тады яшчэ абсалютны кумір, Міхаіл Сяргеевіч: у сакратара ЦК Беларусі кабінет і мэбліроўка куды больш унушальныя! Устаў насустрач, вітаючыся. Да мяне: «А, Олесь! Ці па-беларуску як: Алесь?»

Здавалася, трэба падзякаваць яму за тую неадкладную рэакцыю на маё пісьмо пра Чарнобыль, пра Беларусь.

— А, тое тваё перапалоханае пісьмо!

Гарбачоўскае «ты», я ведаю, некаторых абурае, але я і сам часта збіваюся на гэткае панібрацтва. З людзьмі нават малазнаёмымі. Наша нявыхаванасць: у мяне — партызанская, у яго — спецыфічна партыйная. Добра, каб гэта быў наш самы вялікі недахоп.

Аднак пра пісьмо ён сказаў: «перапалоханае». Вось гэта і збылося — з такою інфармацыяй, з такім заключэннем вярнулася тады да яго ільінска-ізраэлеўская камісія. Ясна, што дакладзена было: перабольшванні, эмоцыі неспецыяліста, пісьменніка, яны такія!

— Ну, як у вас на Беларусі справы?

— Справы куды горшыя, чым я пісаў тады.

З дзвюх гадзін агульнай гутаркі, прынамсі, палову часу забраў Чарнобыль.

Усё, што не знаходзіла выхаду ў друку, я стараўся, спяшаўся выкласці першай асобе ў дзяржаве. Прыкметна было, што такая інфармацыя сюды проста не даходзіць. Пазмрачнелы Гарбачоў раптам сказаў:

— Напішы мне пра ўсё гэта. Напішы.

Падбадзёраны, я вырашыў «пашырыць прарыў» — загаварыць наогул пра атамную энергетыку ў нашых умовах. Паведаміў, які апакаліптычны «графік» пакінуў акадэмік Валерый Аляксеевіч Лягасаў, які скончыў самагубствам. Прадыктаваў мне (я аднойчы наведаў яго ў бальніцы) графік «новых Чарнобыляў», г. зн. паслядоўнасць будучых выбухаў станцый чарнобыльскага тыпу. А іх — пятнаццаць рэактараў.

— Ну, Лягасаў таксама ў многім вінаваты…

Сапраўды, да таго, як самаахвярна тушыць Чарнобыль і затым прыйсці да драматычных вывадаў аб усёй нашай энергетычнай палітыцы і практыцы, гэты ўлюбёнец лёсу цалкам упісваўся ў структуры і дзеянні, што прывялі да Чарнобыля.

— Мабыць, так, — запярэчыў я Гарбачову, — але ён хоць бы выкупіў і гэтак страшна свой грэх, а іншыя…

— Чаму ж нам яны не паведамляюць пра гэта?

— Я пытаў у Лягасава: ці ведаюць пра гэта іншыя вучоныя? Ведаюць, адказаў. А чаму маўчаць? Кланавая зацікаўленасць.

Гарбачоў зірнуў на памочніка свайго Івана Фралова, які сядзеў за сталом разам з намі:

— А праўда ж, напэўна: кланавая.

І зноў паўтарыў:

— Напішыце мне пра гэта.

І нават тэрмін указаў:

— Да восьмага сакавіка пастарайся.

Гэтая гаворка, здавалася б, выпадковыя яго фразы многае мне растлумачылі потым — у падзеях, якія адбыліся пасля нашай сустрэчы.

Пісьмо я напісаў, перад гэтым абзваніўшы знаёмых мне акадэмікаў (сустрэцца — часу не заставалася), шукаючы пацвярджэння або абвяржэння нейкіх сваіх думак і ўяўленняў — у Веліхава, Вараб'ёва, Капіцы, Гальданскага, Майсеева.

Падзеі развівацца сталі ў нечаканым напрамку, як гэта часта бывае з Гарбачовым: самую моцную карту выкладвае, калі ніхто не чакае. Калі ён патрабаваў: напішы мне! — мабыць, нешта планавалася ўжо. І гаворка

толькі падштурхнула ўжо наспелае. Таму і тэрмін называўся, прыспешваў з пісьмом, з інфармацыяй, якую пачуў.

Далей — з чужых слоў. У Гарбачова (прысутнічаў і Рыжкоў) сабраныя былі «атамшчыкі»: кіраўнікі, вучоныя. Ну, як, маўляў, справы пасля Чарнобыля? Справаздачы пайшлі: робіцца, зроблена ўжо тое і тое, вось такія цяжкасці, але адольваем. Звычайная чыноўніцкая гульня-нагляданне, якая ні да чаго не вядзе: а чаго нас сюды ўсё-ткі паклікалі?

І тады загаварыў Гарбачоў: яшчэ адзін Чарнобыль, і нас з вамі не будзе тут — гэта вы разумееце? Краіна не вытрымае новага Чарнобыля, народ не даруе. Бяспека станцый — галоўная мэта і задача. Патрэбен, магчыма, спецыяльны інстытут па бяспецы АЭС...

Але самае галоўнае, «казырнем»: кожны з вас едзе на нейкую АЭС і прывозіць заключэнне, пад асабістую адказнасць, наколькі станцыя надзейная.

Ваша кланавая, кругавая безадказнасць — гэта больш не пройдзе! — так, мабыць, прагучала.

І вось што адбылося праз дзён дзесяць: адзінаццаць (!) рэактараў прапанавана было рыхтаваць да спынення. Перапалох узняўся ў Савеце Міністраў: а чым кампенсаваць энергію іх?

І хоць закрылі ў выніку ўсяго толькі Армянскую АЭС, але прысуд паслячарнобыльскай безадказнасці і паказусе быў абвешчаны. Важна было не даць заглухнуць імпульсу.

Вось чаму я вырашыў друкаваць пісьмо ў выглядзе артыкула. Я ведаў, што некалькі чарнобыльскіх артыкулаў (Р. Мядзведзева, Б. Куркіна і інш.) ужо ляжаць у рэдакцыях часопісаў, але толькі Ю. Шчарбаку ў «Юности» ўдалося надрукаваць «рэпартаж-голас» Чарнобыля. Вырашыў прабівацца праз «Новый мир».

Артыкул набралі, пайшоў у цэнзуру — і, вядома, у «дырэктыўныя органы». У ЦК, да Шчарбіны, у Савет Міністраў, куды яшчэ, можна толькі гадаць. У «Новый мир» неадкладна былі дасланы тры пісьмы вучоных высокага службовага чыну, якія абслугоўваюць атамнае ведамства.

«Выступленне ў друку, зварот у вышэйшыя партыйныя органы пісьменніка А. Адамовіча па праблемах атамнай энергетыкі, у прыватнасці прапанаваны да публікацыі ў часопісе «Новый мир» артыкул, не дазваляюць спецыялістам у галіне энергетыкі заставацца ў баку ад гэтай мэтанакіраванай кампаніі...»

І далей на некалькіх старонках акадэмік М. М. Панамароў-Сцяпны і доктар фізіка-матэматычных навук А. Ю. Гагарынскі сцвярджалі, што такія, як Адамовіч, наносяць удар і «неда-

пушчальную шкоду народнай гаспадарцы ў самы крытычны для яе перабудовы перыяд».

Другі вучоны, намеснік дырэктара Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР К. І. Гардзееў, спасылаючыся на фрагмент майго артыкула, апублікаваны ў «Московских новостях» (нам пашанцавала праравацца спачатку з фрагментам, «МН» № 29 за 1988 г.), асабліва быў абураны сцвярджэннем, што «ўсё звязанае з радыяцыйнымі вынікамі аварыі або замоўчваецца, або скажаецца, і істотна, каб дагадзіць «атамнаму ведамству»... З гэтым немагчыма згадзіцца, бо падобнае сцвярджэнне цалкам адмаўляе велізарную і шматбаковую працу, якую з першых дзён аварыі пастаянна выконваюць у пацярпеўшых раёнах спецыялісты медыцыны, Дзяржкамгідрамета, Аграпрама, працаўнікі мясцовых і цэнтральных савецкіх і партыйных органаў па давядзенню да насельніцтва параметраў фактычнай радыяцыйнай сітуацыі ў кожным населеным пункце...» і г. д., і г. д.

Я не адказваў доктару тэхнічных навук Гардзееву, гэтак жа як і А. П. Паваляеву, «намесніку начальніка Галоўнага ўпраўлення» розных службаў Дзяржаграпрама, а калі б давялося, спытаў бы: які, напрыклад, удзел іх ведамствы прымалі ў свядомым пазбаўленні ўсяго насельніцтва дазіметраў. Вось так яны «даводзілі да насельніцтва» праўду пра радыяцыйную сітуацыю: усяляк тармазілі (і ўсё яшчэ тармозяць) выпуск індывідуальных дазіметраў.

Не, пісьмы гэтых вучоных былі для нас, для рэдакцый, як дар неба. Цяпер можна было надрукаваць іх таксама, каб суправаджалі артыкул пісьменніка, як канвой. Плюралізм думак!

Што ж іх (і не толькі іх) усхвалявала гэтак у маім пісьме Гарбачову (якое дайшло да іх як артыкул)?

Вось ён — у завершаным выглядзе.

## 5. «Далібог, больш не ўзарвецца, або Меркаванне неспецыяліста...»

Чарнобыль, сітуацыя на Беларусі змусілі і мяне займацца тым, чым ніколі не займаўся і нават не ўяўляў, што давядзецца. Такое з многімі сёння здараецца, і ўсю лаянку на адрас неспецыялістаў, якія лезуць не ў сваю справу, я гатоў прыняць і на сябе. Аднак не займацца «не сваёй справай» я таксама не магу, не ў стане, не маю права: занадта блізка закранае нас усіх тое, што робяць спецыялісты, вынікі іх дзейнасці.

Абмоўлюся, аднак: тое, што выказваю, імкнуўся праверыць і пераправерыць у

спецыялістаў самага высокага класа. На іх час ад часу і буду спасылацца. Вядома, ні на каго не перакладваючы адказнасць за свае думкі і вывады.

Восенню 1988 года сустракаўся з чалавекам, які потым, але менавіта ў самотную гадавіну чарнобыльскай катастрофы, правёў страшны разлік з уласным жыццём. Акадэмік В. А. Лягасаў знаходзіўся тады ў бальніцы, мы з ім доўга гутарылі, некалькі разоў ён званіў па тэлефоне ў свой інстытут, потым прыйшоў доктар, я выйшаў пачакаць у калідор, але паспеў улавіць іх узважваючую, з лічбамі, гутарку пра «формулу крыві» Валерыя Аляксеевіча.

Перачакаўшы медыцынскі агляд, вывучаў свае нататкі, каб працягнуць нашу гаворку. Што мяне ўразіла: гранічная шчырасць і нейкая спавядальнасць Лягасава перад чалавекам, увогуле кажучы, яму далёкім, з якім бачыцца ўпершыню. Незадоўга да таго я атрымаў ад яго пісьмо:

*«Глыбокапаважаны Аляксандр Міхайлавіч!*

*З «Литературной газеты» даведаўся пра Ваш намер напісаць твор, прысвечаны чарнобыльскай трагедыі[1]. Я знаёмы з Вашымі творамі і таму вельмі рады, што менавіта Вы вырашылі ўзяцца за гэтую працу. Але мяне непакоіць, што шырока вядомы толькі вонкавы бок гэтай найвялікшай трагедыі: памылкі і трусасць адных людзей, беды і псіхалагічны шок другіх, гераізм і вынаходлівасць трэціх. Людзей жа, якія ведаюць сапраўдныя вытокі і магчымыя вынікі Чарнобыля, вельмі мала, ды і абмежаваная большасць з іх у магчымасцях выказацца. Так склалася мая навуковая і чалавечая біяграфія, што, не будучы стваральнікам атамных рэактараў, я ў выніку сваіх прафесійных і службовых абавязкаў бачыў задоўга да 26 красавіка, як нараджалася чарнобыльская трагедыя, ведаю, хто біў ва ўсе званы, а хто абрэзваў гэтым званам языкі, удзельнічаў у прыняцці асноўных рашэнняў па ліквідацыі вынікаў аварыі, і цяпер мой галоўны клопат — як пазбегнуць падобных катаклізмаў у будучым. Таму прапаноўваю Вам свае веды і ўласнае разуменне падзей, з тым, каб Ваш твор быў не толькі высокага мастацкага ўзроўню, у чым я не сумняваюся, але і гістарычна дакладным.*

В. Лягасаў».

Улавіў я — не, не цяперашняе гэта, а таго часу адчуванне! — нешта трагічнае ў аблічча,

[1] Гаворка ішла пра запланаваны фільм сумесна з Стэнлі Крэймерам.

у душэўным стане чалавека, з розных бакоў прычаснага да чарнобыльскай катастрофы. Прычаснага і да будаўніцтва і размяшчэння АЭС (у якасці найбліжэйшага памочніка былога прэзідэнта АН СССР А. П. Аляксандрава), і да найцяжэйшай, самаахвярнай і небяспечнай працы па ўтаймаванню «мірнага атама» ў Чарнобылі.

Аднак многія з буйных спецыялістаў былі прымаемыя. Так ці інакш. Ды толькі не ўсе потым належна адрэагавалі на сітуацыю. Некаторыя і гэтак: «Навука патрабуе ахвяр». Нехта з іх спакойна пайшоў пасля Чарнобыля на «заслужаны адпачынак», нехта працягвае гэтак жа бяздумна, як і раней, працу па «аэсізацыі» нашай краіны...

Вось яна, гутарка з акадэмікам Лягасавым, якую я тады запісаў. (Пачутае ад яго потым вісела нада мной як навальнічная хмара. Проста не ведаў, куды і да каго з гэтым бегчы...)

— Наступны Чарнобыль можа здарыцца на любой з станцый гэтага тыпу. Але самая магчымая паслядоўнасць: Армянская АЭС, Ленінградская, Ігналінская...

— Вы ў гэтым перакананыя? І я магу запісаць гэты ваш графік?

— Можаце запісаць. Не так гэта проста цалкам ліквідаваць найважнейшыя састаўныя чарнобыльскай катастрофы. Гэта хібы канструявання і няякаснага будаўніцтва. Гэта дасюль не знойдзеныя прынцыпы стварэння цалкам надзейных аварыйных сістэм для такіх станцый. Гэта немагчымасць надбудаваць над імі «каўпакі» хоць бы цяпер. А таму паўтарэнне таго, што здарылася, не выключана. (Зрэшты, як і на нашых хімічных камбінатах, Днепрапятроўскім найперш.)

— Гэта разумеюць і іншыя вучоныя?

— Разумеюць многія.

— Чаму ж не гавораць ураду?

— Мабыць, спрацоўваюць старыя ўяўленні: усё роўна ніхто не пачуе, раз такая «лінія». Занадта вялікая інерцыя, устаноўка на атамныя станцыі насуперак усяму. Мы прыступілі са спазненнем на дзесяць гадоў да шырокага іх будаўніцтва і таму рванулі з месца ў кар'ер, але ўлегцы, эканомячы на «каўпаках» і іншым, каб толькі больш, пабольш за тыя ж сродкі. Спыніцца ўжо нялёгка. Але галоўнае: на ўсім гэтым і за ўсім гэтым інтарэсы ведамасныя, інтарэсы людзей, пасад, групавая, у тым ліку і інтарэсы розных навуковых напрамкаў. Я вось збіраюся пра гэта пра ўсё напісаць, звярнуцца наверх...

Смерць Валерыя Аляксеевіча Лягасава цяжка, важка пацвердзіла значнасць і

выпакутаванасць таго, што ён тады казаў, а я, аглушаны, запісваў...

Будаўніцтва новых АЭС працягваецца, хаця і па крыху скарочанай праграме. Пераарыентаваныя на ВВЭР (водна-вадзяныя, з вадой пад ціскам) станцыі, якія ў свой час лічыліся менш перспектыўнымі, больш дарагімі, як рэактары вялікай магутнасці, кіпячыя, канальнага тыпу (РБМК).

Гарантыя? Не больш чым у старой камедыі, дзе прадавец вымаўляе: «Чым тавар даражэй, тым ён лепей».

А мы ж і ўчора (да Чарнобыля) чулі-чыталі пра тое ж захапленне, хвалу на адрас РБМК, якія сёння звернуты да станцый тыпу ВВЭР. (Праўда, ужо не кажуць, што іх «можна ўстанаўліваць на Краснай плошчы».)

Адначасова самі ж прыхільнікі беспераfurпыннага, безагляднага будаўніцтва патэнцыяльных Чарнобыляў вымушаныя згаджацца: так, толькі праз адно-два дзесяцігоддзі навука і тэхніка, стварыўшы прынцыпова новыя схемы і канструкцыі ядзернай энергетыкі (магчыма, на новым гаручым), больш ці менш здымуць праблему катастрафічных аварый, а можа, і праблему пахавання радыеактыўных адходаў і да т. п.

Так што, можа, разумней — перасядзець гэтыя «пераходныя» гады на нашых усё яшчэ значных запасах газу, вугалю, нафты? Акадэмік А. Я. Шэйндлін і яго Інстытут высокіх тэмператур АН СССР лічаць зусім ажыццявімай задачу — спальваць вугаль без лішняй шкоды нам і навакольнаму асяроддзю. А то прыхільнікі АЭС усё збівалі нас з толку сцвярджэннямі, быццам Чарнобыль не больш шкодны за дым і сажу цеплавых станцый.

На гэты шлях сталі многія еўрапейскія краіны, амерыканцы: традыцыйная энергетыка плюс энергазберагальная тэхналогія. І наогул яны стараюцца зберагчы там, дзе мы марнатравім па старой звычцы.

За кошт толькі энергазберагальнай тэхналогіі ў ЗША скарацілася ўжыванне нафты ледзьве не на 25 працэнтаў. Гэта колькі ж АЭС трэба было пабудаваць? Але яны ўжо не будуюць новыя. « Пасля аварыі ў 1979 годзе на «Тры-майл-айленд» — ніводнай новай АЭС Ліквідавалі або закансервавалі нават тыя, якія былі гатовыя на 70-80 працэнтаў. (Будаўнічыя кампаніі гэтыя блокі паступова ўводзяць у строй, але новага заказу на АЭС — ніводнага.)

Тое ж — ФРГ, Англія, Швецыя, Іспанія, Швейцарыя, Канада, Бельгія (ніводнага заказу на АЭС з 1981 года). І вось інфармацыя з «трэцяга свету»: «Бразілія не ў стане фінансаваць сваю атамную праграму; на Філіпінах устаноўлены новы, але не прыгодны

да работы рэактар; у Індыі, Пакістане і Аргенціне множацца аварыі і катастрофы на АЭС, якія паралізуюць іх работу. Паўсюль адчуваецца востры недахоп грошай, нават на рамонтныя работы. Атамнай эйфарыі мінулых гадоў... у краінах «трэцяга свету» надышоў канец, і новыя АЭС амаль нідзе больш не будуюцца» («Литературная газета» ад 16 сакавіка 1988 года. Перадрукоўка з часопіса «Шпігель»).

Некаторыя краіны вяртаюцца да малых ГЭС. Яны ўспомнілі пра вецер, прылівы, сонца (хаця ў іх няма Каракумаў). Але найперш — энергазберажэнне, энергазберагальная тэхналогія, за якую ў нас сёння так выступае акадэмік Веліхаў Я. П. (Яўген Паўлавіч мне паказваў амерыканскі фільм, дзе людзі ў сучасных дамах жывуць, як астранаўты ў сваіх апаратах: усё эканомна, рацыянальна і цудоўна — бо не за кошт рэсурсаў, якія належаць нашчадкам, а наадварот, зберагаючы дзеля іх багацце зямлі.)

У нас, гігантаманаў, малыя ГЭС цалкам знішчаныя. Дальнабачныя нашы вучоныя і канструктары занава сёе-тое робяць, не, ужо зрабілі: ленінградцы распрацавалі гідраэнергетычныя ўстаноўкі, якім не патрэбны высотныя плаціны, якія не затапліваюць землі, не забруджваюць ваду — адным словам, ашчаджаюць і берагуць прыроду. Іх купляе Аргенціна, еўрапейцы. Вось нешта не чутно толькі, каб мы самі іх устанаўлівалі. Або недастаткова «маштабна» і затратна для нас?

Мы заклалі, будуем яшчэ з дзесятак АЭС і блокаў. Акадэмік М. М. Майсееў неяк звярнуў маю ўвагу: «Паглядзіце на гэты жахлівы ланцуг — з поўдня на поўнач!» (Ланцуг АЭС, які скаваў нас па руках і нагах і аддаў у заложнікі чарговым аварыям, калі наогул не тэрарыстам. Пра тэрарыстаў, дарэчы, акадэмік таксама ўспамянуў!)

Падумалі б хоць раз і ўсур'ёз усе гэтыя аптымісты-энтузіясты нястрымнай «аэсізацыі» энергетыкі пра тое, што будзе з народам, краінай (ды мы проста надломімся!), калі ахне яшчэ адзін Чарнобыль.

Спасылаюцца на адзіны прыклад — Францыю. Там АЭС складаюць 70 працэнтаў ад агульнай энергетыкі. Але ў іх няма нашых нетраў, якія даюць нам магчымасць не ўлазіць глыбока ў лавушку, у пастку, куды трапіла Францыя. Цікава, куды яны ўсе схаваюцца — французскія палітыкі і спецыялісты, што выступаюць за АЭС, — калі здарыцца непазбежнае — іх Чарнобыль? Гэта выдатна разумеюць спецыялісты маштабу А. Д. Сахарава і таму раяць будаваць гэтыя АЭС калі іх будаваць, пад зямлёю, у стометровых граніт-

ных калодзежах. А не так і не там, дзе ўпарта бачылі іх, напрыклад, былы старшыня Дзяржкамітэта па выкарыстанню атамнай энергетыкі СССР А. М. Петрас'янц і іншыя аптымісты-энтузіясты: у самых заселеных раёнах — проста на галаву мільёнам людзей і абавязкова ля вытокаў жыццёсілкуючых рэк (Волгі, напрыклад).

Не аб пабудове новых клапаціцца б гэтым людзям, калі ўжо яны так ці інакш маюць дачыненне да Чарнобыля, таксама вінаватыя ў нашай бядзе, а аб тым, каб мірна расстацца з вельмі, як выявілася, нямірным атамам — з некаторымі станцыямі, якія працуюць ужо. (Што называецца, злавілі мядзведзя: «Цягні сюды!» — «Не магу!» — «Тады ідзі сам!» — «Не пускае!») Зноў і зноў на гэтых АЭС нешта здараецца.

Мара: хаця б ужо сапраўды мірна выпрацавалі свой рэсурс, а затым бы іх урачыста пахавалі. (А яшчэ лепш пахаваць датэрмінова. Ад грэху далей!) Тым часам, калі сваёй галавы няма, дачакаліся б, даведаліся, куды паверне сусветная навука і практыка. Зрэшты, свае галовы і ёсць і былі, адно што не слухалі, не чулі іх. П. Л. Капіца настойваў на тым, што неразумна будаваць АЭС у густанаселеных раёнах і наогул у еўрапейскай частцы СССР.

Любы новы Чарнобыль будзе страшней за ранейшы яшчэ і таму, што ён стане і крахам перабудовы, за ім пачнуцца непрадказальныя сацыяльныя, сусветныя катаклізмы. Перабольшанне? Не! Шокавае здранцвенне першага Чарнобыля наўрад ці паўторыцца. І масавы гераізм — таксама. Можна чакаць чагосьці зусім іншага, куды больш гнеўнай рэакцыі: ды што ж гэта на самай справе з намі вырабляюць? Колькі можна?!

Вунь як мы выклалі ўсю еўрапейскую частку сваёй тэрыторыі атамнымі станцыямі: Арменія, Літва, Ленінград, Курск, Смаленск, Роўна, Кіеў, Запарожжа, Адэса, Феадосія, Растоў-на-Доне, Харкаў, Варонеж, Горкі, Куйбышаў, Саратаў, Калінінград, Уфа, Архангельск... Нават у Крыме ўзяліся будаваць!

Што яшчэ можа не трапіць у трыццацікіламетровую зону? Якія гарады-мясцовасці? Сталіцы — якія? Хіба толькі Мінск: АЦЭЦ, што будуецца якраз за трыццаць кіламетраў ад яго, здаецца, перарабляваем на «неатамную». Усёткі не адважыліся нашы атамшчыкі паднесці яшчэ і АЦЭЦ — прама ў сталіцы. Гэта быў бы ўжо відавочны перабор пасля ўсяго, што Беларусь атрымала ад іх...

У энтузіястаў паўсюднай «аэсізацыі» нервы моцныя. Калі ўжо яны (вуснамі Петрас'янца) у першыя ж дні маглі кінуць прама ў твар, у

вочы жанчынам і дзецям, якія беглі ад Чарнобыля, як у свой час ад фашыстаў: «Навука патрабуе ахвяраў», — тады з нервамі ў гэтых людзей усё ў парадку.

А як жа з сумленнем і грамадзянскай адказнасцю?

Не, і тут, як і ў выпадку з меліяратарамі, без крутога ўмяшальніцтва грамадскасці нам не ўратавацца. Не спыніць ведамаснае вар’яцтва, калі «праекты веку», паводле слоў Б. А. Куркіна, занадта пачынаюць нагадваць «злачынствы веку». Цяперашняя існуючая ядзерная энергетыка, як і магчымая ядзерная вайна, закранае лёс усіх. («Мірны» і «ваенны» атамы пасля Чарнобыля ў нашай свядомасці, ды і ў рэальнасці прынцыпова зблізіліся.) Таму не павінна заставацца праблема развіцця атамнай энергетыкі ў зоне маўчання, ці недамовак, ці прамой хлусні.

Дарэчы, чаму гэта атамная энергетыка (сусветная) плавае ў хлусні? Вугаль, нафта — гісторыя іх асваення суправаджалася не сказаць каб маральнымі ўчынкамі многіх і многіх (краін, людзей). Але ж каб гэтулькі хлусні? Пракляцце вісіць над атамам! Якім бы «мірным» ён не прыкідваўся.

Вось куды трэба болей святла!

Не, дзеячы кшталту Петрас’янца яшчэ не сталі днём учарашнім. А тым больш не сышла традыцыя, інерцыя старога мыслення ў пытаннях новай энергетыкі. Новае мысленне, накіраванае перш за ўсё на выжыванне роду чалавечага, неабходна тут не менш чым у поглядзе на войны і зброю масавага знішчэння.

Акадэмік В. І. Гальданскі сцвярджае: адна ўзарваная тэрарыстамі (ці ў выніку «малой» вайны), зруйнаваная цалкам АЭС магутнасцю ў адзін мільён кілават атруціць столькі і стольkіх, як і ядзерная бомба ў адну мегатону.

Калі ж улічваць доўгачасовае ўздзеянне радыяцыі ад зруйнаванага цалкам Чарнобыля (на шчасце, з яго выплюхнулася толькі 3,5 працэнта гаручага), то вынік быў бы адэкватны выбуху бомбы ў 10 мегатон.

Вучоныя (акадэмік АМН СССР А. І. Вараб’ёў і іншыя) нарэшце згадзіліся: асноўны ўдар Чарнобыля выпаў на Беларусь — аб гэтым усе замеры крычаць. У колькі разоў больш тут выпала, чым на ўкраінскія землі (якім таксама хапіла), — пра гэта вучоныя яшчэ скажуць[1]. Але хто і што атрымаў (у сэнсе дапамогі, увагі), той ужо атрымаў. Тым большай увагі патрабуюць сёння, хаця і са спазненнем, іншыя пацярпелыя зямля і людзі. І яны б усё гэта, вядома ж, атрымлівалі больш акуратна,

[1] А. І. Вараб’ёў лічыць, што ў 8-10 разоў.

калі б не перашкоды з боку менавіта тых, хто ў бядзе і вінаваты, — атамнага ведамства.

Наводзячы густы цень на ўсё, што адбываецца ў гэтых раёнах, — цень таямніцы, закрытасці ўсяго, — атамнае ведамства дабіваецца галоўнай мэты: зменшыць маштабы бедства. Каб захаваць і твар свой, і сваю праграму пабудовы новых АЭС, фінансы і да т. п.

Бо калі ўсур'ёз дапамагаць тысячам і тысячам людзей, абследаваць і ратаваць іх не толькі ад прамых ці ўскосных захворванняў, але і абпраменьвання, якое працягваецца (напрамую і праз прадукты харчавання), калі перасяляць у сапраўды бяспечнае месца, тады выявіцца, што ўсё-ткі важней людзі, у сотнях і сотнях па-ранейшаму небяспечных населеных пунктах за межамі трыццацікіламетровай зоны, — у той час як для ведамства заўсёды за ўсё важней ведамасная таямніца і ведамасны аўтарытэт...

Ужо трубяць, што людзям можна і ў трыццацікіламетровую зону вяртацца. Бяспечна, маўляў. А галоўнае, яны самі хочуць, вунь — просяцца.

Яшчэ б! Людзі ж праўды не ведаюць. Не разумеюць. І тыя, хто жыве ў забруджаных раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей, не ведаюць. І трымаюцца за свае агароды, якія сталі небяспечнымі, хоць бяду і чуюць. І скажы ім праўду, пераедуць у Віцебскую вобласць, куды іх паклікалі было, а потым і клікаць перасталі. Будзем прыкідвацца, быццам не так страшна, а там пабачым!

А там, прадказвае навука (напрыклад, акадэмік А. І. Вараб'ёў), праз тры-чатыры гады — усплёск лейкеміі, белакроўя, праз дзесяцьдваццаць, у залежнасці ад узросту людзей, ракавыя захворванні, катаракты, прыроджанае калецтва і г. д.

Ужо зараз ва-ўсю лютуе «радыяцыйны СНІД» — увесь набор звычайных хвароб у вострай форме, выкліканы аслабленнем ахоўных імунных сіл. Вясковыя дзяды, моцныя, бы палескія дубы, раптам сталі сыпацца. Ну, а дзеці — тут бы ўсур'ёз запытаць праўдзівую статыстыку! А не тую, якую атрымліваем. Ёсць такая, напрыклад, свойская хітрасць: дзяцей на лета вывозілі з забруджаных раёнаў, тут жа падлічылі, колькі маці брала бюлетэняў па доглядзу за дзецьмі: выявілася, менш, чым раней, — ура, хварэюць радзей, чым да Чарнобыля!

Вось так і жывём!

Ці яшчэ: малюнак статыстыкі хвароб і смяротнасці вывучаем у маштабах вобласці (Магілёўскай, Гомельскай), а не ў канкрэтных заражаных раёнах (Брагінскім, Краснапольскім, Чэрыкаўскім, Слаўгарадскім і інш.). Супас-

таўляем, як было да і пасля, і радуемся: і хварэць, і паміраць сталі менш! Не, а вы ў тых жа вёсках супастаўце — і сумленна, сумленна! Ці дапамагае ім «палепшанае медыцынскае абслугоўванне»?..

Ужо ж медыцына дакладна разумее, што і да чаго. Разумее — гэта бачна. Калі камісіі наязджаюць у гэтыя раёны — абавязкова з тэрмасамі і сваімі бутэрбродамі. Прастадушныя беларускія сяляне накрылі сталы (па тэлевізары мы гэтую сарамату назіралі), а медыкі аднекваюцца: маўляў, сытыя-напоеныя яшчэ з Масквы. Маўляў, у вас тут так міла! І беларускае сала такое (з выгляду) апетытнае! Абавязкова прыедзем з сем'ямі адпачываць да вас!

Не адзін толькі гераізм нашай медыцыны высветліла чарнобыльская ўспышка. Так, многія дактары, радавыя, там, на месцы, апраўдалі і цяпер апраўдваюць сваё высокае званне. Але і гэта факт: толькі медык ва ўрадавай камісіі не падпісаў заключэнне аб хоць бы запозненым высяленні Прыпяці, патрабаваў дачакацца, калі вецер паверне на горад і набярэцца столькі бэр, колькі прадугледжана ў інструкцыі. А што міністры аховы здароўя Украіны і Беларусі казалі, як інфармавалі-інструктавалі сваё насельніцтва: можна было падумаць, што не радыяцыя прасыпалася, а манна нябесная!

О, гэтае чыноўніцкае захапленне дачыненнем да тых, хто прымае рашэнне, за кім аўтарытэт улады, у каго ў руках «таямніца» (у наш час названая інфармацыяй), ад каго ідзе «дзіва» — рашаць чужы лёс! Першыя тыдні, месяцы Чарнобыля ў нас на Беларусі, як нідзе, магчыма, нагадвалі 1941-ы, Перш за ўсё — гора і разгубленасць маці і дзяцей, сарваных у бежанства, якія ў адначассе страцілі свой звыклы надзейны свет. Колькі разоў гэта адбывалася ў нашай гісторыі!

Так, ужо ў гэтым 1941-ы паўтарыўся цалкам. Па непадрыхтаванасці нашай да разумных дзеянняў і заўсёднай падрыхтаванасці толькі да аднаго — маны ва ўратаванне. Проста фантасмагарычнай маны народу, самім сабе. «Вораг трусліва наступаў»— класічная журналісцкая формула жніўня 1941-га. І такая ж класічная пра салаўёў, якія спявалі над Прыпяццю вясной. 1986-га.

...Сцэна ў прыёмнай ЦК Беларусі — я таксама памкнуўся да чалавека, дзеянні, учынкі якога ў тыя дні выгадна адрозніваліся ад усяго, што можна было назіраць. Магчыма, таму што Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін — франтавік і помніў, колькі бед нам прынесла вечная практыка баяцца незадаволення

вышэйшага начальства больш, чым атакі ворага…

Сюды ўвайшла (не, укацілася, шумна працягваючы гаворку) вельмі нейкая круглая група тоўсценька-круглых людзей. Адчуванне акругласці, круга ўзнікала, мабыць, таму, што ў групы быў выразны цэнтр, крыніца энергіі, якая закручвала ўсіх вакол сябе, — сам міністр аховы здароўя БССР. Выцясняючы адзін аднаго, раўніва падмінаючы чужыя галасы, акружэнне яго завяршала гаворку, раней пачатую тэму: як справіцца з несвядомасцю мацярок з тых раёнаў? Прыехалі з дзецьмі, прыбеглі, ну, добра, дзяцей прывезлі і пакіньце — вас жа саміх мы трымаць тут не абавязаныя! Не хочуць вяртацца. Сеюць толькі паніку, атрымліваецца, што там зусім дрэнь справы, і не толькі ў трох раёнах, аб якіх праінфармавалі Маскву, а ў дзесятках раёнаў… Ну, але нічога, угаворым! Фізіяноміі, галасы, паспешлівасць халуйская, гатоўнасць да самазабыцця аўтарытэтна лгаць тым жанчынам, абы начальства было задаволена, — я глядзеў на іх, напэўна, вельмі злосна, як на банду нейкую. Бо таварыш Саўчанка раптам устрывожыўся, напэўна, сам зірнуў на ўсё староннімі вачыма, пачуў не з цэнтра круга, а звонку… Ён гнеўна зірнуў на сваіх, але якое там, яны страцілі пільнасць, як глушцы на такавішчы!

Схаваліся за цяжкімі дзвярамі, а калі зноў з'явіліся і міністр зноў убачыў ля акна чалавека, які чуў, не вытрымаў, падышоў да мяне.

— Вы хто?

Так-так, той самы, так, каторы пісьменнік (здаецца, упершыню назваўся з задавальненнем), каторы піша, можа напісаць…

Не, нездарма ён тады занепакоіўся. Як у ваду глядзеў: вось, апісваю сцэну, сведкам якой быў. А тое, што ён занерваваўся, заўважыўшы сведку, толькі пацвярджала: ведаў, выдатна ведаў, што не тое, не так рабіла яго ведамства. Абслугоўваючы, абараняючы не інтарэсы насельніцтва, а лжыва зразуметы прэстыж уладаў, іншых ведамстваў. Калі медыцына гэтай — не сваёй справаю — занялася, сказаць цяжка. Але, мяркуючы па ўсім, гэта не зусім скончылася і сёння.

Вянчае ўсю гэтую медыцынскую піраміду хлусні ва ўратаванне (ва ўратаванне твару атамнага ведамства, пры гэтым губляючы прэстыж медыцыны) сам віцэ-прэзідэнт АМН СССР таварыш Л. А. Ільін.

Віцэ-прэзідэнт Ільін перакананы (ці перакананы, не ведаем, але нас спрабуе пераканаць): «…якога-небудзь значнага павелічэння колькасці хворых на рак не прадбачыцца,

бо яна нашмат ніжэй межаў вагання натуральнай частаты анкалагічных захворванняў». А ўжо генетычныя эфекты радыяцыі, на думку віцэ-прэзідэнта АМН, і наогул вартыя смеху: «…вераемнасць іх з'яўлення нікчэмная» («Известия» ад 18 верасня 1986 года).

А вось як пра гэта выказваецца акадэмік М. М. Амосаў: «Страшны самы малы ўздым радыяцыі, нават калі яго ўзровень застанецца бяспечным» («Литературная газета» ад 27 мая 1987 года). І ён усяго толькі паўтарае тое, што раней і заўжды пісалася, пакуль яшчэ не даводзілася ратаваць твар атамнай энергетыкі, у падручніках па радыебіялогіі. Дарэчы, і ў артыкулах самога Л. А. Ільіна гэта можна прачытаць. Ранейшых. Дачарнобыльскіх. Вось залатыя яго словы са зборніка «Гігіенічныя праблемы радыяцыйнага і хімічнага канцэрагенезу» (М., 1979. С. 25): пра «неперавышэнне дозавай мяжы» і «зніжэнне дозы да магчыма нізкага ўзроўню», пра «гуманныя традыцыі савецкай гігіенічнай навукі», якая прадугледжвае «адсутнасць парога для стахастычных эфектаў дзеяння радыяцыі», г. зн. (калі я правільна зразумеў) адсутнасць парога для непажаданых вынікаў радыяцыі.

Ну а як быць з населенымі пунктамі ў Магілёўскай вобласці — у шасці раёнах, дзе хранічнае абпраменьванне значна вышэй за норму?

Калі сумленны разумны доктар (такіх шмат, але строгія подпісы «не разглашать!» трымаюць іх за глотку) паспрабаваў зрабіць элементарнае, што рабіць неабходна, — завесці кантрольную картачку, тую, што мелі салдаты і людзі, занятыя дэзактывацыяй заражанай мясцовасці, калі ён захацеў наладзіць кантроль за бэрамі, якія атрымліваюць калгаснікі, трактарысты, камбайнеры, што працуюць у радыеактыўным пыле, — гэта выклікала юпітэраў гнеў магілёўскага меднaчальніка. Расказаўшы пра гэтую здаровую ініцыятыву як пра нешта зусім недапушчальнае, ён заявіў сходу медыкаў: «Вы падумайце, што надумаў! Я яму ўкарачу рукі!»

І ўкарочваюць. Усе намаганні не на высвятленне ачагоў бяды, а на ўтойванне. Ратаваць трэба атамную энергетыку! Вось і слова ёмістае вынайшлі «радыефобія» — для тых, хто больш не верыць слепа спецыялістам.

Міністр аховы здароўя УССР А. Раманенка скардзіўся: «На вялікі жаль, нам не ўдаецца справіцца з чуткамі, з пачуццём трывогі насельніцтва, нават з пэўным недаверам да нас, медыкаў» («Правда» ад 30 мая 1988 года, артыкул «Чуткі…»). А сапраўды, з чаго б гэта — такі недавер?

А ведаем жа, усе на месцах разумеюць меру пагрозы, небяспекі. Інакш не ўзнік бы вахтавы метад працы дактароў, напрыклад, у горадзе Брагіне. Цалкам апраўданы сам па сабе метад, штомесяц брыгада змяняецца, выязджаюць, каб вывесці бэры-рэнтгены з уласнага арганізма ў бяспечнай мясцовасці. Але адразу ўзнікае пытанне: ну, а насельніцтва, а дзеці — яны ж жывуць увесь час! Не вахтавым метадам.

Гэта не значыць, што і дактароў варта было б прымусіць жыць увесь час. Наадварот: трэба перасяліць людзей, дзяцей асабліва. Калі сітуацыя такая.

Апошнія вынаходствы зацікаўленых ведамстваў: будзем будаваць інтэрнаты-шпіталі для школьнікаў у заражаных раёнах. Нічога не шкада. Абы толькі не вывозіць людзей і не падрываць «аўтарытэт атама». І сапраўды, дзейнічаем нават шчодра і энергічна, але ўнутры схемы, сістэмы, навязанай дзяржаве Галоўатамам. Пад прыкрыццём таямніцы, якая і не дазваляе арыентавацца ў складанай сітуацыі, дзейнічаць з расплюшчанымі вачыма, а значыць, вынікова. Скажам так: магчыма, перасяляць у нейкіх выпадках і не трэба, але каб ведаць, ці так гэта, а не гадаць, трэба адмовіцца ад ведамаснай сакрэтнасці.

Людзі ўсё роўна едуць, але больш маладыя (дзяўчаты асабліва, ім раджаць), тыя, каму лягчэй зняцца з месца. Цэнтральнае радыё неяк аб'явіла, што ў «Мазыры вырашана жыллёвая праблема». У Прыпяці вырашана яшчэ больш радыкальна. Едуць, і правільна робяць. Не затрымлівае і рубель у дзень, які мы дорым за пражыццё ў некаторых раёнах звыш зарплаты. (Народ ахрысціў гэтыя грошы «грабавымі» Але кажуць, іх хутка адменяць: не таму што рызыка зменшылася, а каб заспакоіць. Ці бачыце, маўляў, стала больш бяспечна, калі «грабавыя» адмянілі! Апроч таго, блізкія суседзі не разумеюць, пратэстуюць, а нам што, не даводзіцца губляць свае, а купляць чыстыя прадукты? Чаму ж нам не плацяць?

Хто можа, хто лягчэй на нogі — бягуць, а старых і малых утрымліваем грабавымі рублямі і таямніцай. Што толькі не зробіш, чым не заплаціш, каб пабудаваць яшчэ з дзесятак Чарнобыляў?

А ўсё роўна ж спахопімся — і ў гэтых АЭС апамятаемся. Але ведамствы, бюракратыя і тут, як у меліярацыі, будуць супраціўляцца да апошняга. Такая ўжо прырода бюракратыі. Нават калі пытанне паўстане аб жыцці і смерці народа, сутнасць і звычкі яе ні ў чым не змяняюцца.

Гэта добра бачна і ў паводзінах Аграпрама, саюзнага і рэспубліканскага, у адносінах да той жа чарнобыльскай сітуацыі. Калі медыцына ўсё-ткі працуе не столькі на сябе, колькі «на дзядзьку» — на прэстыж атамнай энергетыкі (канкрэтныя віцэ-прэзідэнты, вядома, нешта выгадваюць на гэтым і для сябе), то Аграпрам мае прамую карысць ад той бяздушнай недальнабачнай практыкі, якая стала пераважаць у паражоных раёнах. Тут здымаюць ураджай, выконваюць планы па мясу і малаку і інш. (Дарэчы, радыяцыя стымулюе рост некаторых злакаў, гэта заўважана і нават узважана.)

Вывозім заражаную прадукцыю, а потым не ведаем, што з ёю рабіць (але затое апраўдаліся за тоны!). Абсурд! Але абсурд небяспечны. Мы ж замест таго, каб лакалізаваць радыеактыўныя мясцовасці, паступова выводзіць, пахаваць радыяцыю, размазваем яе па ўсёй рэспубліцы і шырэй — па краіне.

Практыка Аграпрама саюзнага нагадвае нам дзеянні некаторых старшынь калгасаў і дырэктароў саўгасаў побліз Чарнобыля: тыя пасылаюць касцоў-«партызанаў», каб вырашыць праблему з сенам, у заражаную зону. Вельмі ж ужо добрыя там травы!

Трэба сказаць, што рэспубліка звярталася ў Дзяржаграпрам з просьбаю: 1) выключыць з плана землі, асабліва заражаных раёнаў; 2) дазволіць знішчыць тысячы тон заражанага мяса, якім забітыя халадзільнікі Магілёўскай і Гомельскай абласцей. (Мяса кароў, іншай скаціны, якіх вывозілі з забруджаных раёнаў яшчэ ў 1986 годзе.) Па абодвух пытаннях — бюракратычны туман. Я і сам яго ўдыхнуў, гэтага снатворнага туману, калі звярнуўся ў Дзяржаграпрам з пісьмом.

За подпісам акадэміка УАСГНІЛ М. А. Карнеева атрымаў такое тлумачэнне: у халадзільніках Беларусі заражанага мяса — «усяго толькі» тры тысячы тон...

Беларускія аграпрамаўцы называлі другія лічбы — сем тысяч тон, акадэмікі АН БССР — усе дваццаць! Колькі на самай справе і хто з'еў розніцу — пушныя звяры, як сцвярджае таварыш Карнееў, ці пайшло ў дамешку да фаршу, дадаткам да каўбасы, як беларускія аграпрамаўцы сцвярджаюць, зусім крыху і ў самыя дарагія сарты — «бо іх менш купляюць!» — ведаць гэта нікому не дадзена. Вялікі сакрэт!

Думка пра тое, каб гэтае страшэннае мяса, нашы будучыя хваробы, проста знішчыць (думаю, што кожны жыхар Беларусі нават заплаціў бы за гэта — абы толькі не з'есці незнарок), думка гэтая дзеячам з Дзяржаграпрама

здаецца, вядома, кашчуннаю. I не мяса ім шкада — плана!

А тым часам з заражаных раёнаў атрымліваем новыя і новыя такія ж прадукты: вязём туды чыстыя, гэтыя вывозім і разбаўляем, размешваем з чыстымі.

А чаму б не мець у раёнах гэтых проста закрытыя зоны, запаведнікі для тых жа «пушных звяроў». А людзей, як ужо гаварылася, запрасіць пераехаць на Віцебшчыну. Абкам Віцебскай шмат разоў прасіў аб гэтым: край вельмі багаты, беларуская Швейцарыя, а насельніцтва разрэджанае, бо ў вайну тут загінуў кожны другі жыхар. Абкамы Магілёўскай і Гомельскай не згаджаюцца губляць рабочую сілу. Але яна ўсё роўна губляецца: моладзь едзе, і гаворка тут ідзе ў асноўным пра дзяцей і старых, для якіх нават норма, устаноўленая тут як дапушчальная, — жахлівая. I як можна ўгаварыць дзіця есці толькі чыстыя прадукты (калі яны застануцца чыстымі ў заражанай мясцовасці) і не з'есці ягаду, ігрушу — хіба толькі абатрэ аб куртачку? Або хадзіць па асфальтаваных сцяжынках (калі яны ёсць)? Або, прыехаўшы на спецаўтобусе з школы, не бегаць у пыле, па траве, у лесе?..

Гэта немагчыма. Як немагчыма ў гэтай сітуацыі выгадаваць і псіхічна здаровых людзей, калі ўсё стала дзіцяці ворагам: трава, вада, неба, дождж...

I яшчэ я прачытаў у тым адказе Аграпрама:

«Вось бы аб'яднаць намаганні вучоных і пісьменнікаў у напрамку ўкаранення рэкамендацый па змяншэнню паступленняў радыеактыўных прадуктаў дзялення ў аб'екты сельскагаспадарчай вытворчасці — гэта была б рэальная дапамога». I нават такое напісалі: «Вашу руку, таварыш!»

Цудоўная эмблема: тры рукі моцна трымаюць адна адну — Галоўатам, Аграпрам і Медыцына. Сюды б яшчэ руку Саюза пісьменнікаў — ведамасная ідылія.

Такім чынам, падышоў крытычны момант прыняцця рашэння. Атамную праграму трэба пераглядаць.

I ўжо з чым зусім і катэгарычна згодныя ўсе не ўцягнутыя ў ведамасныя інтарэсы, гульні вучоныя: атамнае будаўніцтва недапушчальнае ў еўрапейскай частцы нашай краіны. Тут, наадварот, трэба спыняць, закрываць, прыбіраць тыя станцыі, якія сапраўды пагражаюць катастрофай.

Неяк прысутнічаў я пры спрэчцы будаўніка атамных станцый, вельмі высокага рангу акадэміка з вучоным-геолагам. Калі ў акадэміка скончыліся аргументы на карысць пашыра-

най праграмы будаўніцтва АЭС, ён прыціснуў рукі да грудзей і пакляўся: «Далібог, больш не ўзарвецца!» — «Але як вы можаце ручацца, — запярэчыў геолаг, — калі мы ведаем і вы ведаеце, што больш за чвэрць нашых АЭС пабудаваны на непрыдатных у геалагічных адносінах, а то і проста небяспечных грунтах?»

Страшнавата чытаць у пасмяротна апублікаваных нататках В. Лягасава «Мой абавязак расказаць пра гэта...» такія вось характарыстыкі нашых ІТР і рабочых, працоўная «мараль» якіх часам на крымінальным узроўні.

«Я прыгадаў выпадак, напрыклад, на адной атамнай станцыі, калі ў галоўны трубаправод па зваранаму шву, замест таго каб правільна ажыццявіць зварку, зваршчыкі заклалі проста электрод, злёгку прываварыўшы зверху. Магла здарыцца страшная аварыя, разрыў вялікага трубаправода, аварыя ВВЭРаўскага апарата з поўнай стратай цепланосьбіта, з расплаўленнем актыўнай зоны і г. д. Усё гэта было зроблена ў імя прадукцыйнасці працы — зварыць больш швоў. Такая халтура проста ўразіла наша ўяўленне.

Потым правяралі на многіх станцыях гэтыя ж участкі, не ўсюды было ўсё добранадзейна» («Правда» ад 20 мая 1988 года).

А што можна сказаць пра канструктара рэактара чарнобыльскага тыпу (РБМК), якому спецыялісты паказалі на хібы яго апарата і менавіта ў сэнсе надзейнасці, а ён заставаўся глухі. Прапановы аб удасканаленні аварыйнай сістэмы «не адвяргаліся, але распрацоўваліся вельмі марудна». Дарэчы, хто гэты канструктар? Аўтара! Зрэшты, ведаем: акадэмік Даліжаль. Але і іншыя імёны павінны фігураваць. Усе!

Неабходна зняць заслону ведамаснай таямніцы над землямі і насельніцтвам, паражонымі чарнобыльскім выкідам. Куцыя інтарэсы ведамства тут прама супрацьлеглыя доўгачасовым дзяржаўным. Нацыянальным. Не кажучы ўжо пра гуманныя прынцыпы — яны заходзяцца ад крыку! Беларусі (і менавіта Гомельскай ці Магілёўскай абласцям) патрэбен свой цэнтр па кантролю за доўгачасовымі вынікамі аварыі і незалежна ад атамнага ведамства медыцынскае абслугоўванне насельніцтва.

І нарэшце: аб манаполіі ў навуцы, на гэты раз у пытаннях энергетыкі. Акадэмік А. Я. Шайндлін праявіў ініцыятыву ў стварэнні Маскоўскага энергетычнага клуба (аналаг Рымскага клуба), дзе б магла канцэнтравацца сусветная навуковая інфармацыя па гэтых праблемах, маглі праходзіць выпрабаванне дыскусіяй усе новыя ідэі.

Думаецца, што такія навуковыя кантакты дадуць нямала, здольныя папярэдзіць аднабаковыя рашэнні ў справах энергетыкі.

Але галоўнае — стварыць у навуцы абставіны, калі напрамак-«пераможца» не толькі не адгароджваўся б ад кантролю «вызваленых» ад крытыкі, але, наадварот, якраз бы станавіўся аб'ектам самага пільнага назірання грамадскасці.

Хіба магчымы быў бы Чарнобыль і ўсё, што за ім (бескантрольнае размяшчэнне АЭС там, дзе іх не павінна быць, пагоня за ўяўнай таннасцю канструкцый, пагарда да аварыйнай абароны і да падрыхтоўкі тэхнічнага персаналу, не кажучы ўжо пра тое, што зусім не ўлічваўся той агульны распад працоўнай маралі, калі АЭС ператвараюцца ў зброю самазабойства), калі б навуковая «апазіцыя» мела права на крытыку ўсяго гэтага, на крытыку аляксандраўскага напрамку, які перамог калісьці ў атамнай энергетыцы?

Тут наша навука сапраўды магла б — абавязана! — пераняць у парламенцкай дэмакратыі. Там менавіта партыя, якая правіць, трапляе як бы ў нявыгаднае становішча: вось яе якраз і крытыкуюць усе, сочаць за кожным крокам.

Паўтараю: усё, што я тут напісаў, вынік гутарак з многімі вучонымі. Яны пра гэта маглі б сказаць і самі — дакладней, больш аргументавана, супраць нечага запярэчылі б. Нехта катэгарычна не згадзіўся. Але праблемы гэтыя кранаюць душу ўсіх.

Вось і абгаварыць бы адкрыта, без «цуду, таямніцы, аўтарытэту» — усіх гэтых усёмагутных бюракратычных аргументаў.

* * *

Амаль паўгода барацьбы з цэнзурай, з Галоўлітам і ведамствамі, якія яго абслугоўваюць, з самім Саветам Міністраў СССР (бо Б. Е Шчарбіна, наш галоўны тагачасны апанент, — намеснік М. І. Рыжкова). І нарэшце, артыкул у «Новом мире» быў апублікаваны (№ 8, 1988 г.).

Не адразу, але пайшлі і іншыя публікацыі ў розных выданнях. Утрымліваць сакрэтнасць ведамствам было ўсё цяжэй. Назаву толькі навамірскія публікацыі: «Цана меркаванняў: неспецыяліста і спецыялістаў» А. І. Вараб'ёва (№ 3, 1989 г.), «Атамная энергетыка — надзеі ведамстваў і трывогі грамадства» — страсныя, спрачальныя водгукі вучоных розных поглядаў і людзей, якія жывуць на заражаных землях (№ 4, 1989 г.). І нарэшце, работа Р. Мядзведзева «Чарнобыльскія сшыткі».

Барацьба з палітыкай уладаў выйшла на новы якасны ўзровень, калі ў гэтую спрэчку

ўступілі грамадска-палітычныя рухі — Беларускі народны фронт і ўкраінскі «Рух». Людзі з «зон» нарэшце загаварылі на мітынгах, выйшлі на маніфестацыі, сталі звяртацца да забастовак.

Атамная энергетыка і яе аўтарытэт у нашай краіне практычна звергнуты, і прычыны гэтага не толькі ў самой чарнобыльскай катастрофе, але яшчэ і ў бяздушнай і лжывай паслячарнобыльскай палітыцы ўладаў. Ніводзін з 38 рэактараў-блокаў, якія зноў будуюцца, грамадскасць не дазволіла ўвесці ў дзеянне. Калі справа дайшла да таго, што на Хмельніцкай АЭС, напрыклад, аператары дзеючых блокаў з цяжкасцю могуць прайсці, прарвацца праз кардоны разгневаных людзей да сваіх пультаў, Міністэрства атамнай энергетыкі ў паніцы пратрубіла вялікі збор — як прыхільнікаў, так і супрацоўнікаў атамнай энергетыкі. Дазволю сабе па «Правительственному вестнику» (№ 30(56) ліпень, 1990) працытаваць уласнае выступленне: «Я лічу, што сваёй безадказнасцю, працоўнай амаральнасцю мы заслужылі мараторый на АЭС. Але сёння я паспрабую гаварыць з пазіцыі абаронцы атамнай энергетыкі. І ў гэтай нязвыклай для сябе якасці скажу — галіна павінна быць самым строгім сваім крытыкам. Зразумейце, яшчэ адна аварыя — неабавязкова ў нас — будзе азначаць канец атамнай энергетыкі (у сусветным маштабе). А пакуль галіна адстае, адно толькі ўступаючы крытыцы з боку, націску публіцыстаў, патрабаванням грамадскасці, веры ёй не будзе. Хаця нейкі давер атрымайце, калі прафесіяналы будуць апярэджваць грамадскасць у галоснасці, шчырасці. Менавіта той, хто зацікаўлены ў развіцці атамнай энергетыкі, павінен быць асабліва нецярпімым да любых хібаў тэхнікі, недамоўленасці, дэзінфармацыі. І яшчэ — патрэбна дабравольная залежнасць ад думкі міжнароднай грамадскасці: толькі з яе дапамогаю наша атамная энергетыка можа вярнуць давер людзей».

Дазволю сабе такую паралель: наўрад ці здольны паверыць народ наш у нейкую абноўленую мадэль сацыялізму (гуманнага, дэмакратычнага). Чым далей, тым відавочней: не верыць і не паверыць. Гэтаксама ён не верыць і фізікам, атамшчыкам (тут яны ў становішчы нашых камуністаў). Што тыя створаць бяспечныя рэактары, «абсалютна бяспечныя» АЭС. Сталін і Чарнобыль канчаткова дабілі: адзін — ідэю і практыку камунізму, другі — атамную энергетыку ў нашай краіне. Прынамсі, на блізкі час.

## 6. Прарыў адбыўся, патрэбен яшчэ адзін

Так, сёння, у канцы 1990 года, мы жывём крыху ў іншай сітуацыі, калі мець на ўвазе нашыя чарнобыльскія справы. Як і ва ўсім іншым у краіне: галоснасць амаль поўная, а вось справы адстаюць.

Ужо і Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову, дзе прама сказана: недаацэнены былі маштабы катастрофы і, апрача таго, вялікую шкоду прынесла непранікальная сакрэтнасць, якая панавала ў гэтых пытаннях.

Так што з галоснасцю быццам усё нармальна.

Прынята і практычная праграма (а дакладней, некалькі нацыянальных праграм па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы: беларуская, украінская, расійская). Вызначаныя, названыя сродкі, неабходныя для выканання праграм, — гэта дзесяткі мільярдаў рублёў. (Дарэчы, агульныя страты ад аварыі, раней тымі ж «аптымістамі» з ведамства вызначаныя ў 8-10 мільярдаў рублёў, сёння падлічаныя аб’ектыўнымі вучонымі, і вось Ю. І. Каракін называе лічбу: ад 170 да 210 мільярдаў рублёў. Але і гэта без расходаў на медыцынскае абслугоўванне пацярпелых.)

Нарэшце зразумелі: Чарнобыль — не ззаду, ён наперадзе. На дзесяткі і нават на сотні гадоў наперадзе. У сацыяльным, медыцынскім, псіхалагічным сэнсе. Гэта катастрофа глабальная, без перабольшання, найвялікшая ў XX стагоддзі. «Ліквідаваць вынікі» Чарнобыля проста немагчыма. Пытанне стаіць так, як хаця б адаптавацца да тых умоў, якія створаны на велізарных тэрыторыях «мірным атамам», і як зрабіць цярпімым, магчымым жыццё для мільёнаў беларусаў, украінцаў, рускіх. Як засцерагчы ад небяспекі іншыя землі, краіны, народы ад першага і ад магчымых наступных Чарнобыляў. «Графік Лягасава» — хіба ён не можа быць працягнуты на АЭС у іншых краінах? А што, калі такі «графік» ужо ляжыць перад вачыма Госпада Бога?»

Тое, што называецца сёння «мірным» жыццём, для соцень тысяч людзей — у нейкім сэнсе горш за вайну. Хаця б таму, што вораг нябачны і ўсюдыісны. А ўжо беларусы ведаюць, якая яна, вайна: кожны другі жыхар рэспублікі загінуў у другой сусветнай вайне. І ўсё-ткі спытайце ў жанчыны з магілёўскай ці гомельскай вёскі, якая вось толькі што падаіла сваю кароўку, але не выліла малако ў яму-«могільнік», як ёй прапанавана і патрабуецца рабіць увесь час, а прынесла ў дом, каб

падмяшаць потым у корм кабанчыку (што таксама не варта было б рабіць). Адвярнулася, а не дзіцятка, што выгадавалася на малацэ магазінным (вядома ж, дэфіцытным), як у дзіва, апусціла ў цёплае, пеністае свой пальчык і лізнула — а маці ўбачыла. Напалоханае гаворкамі дарослых пра гэтыя нябачныя «кюры» і «бэры», якія падсцерагаюць яго на кожным кроку, дзіцятка адхапіла руку: «Ой, мама, я не піў, я толькі паспрабаваў!»

Уявіце стан маці! А гэтым дзецям, заціснутым унутрана, абкрадзенымі яны гадуюцца (не кажучы ўжо аб павялічаных «шчытавідках», вечна запаленай насаглоткі, анеміі ад маларухомасці і адсутнасці вітамінаў, хаця яблыкі ў садах і ягаднікі ломяцца ад пладоў) — у іх нябачны вораг адабраў радасць дажджу, расы ранішняй, яднання з лесам, рэчкай, шчасце сарваць грыб ці вырваць і з'есці моркву, гурок. Не прабяжы па вуліцы (пыл асабліва небяспечны), не сядзь на траву. Яны і бегаюць, і садзяцца, і купаюцца ў рацэ — дзеці ж! А потым іх вязуць у Мінск. Як і прадказвалі яшчэ ў 1986 годзе добрасумленныя медыкі, узрастаюць захворванні лейкеміяй, ракам крыві. Не кажучы пра «звычайныя» хваробы, бо аслаблены імунітэт: «радыяцыйны СНІД».

Ну, а што тая жанчына, якая толькі што прынесла ў хату небяспечнае малако. Яна — занятая справай яшчэ больш небяспечнай для свайго і дзяцей здароўя — пачынае гатаваць сняданак у звычайнай «рускай печцы», якую паліць дрывамі ці, што яшчэ горш, торфам. Тут ужо пабывалі дазіметрысты-вандроўнікі, сунулі прыбор у печ: «О, цётка, у цябе не печка, а рэактар! Ты куды попел выносіш?» А куды яна выносіць — на агарод. Ды і хіба вынесеш гэтыя праклятыя рэнтгены, даводзіцца яечню смажыць у «рэактары». Ёй усю хату праверылі, а лепш бы не рабілі гэтага, раз ёй і далей тут жыць, і невядома колькі яшчэ, з дзецьмі: «Дзяцей лепш трымаць у тым пакоі, а ў гэтым справы горшыя, трэба вымыць, вычысціць...»

І хіба не мыюць, не чысцяць. І зямлю вывозілі, і заасфальтавалі двары, што толькі не рабілі, а нябачны вораг зноў і зноў вяртаецца, ён паўсюль. Каля 400 тысяч людзей у адной толькі Беларусі адчуваюць патрэбу ў неадкладным перасяленні. Дзесяткі тысяч дзяцей. Нават, па афіцыйных даных, засыпана радыенуклідамі — 27 гарадоў, 2670 населеных пунктаў — паспрабуй усіх перасялі адразу. А часу колькі змарнавалі? А сродкаў? І іх у краіне не хапае для ўсяго.

Без дапамогі міжнароднай тая жанчына з дзіцем невядома яшчэ калі вырвецца з чарнобыльскага кашмару.

Калі ў Мінску па закліку Беларускага народнага фронту адбываўся марш, названы чарнобыльскім (восенню 1989 г.), я ўгаварыў паехаць са мною фізіка-атамшчыка Яўгена Паўлавіча Веліхава, які таксама ў 1986 годзе тушыў рэактар: «Паглядзіце, як яшчэ шмат трэба тушыць!»

Хаця мінскія і раённыя ўлады па звычцы спрабавалі перашкодзіць людзям прыехаць з заражаных вёсак (ведалі, якія будуць лозунгі і што пачуюць на мітынгах на свой адрас), сабралася больш за 30 тысяч чалавек. Над кожнай групаю людзей «адтуль» чорныя палотнішчы з лічбамі: якая і дзе радыяцыя, цэзій, плутоній, стронцый. Пабачыў, паслухаў новы дырэктар Курчатаўскага ядзернага інстытута, дзе так хваравіта ўспрымалі заўжды «замах» грамадскасці на «мірную» атамную праграму, і калі мы вярнуліся на пасяджэнні Вярхоўнага Савета, Веліхаў сам прапанаваў: трэба пісаць пісьмо Гарбачову, трэба вывозіць дзяцей.

І вось тады ўзнікла ідэя: звярнуцца да заходніх, міжнародных фондаў, арганізацый з просьбаю запрашаць дзяцей Чарнобыля на адпачынак і лячэнне.

Практыка гэтая зараз набыла размах вельмі шырокі: Індыя, Ізраіль, Галандыя, ФРГ, Іспанія, ЗША, Англія, Канада, Італія, Грэцыя, Японія, — дзе толькі не пабывалі дзеці з Богам забытых Краснапольскага, Брагінскага, з іншых раёнаў Беларусі, Украіны, бранскія і тульскія. Нізкі паклон вам, хто паклікаў іх, на два, на тры тыдні дапамаглі забыцца, што малако — вораг, яблык — больш небяспечны, чым граната, рыба — атрута, паветра — атрута, усё навокал — вораг табе.

Але ў гэты час у мінскіх клініках усё роўна паміраюць ад лейкозу дзеці: па тэлебачанню ўся краіна знаёміцца з сумным тварыкам, са слабою ўсмешкаю дзіцячай, мы дазнаемся пра імя маленькага пакутніка, а праз нейкі час нам паведамляюць: той Васенька, тая Волечка памерлі ўжо».

Бо ў Мінску ж няма магчымасці рабіць нават перасадку коснага мозгу, а трапіць у замежную клініку пакуль што цяжка. Былі запрашэнні з ФРГ, з Іспаніі…

Брусельская фірма «Эутан» бярэцца пабудаваць у самым заражаным з вялікіх гарадоў, у Гомелі, лячэбна-дыягнастычны і навуковы комплекс, міжнародны па статусу, незалежны ад нашых структур. Хаця савецкі бок таксама ўкладвае 50 мільёнаў долараў. Але вельмі патрэбнае фінансавае крэдытаванне замежных фірм, фондаў. Мэта: аказваць своечасовую медыцынскую дапамогу насельніцтву з тым адначасова, каб вынікі назіранняў сталі набыткам сусветнай навукі. Толькі такое

пастаяннае назіранне і адначасова лячэнне на вышэйшым медыцынска-тэхналагічным узроўні здольнае даць адказы на медыцынскія і гуманітарныя праблемы, якія паўстаюць перад сучасным чалавецтвам.

Брусельскі навуковы савет па гомельскаму праекту ўзначальвае акадэмік Вараб'ёў Андрэй Іванавіч. Пры шпіталі будзе створана ўзорная ферма па вытворчасці чыстай прадукцыі. Што таксама вельмі важна.

Быў я нядаўна ў Японіі па запрашэнню грамадскіх арганізацый, занепакоеных нястрымным будаўніцтвам АЭС на японскіх астравах. Здарылася так, што група лабістаў ядзернай энергетыкі пабывала ў Маскве, з кім яна сустракалася, ад каго атрымлівала інфармацыю, можна толькі ўяўляць, але вярнуўшыся аб'явілі на ўсю краіну: чарнобыльская трагедыя — міф. Ну, загінула трыццаць чалавек! А астатнія — выява псіхозу, радыяфобія, не больш.

Мы і раней былі сведкамі такога вось жахлівага «абпраменьвання» замежных спецыялістаў, пасля таго як яны сустрэнуцца з нашымі чыноўнікамі ад навукі, якія ўжо ўпаміналіся. Горка і сорамна было беларусам слухаць летам 1989 года прадстаўнікоў МАГАТЭ Пелерэна, Бенінсана, Уйта, якія прыехалі ў паражоныя раёны, калі яны навязвалі нам, беларускім сялянам, так званую «канцэпцыю Ільіна»: сядзіце, можа, яшчэ і не набераце 35 бэр. Тым больш што ў Рыжкова няма для вас сродкаў, грошай. Ад каго гэтыя вучоныя прыехалі: ад МАГАТЭ ці ад нашага Міністэрства фінансаў? Але хутчэй за ўсё — ад атамнай энергетыкі, яе сусветны прэстыж — вышэй за ўсё. А таму Чарнобыля не было! Пасля шматлікіх сустрэч, выступленняў у Токіо і Нагасакі, шырокай прэсы і тэлевізійных перадач — японцы адносяцца да сітуацыі ў сусветнай атамнай энергетыцы і да сваіх, напэўна, дастаткова якасных АЭС, з вялікай адказнасцю — я атрымаў пісьмо ад маладых японскіх сяброў. (Напісана па-руску.)

*«Уважаемый Александр Михайлович!*

*Прошло полтора месяца, как мы слушали Вашу лекцию. С тех пор мы разговаривали с нашими депутатами парламента и советским посольством и слушали доклад члена японской делегации, которая инспектировала Чернобыль.*

*И мы решили провести «благотворительный аукцион для детей Чернобыля». Японские артисты, политики и художники предложат свои личные вещи, и мы продадим их...» (І далей пытанні: куды і што пасылаць, якія медыкаменты, апаратуру.)*

*Дарагія, мілыя хлопцы, дзяўчаты, японскія нашы сябры Масамосі Такэучы, Харухіса Ісікава, Кёкеа Энда, Юі Кімура, а таксама сябра мой Таке, у доме якога я начаваў і які называў сябе «лесарубам», тое, што кіруе вамі,— выратуе нас усіх. Не толькі ад вынікаў мінулых катастроф, але і будучых.*

*Маленькую Японію апярэзваюць ці то каралі, ці то пятля (як, з якога пункту погляду зірнуць) з 37 АЭС, і яшчэ столькі ж будуецца. А колькі ў іншых краінах, ва ўсім свеце іх — патэнцыяльных Чарнобыляў. Можна пераканаць сябе, іншых: ну, наша тэхналогія не падвядзе! Гэта ў нашым свеце, дзе яшчэ і войны палаюць, і тэрарызм квітнее? Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў, адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў атамнай энергетыкі, невыпадкова прыйшоў урэшце да адназначнага вываду: усе АЭС з паверхні планеты варта было б прыбраць, а калі будаваць, то пад зямлёй, у скальным грунце.*

*На другім пасяджэнні нядаўна створанага Міжнароднага Маскоўскага энергетычнага клуба, якое адбылося ў Бохуме (ФРГ), абмяркоўвалася і гэта пытанне. Я, напрыклад, прыхільнік (згадзіліся і некаторыя, куды больш кваліфікаваныя спецыялісты) адраджэння амерыканскага «плана Баруха», але ўжо для «мірнага» атама.*

*Найстрогі (з санкцыямі) міжнародны кантроль за якасным узроўнем атамнай энергетыкі (праектаванне, будаўніцтва, эксплуатацыя). Калі нейкія краіны (як Аўстрыя, Швецыя) гатовыя адмовіцца ад рызыкі мець АЭС, яны павінны мець гарантыі, што не пацерпяць ад суседзяў. (Як Беларусь пацярпела.)*

*Член клуба прафесар Залескі (Францыя) пачаў практычную работу па стварэнню Міжнароднага фонду для закрыцця атамных станцый, якія небяспечныя для ўсіх. Зроблены падлік, аналіз: у каго і колькі такіх станцый. І зноў сканцэнтравалася ўвага на тых пятнаццаці «Чарнобылях», пра якія перад канцом сваім з трывогай гаварыў Лягасаў. Але не толькі ў нас ёсць яны, патэнцыяльныя Чарнобылі. І таму так неабходна міжнароднае пагадненне, магчыма, у рамках ААН, аб нейкім варыянце «плана Баруха» для «мірнага» атама.*

*Каб, апрача ўсяго іншага, насельніцтва другіх краін не апынулася на выпадак новай бяды ў такім жа становішчы, у якім мы апынуліся. Патрэбна пастаянная гатоўнасць (міжнародная) тут жа адсяліць, лячыць, ратаваць.*

*Але патрэбна і кардынальнае вырашэнне праблем энергетыкі, развіцця альтэрнатыў-*

*ных формаў яе, каб не заставацца заложнікамі ядзернай. Нават удасканаленай.*

*А што, калі сапраўды перад вачыма Госпада Бога ўжо ляжыць «графік» нашага людскога шаленства?.. Каб не здарылася новых бедаў, людзі павінны здабыць усе ўрокі з нашай трагедыі. Супольна патушыць Чарнобыль, які ўсё яшчэ палае на велізарных тэрыторыях Беларусі, Украіны, Расіі.*

*29 жніўня 1990 г.*
*Масква*

## КУРАПАТЫ, ХАТЫНЬ, ЧАРНОБЫЛЬ

*(З АРТЫКУЛА Ў «ЛИТЕРАТУРНОЙ ГАЗЕТЕ»)*

1

Мы вялікія паспяшайлы. Семдзесят гадоў былі ганімыя, адзін аднаго прыспешваючы ў зададзеным напрамку. Зрабілі колькі крокаў у адваротным напрамку і ўжо самі паверылі, другіх пераконваем: усё, са Сталіным пакончана! Цяпер галоўны рэдут Сістэмы, Наменклатуры — дасталінскія часы і постаці! А са Сталіным пакончана!

Ну, а пасля таго, што бачылі, чулі на канферэнцыі, з’ездзе РКП і на XXVIII з’ездзе КПСС гэтак жа ўпэўнена будзем сцвярджаць, што за Сталіна яны ўжо не трымаюцца?

Я не стану завастраць увагу на састарэлых партыйных наздровых, якія гэтак нахрапіста і шумна спрабавалі зноў збываць нам, падсунуць свае «каштоўнасці», як гогалеўскі персанаж — борздых старых кляч. Я пра тых, хто маладзейшы, хто пры Сталіне і не жыў, не ведаюць і не ўсведамляюць, што для няшчаснай краіны азначаў бы адкат да ранейшых формаў існавання — і дзеля чаго? Дзеля права і наперад быць некампетэнтнымі і паўпісьменнымі паганяламі народа, які іх ненавідзіць? Спакусы дзеля лакейскіх прывілей, якімі пагрэбуе любы працаўнік у развітых краінах, як зняважлівымі і нікчэмнымі.

Таму ўсё-ткі пра сталінізм.

2

Неяк трапіў я ў сям’ю старых бальшавікоў. Данііл Сямёнавіч Данія мяне з імі пазнаёміў, і пачалі прыгадваць, як гасціў тут калісьці А. І. Мікаян («вось на гэтай канапе сядзеў») і ў яго спыталі: «Ну, навошта пры рэабілітацыі (а гэта была хрушчоўская «адліга»), навошта гэтулькі часу на кожную справу траціць? Што вы строіце дурня? Хіба не ясна, што ўсё гэта беззаконие было?» «Вядома, — адказаў былы саратнік Сталіна,— так і трэба было б зрабіць — адразу рэабілітаваць усіх «палітычных».

Ніякія яны не ворагі. Але тады злачынцамі акажамся мы, — прыкінуўў Мікаян. І раптам скончыў: — Кім мы, зрэшты, і з'яўляемся».

Вось і на такія прызнанні здольны быў Анастас Іванавіч.

Для майго пакалення гэта ўсё — частка нашай памяці, дзіцячай, юнацкай, дарослай. Пасля суда — працэсу па іску І. Т. Шахаўцова я атрымліваў сярдзітыя пісьмы: «Ну, што вы ведаеце пра Сталіна, пра той час?»

Помнім, ведаем не мала. На нашай памяці вунь колькі войнаў было: «вызваленчы паход» у Заходнюю Беларусь і Украіну, вайна з Фінляндыяй і Айчынная. Ну і, вядома, наша ганьба сённяшняя — уварванне ў Афганістан.

Але самая працяглая і цяжкая, злачынная — вайна Сталіна супраць свайго народа. Галоўная віна, у якой гатоў быў прызнацца імпульсіўны Мікаян.

Знакі, асабліва валявыя кропкі гісторыі маёй Беларусі: Курапаты, Хатынь, а цяпер яшчэ і Чарнобыль.

Бо краіна жыла ў стане перманентнай вайны і ў даваенныя часы. У згодзе з сталінскай формулай пра абвастрэнне класавай барацьбы па меры нашага «паспяховага» руху да сацыялізму.

Людзі з цяжкасцю вераць у страты, якімі аплацілі мы 70 гадоў утопіі. І ў 40 мільёнаў Роя Мядзведзева, і ў 60 — Аляксандра Салжаніцына, і нават у 3,7 мільёна У. А. Крючкова, старшыні КДБ.

Калі чытаеш «Вялікі тэрор» Роберта Конквіста, не можаш не адчуваць, што аўтар бярэ лічбы па мінімуму, не можа, проста не здольны заходні розум паверыць у дзесяткі мільёнаў забітых уласнымі ўладамі.

А між тым любыя ўдакладненні ідуць менавіта ў бок павелічэння, як па стратах у вайне з Гітлерам, так і па выніках сталінскай вайны ўнутры краіны. Гадоў пятнаццаць назад беларусы паведамілі свае страты ў Айчыннай вайне: 2 мільёны 230 тысяч. Кожны чацвёрты жыхар рэспублікі.

Але гэта такая ж умоўна прыблізная лічба, як і 20 мільёнаў усіх страт (названыя Хрушчовым) — супраць 7 мільёнаў (лічбы, «назначанай» Сталіным), бо сёння гісторыкі ўжо наблізіліся да 30 мільёнаў. А Беларусь, аказваецца, страціла, заплаціла 4 мільёны жыццяў у вайне з фашызмам — гэта ўжо амаль кожны другі. (Артыкул «Цана перамогі» праф. С. Польскага і С. Мацёніна, «Літаратура і мастацтва» ад 6.VII.1990.)

Так узнікае лічба 110 (яна ўжо называецца) мільёнаў — агульных прамых страт за нашу менш чым стогадовую гісторыю.

Курапаты і Хатынь — у адным радзе, Курапаты — гэта сталінскія Хатыні, генацыд пасталінску. Ніводзін народ нашай краіны, ніводная сацыяльная група, ніводная прафесійная катэгорыя людзей і ніводзін узрост — нават дзеці сядзелі ў лагерах, ссылаліся, а з 12 гадоў расстрэльваліся па красавіцкаму ўказу 1935 года — не пазбеглі агульнага лёсу.

Ну, а што такое нямецкія Хатыні, як не сталінскія Курапаты. Бо ж Курапаты (як і нашы канцлагеры) з'явіліся на зямлі раней.

Калі мы пачулі, даведаліся з расследаванняў Зянона Пазняка, як «чорныя вораны» ў 1937-1938 гг. начамі шнырылі па наваколлі, хапалі мужыкоў з першых натрапіўшых хат і везлі расстрэльваць у курапацкі лес, мы не маглі не ўспомніць практыку нямецкіх карнікаў. І ніяк не магу забыць свае два неўразуменні, калі, па-першае, мінская цэнзура і «органы», якія стаяць за ёю, пярэчылі супраць назвы аповесці: «Карнікі». Пакрыўдзіліся: у нас, маўляў, таксама карныя арганізацыі ёсць. Другое неўразуменне: Пётр Нілыч Дземічаў пакрыўдзіўся на тое месца ў нашай з Барысам Луцэнкам п'есе «Вяртанне ў Хатынь», дзе немец-карнік спасылаецца на загад («Навошта ж вы, — павучаў нас ідэолаг, — у нас таксама загады трэба выконваць!»).

Не ўсведамляючы таго, яны сваяцтва душ і спраў пачулі — вось і на такім узроўні.

Генацыд ёсць генацыд, па расаваму ці праскрыпцыйнаму спіску, ці па класаваму. Ці проста, як у Курапатах: спушчаны план «па ворагах народа» і яго трэба выконваць, а лепш перавыконваць (для сябе бяспечней), хоць за кошт безадказных мужыкоў-калгаснікаў.

Вайна з уласным народам пачалася ўжо ў 1918-ым, называлася «ваенны камунізм». Нэп быў непрацяглай па часе, але ўсё-ткі перамогай народа (сялянства перш за ўсё) у бойцы з бязлітаснай утопіяй. Але, здаецца, адзінай і апошняй перамогай у той курапацкай вайне.

На многія дзесяцігоддзі над звержаным народам быў устаноўлены рэжым, падобны да ваенна-акупацыйнага. Таму што сталінскія калгасы і палітупраўленні пры МТС — гэта не што іншае, як гарнізоны. А ГУЛАГ па ўсёй краіне — чым не лагеры палоннікаў? А суды за 10 хвілін спазнення над рабочымі, што гэта, як не ваенны рэжым акупантаў?

Праўда, калі прыйшлі замежныя акупанты на змену ўнутраным, мы ўпарта паўтаралі: «Далоў гітлераўскія сто грамаў, няхай жыве сталінскі кілаграм!» Але тыя, што атрымлівалі ў нашых лагерах «сталінскую» пайку, пасля таго, як атрымлівалі нямецкую, вялікай розніцы, вядома, не заўважалі. Як і ва ўсім астатнім.

Каб перамагчы нямецкіх акупантаў, нам трэба было хаця б у думках аддзяліць свайго правадыра ад іх правадыра, свае парадкі ад іх парадкаў — давалася гэта не лёгка, але дзеля перамогі стараліся ва-ўсю.

У тым і трагізм быў сітуацыі, што, плацячы вялізную цану за перамогу над Гітлерам, народ набліжаў і поўную перамогу, абсалютную ўрачыстасць сталінскай тыраніі. Як да самазабыцця Ілгалі мы, партызаны, сабе і няшчасным бабам, калгаснікам, якіх фашысты палілі, забівалі за дапамогу нам, «сталінскім бандытам»: затое калгасаў не будзе ўжо! І ўсё будзе не так, як да вайны!

Трэба было перамагчы Гітлера. Любой цаной, нічога іншага не заставалася. Яго імперыя, яго бесчалавечны рэжым збіраўся існаваць тысячу гадоў. Ну, а сталінізм, хочацца спадзявацца, сапраўды капае. Важна было не адчаяцца, не паддацца пачуццю помсты за ўсё перажытае (многія ўсё-ткі паддаліся), устаяць паміж дзвюх тыраній, заставацца чалавекам у бесчалавечных умовах. (Дарэчы, гэта глыбінная тэма ўсёй ваеннай прозы Васіля Быкава.)

У маім родным пасёлку Глуша, побліз Бабруйска, устаноўлены помнік подзвігу і ахвярам землякоў у Айчынную вайну. Усе знаёмыя прозвішчы. А ў свядомасці побач такія ж, таксама з канчаткам на «скі»: Слаеўскі, Віткоўскі... Гэтых няма на памятнай стэле, іх забралі і забілі ў 1937-1939 гг.— амаль столькі ж, як і немцы забілі. 83 «ворагі народа» на завадскі калектыў з 300 чалавек! І ўсяго толькі за польскія канчаткі прозвішчаў: вядома, шпіёны польскай ахранкі, дэфензівы!

Як наогул раздзяліць-аддзяліць: гэтых забіў Гітлер, а гэтых — Сталін? Калі яны народ наш забівалі напару, адзін, уварваўшыся ў краіну звонку, другі — знутры. Дублёры.

Зусім не нацяжкаю будзе сцвярджэнне: кожны з іх забіваў і ворагаў другога. Колькі гітлераўскай «ваеннай машыне» спатрэбілася б намаганняў, часу, каб перамалоць 40 тысяч савецкіх вопытных ваенных камандзіраў? Сталін зрабіў за яго гэтую працу напярэдадні вайны.

А ўжо як пасадзейнічаў Гітлер сваім страшэнным генацыдам ў лагерах ваеннапалонных і на акупіраванай тэрыторыі таму, каб не аб'явіліся ў Сталіна сапраўдныя праціўнікі пасля вайны, калі людзі нашы выйшлі часова з-пад гіпнозу ўлады Сталіна, за межы навязанага ім «раю» і ўбачылі, як жывуць іншыя. Думаецца, не раз у думках ці пачуццях добрым словам уцалелы тыран узгадваў мёртвага: колькі той працы патрэбнай выканаў! Вось толькі яўрэяў не ўсіх прыкончыў, гэтых за-

бойцаў у белых халатах, даводзіцца самому гэтым займацца навідавоку ўсяго свету… А як добра папрацаваў Гітлер над гэтымі акулярнікамі — інтэлігентамі, маскоўскімі і ленінградскімі апалчэнцамі,— добра, з астатнімі справіцца цяпер і Жданаў!

Вядома, Сталін самазабойцам не быў. Наадварот, трусам быў, які вечна дрыжаў за ўласную скуру. За што і помсціў усім, таму што баяўся ўсіх. І, напэўна, спецыяльна і асабліва за той параліч волі і страх расплаты, які перажыў у першыя тыдні і месяцы вайны…

Перамогі ён, вядома, жадаў. Над Гітлерам, які так абмануў яго, — адзіны чалавек, якому ён паверыў. «Дагуляўся, падлюга!» — гэта яму хацелася сказаць паверджанаму Гітлеру, і ён змог гэта сказаць.

Але не менш імкнуўся ён да канчатковай перамогі над уласным народам, над уласнаю краінай. І таму ахвяры той і другой вайны суміраваліся. Перамагчы Гітлера ён імкнуўся, шкадаваць «сваіх» людзей ён не толькі не ўмеў (не дадзена было ад прыроды), але і разліку ніякага ў яго не было шкадаваць «патэнцыяльных ворагаў».

На Беларусі гадоў дзесяць назад створаны быў мастацкі фільм «Полымя» — шматсерыйная партызанская эпапея. Пра тое, як партызаны Беларусі выканалі заданне Масквы, а дакладней — самога Сталіна. Гераічны бок падзей адлюстраваны старанна, пра астатняе ў той час аўтары кінафільма расказаць не пасмелі.

Добра памятаю, як радасна адгукаліся партызаны на любы намёк, што вось такая аперацыя — «па заданню фронту, Масквы». На «рэйкавую вайну» — узрываць чыгунку ў час Курскай бітвы — ішлі як на свята.

Думаю, што так разварочваліся падзеі і на Віцебшчыне, куды ў 1944 годзе сабраныя былі для «стратэгічнага ўзаемадзеяння з франтам» атрады і брыгады амаль з усёй Беларусі — дзесяткі тысяч партызан.

Разграмілі, разагналі на значнай тэрыторыі ўсе нямецкія і паліцэйскія гарнізоны — акупанты спачатку былі ў паніцы. Тым больш што чакалі, вядома, наступлення тут Савецкай Арміі.

Але наступлення не паследавала. Ці то ў савецкага камандавання планы змяніліся, ці то сама ідэя Сталіна — сабраць у адно месца партызан — была ўсяго толькі «ваенная хітрасць»: няхай немцы пахвалююцца.

Начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнка ў сваіх успамінах хаця і апісвае гэту аперацыю, ніяк не тлумачыць: чаму партызан у час не абвясцілі, калі яны самі апынуліся ў «мяшку», што агульная

ўзгодненая аперацыя адмяняецца? Ці не адважыўся пайсці да таго, хто яму гэта заданне даваў, і высветліць: як далей быць партызанам?

Яны чакалі, яны трымаліся да апошняга, звыкла верачы, што «раз Сталін сказаў — жалезна», а разам з імі ў блакадным мяшку апынуліся дзесяткі і дзесяткі тысяч мясцовых жыхароў, жанчын, дзяцей.

Вось ужо калі Гітлер мог падзякаваць Сталіну: гэтыя няўлоўныя партызаны самі сабраліся, палезлі ў мяшок. Ніколі не ўдавалася акружыць столькі атрадаў, цэлыя брыгады прытым сядзяць і не выходзяць.

І калі за шмат тыдняў ушчыльнілася яно (франтавымі дывізіямі) да немагчымага, вырашылі нарэшце партызаны прарывацца. На Віцебшчыне стаіць помнік «Прарыў» — вось тут летняю ноччу 1944 года 800 аўтаматчыкаў (партызанам здавалася: ніхто не спыніць такі націск!), а ўслед атрады і насельніцтва кінуліся наперад. Прама на прыхаваныя нямецкія танкі. І палеглі — тысячы.

Наўмысна гэта Сталін падстроіў? Не станем гэтага сцвярджаць. А што бязлітасна — дык ці ўпершыню? Але калі пасля вайны, ужо на зыходзе крывавага самаўладдзя, запала ў свядомасць яго падазрэнне, навязлівая думка, што былыя партызаны і падпольшчыкі — патэнцыяльныя тэрарысты, а таму трэба з імі з усімі занава разабрацца, думаецца, што нітачка цягнулася і да таго 1944-га: «Слава нашым партызанам і партызанкам», але лепш, спакайней, надзейней, калі гераічна загінулі!

Пакаленне маё ў асноўным уцалела, хаця ваявала з Гітлерам. Яно ўцалела і пасля Перамогі. А гэта было таксама няпроста. Мабыць, толькі таму неператварыліся ў лагерны пыл, што не дайшла да нас чарга (а толькі-толькі даходзіла) у графіку сталінскіх рэпрэсій супраць кожнага пасталелага пакалення.

Мы, вядома, вельмі б здзівіліся, калі б з намі, партызанамі, учынілі, як раней — з нашымі праціўнікамі паліцаямі і ўласаўцамі. Як можна нас, правераных самой вайной?! Як быццам не былі правераныя рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной тыя, каго знішчыў Сталін у 30-ыя гады. За гэта самае і знішчыў: правераны, значыць, самаўпэўнены, а такія нам не патрэбныя. Запэцканыя і запалоханыя — накшталт Вышынскага, на ўсё гатовыя — куды лепш.

Ці не з гэтага зыходзіў Лаўрэнцій Берыя, калі ставіў задачу, мэту: кожнага трэцяга грамадзяніна краіны зрабіць «сексотам». Каб ужо запэцканыя, а значыць, свае, былі амаль усе! Вось да якога «ідэала» нас вялі — аб ім вы

тужыце, партна-здровы, пратэстуючы супраць «дэідэалагізацыі» КДБ, арміі, устаноў?

Курапаты, Хатыні. А сёння — Чарнобыль...

3

Май 1986 года... Хлопчык нясе дзве бутэлькі малака, сур'ёзны, горды: мамін памочнік. Што б ён падумаў, як спалохаўся б, калі б дарослы, што ідзе насустрач, падскочыў да яго і выхапіў гэтыя «гранаты». Такімі яны здаваліся ў руках дзяцей у той час. Я ўжо наведаў першага сакратара ЦК КПБ М. М. Слюнькова, з 6-гадзіннай гутаркі пераканаўся: прыбораў для замеру ўзроўню радыяцыі ў прадуктах харчавання ў рэспубліцы няма. І, здаецца, прасіць іх не вельмі збіраліся: навошта, усё амаль у норме, вось толькі там на поўдні, у куточку, не надта добра! Ну, ды ўсё пад кантролем! «А прыбораў усё-ткі няма?» — «Так, няма...» Вось такая гутарка напярэдадні маёй паездкі да М. С. Гарбачова. (Даведаліся ад мяне аб гэтай паездцы і паклікалі пагаварыць, пераканаць, пераканаць у адваротным...)

Не буду расказваць, як адвёз пісьмо, якія былі званкі і размовы праз памочніка Генсека Чарняева Анатоля Сяргеевіча. Вынік быў, трэба сказаць, неадкладны: у Мінск выехала прадстаўнічая камісія, і ўсе на ўзроўні міністраў і замаў — сам не чакаў. Па незнішчальнай нашай інтэлігенцкай наіўнасці, я хаця і здагадваўся, што зрабіў рэспубліканскаму начальству непрыемнасць, дэзавуаліздіраваўшы звышаптымістычную яго інфармацыю, але пераканаңы быў, што мы адзін аднаго зразумеем. Пісьменнік узяў на сябе ролю панікёра-просьбіта, што ж, пакарыстаемся цяпер прыездам камісіі і атрымаем усё, што можна.

Але адбылося нешта розуму недаступнае. Таварышы Слюнькоў, Барташэвіч (другі сакратар ЦК КПБ), Кавалёў (Старшыня Савета Міністраў БССР) проста-такі сценку выбудавалі супраць усякай дапамогі рэспубліцы. Не думаю, што і камісія прыкладвала звышнамаганні, каб прабіць гэтую сценку. Не трэба, дык не трэба! Раз у вас усё добра, нам тым лепш! Дзе ў нас тыя прыборы, або лішнія медыкаменты, або будматэрыялы!

Потым ужо я зразумеў, наколькі невыпадковаю была тая радасць (Салтыкоў-Шчадрын называў гэта «адміністрацыйным захапленнем»), з якою першы сакратар ЦК КПБ паведамляў у размове са мною аб «праколе» ўкраінцаў і поспеху беларусаў. Гэта калі кіраўнікоў УССР і БССР паклікалі ў Маскву — з прычыны чарнобыльскай аварыі, — Ляшко (украінскі прэм'ер) паўтары гадзіны

клянчыў і плакаўся, як у іх усё дрэнна і трэба ім дапамагчы. А наш Кавалёў за дзесяць хвілін зрабіў справаздачу. Мікалай Іванавіч Рыжкоў паляпаў яго па плячы: «Вось, вучыцеся ў беларусаў».

Дарагі Мікалай Іванавіч, ну што вы нарабілі? Мы, вядома, удзячныя, што заўсёды ставяць у прыклад непатрабавальнасць і сціпласць беларусаў. Але ж трэба і свае кадры ведаць. Яны што пасля гэтага — дзе ўжо шукаць дапамогу, — яны і свае палівальныя машыны адправілі ў Кіеў. А ўсіх, хто не аптыміст па-слюнькоўску, па-барташэвіцку, тут жа адхілілі ад чарнобыльскіх спраў. Усім, хто хацеў застацца пры пасадзе, строга-настрага загадана было спавядаць адну ісціну: у нас няма прычын для неспакою. Дырэктара атамнага цэнтра В. Б. Несцярэнку звольнілі, прэзідэнта АН БССР М. А. Барысевіча знялі, сакратара па ідэалогіі А. Т. Кузьміна (пасмеў звязацца з панікёрамі) выправілі на пенсію…

Да слова, калі двое першыя трапілі ў спіскі на рэспубліканскіх выбарах, іх і праз тры гады спасціг усё той жа высокі гнеў. Хаця, здавалася б, рэспубліканскае начальства моцна змянілася. Але не, памятлівы апарат на такое. Ледзьве не ў адзін дзень адзін і той жа артыкул, які ачарняе Барысевіча і Несцярэнку (і за што?.. Менавіта за Чарнобыль!), з’явіўся ў «Вячэрнім Мінску» і маскоўскай «Рабочей трибуне»…

А мне вельмі хацелася б даведацца аб падрабязнасцях гаворкі кіраўніка саюзнага КДБ тав. Чэбрыкава з адпаведнай арганізацыяй у Мінску — у адносінах да мае асобы. Вось і такая была рэакцыя, гэта мне вядома. Як жа, умяшаліся ў «іх» справы! Такія справы заўжды лічыліся не нашымі, а іх — нават калі табе на галаву пасадзілі цэлы рэактар. («Бач ты, куды палез — у вялікую палітыку!» — даносілася, як рэха. І чарговы раз «трапіў пад каўпак».)

Але ўсе нашы асабістыя непрыемнасці — якое гэта мае значэнне ў параўнанні з тым, што нарабілі з народам Беларусі, з украінскімі і рускімі абласцямі за больш чым тры гады злачыннай бяздзейнасці. А калі і дзеянняў, то чыста адцягненых, дэкаратыўных, хаця і вельмі дарагіх: абмыўка дрэў і дарог, актыўнага будаўніцтва «культаб’ектаў» у заражаных раёнах і да т. п.

У гэтай Вялікай Дзяржаўнай Хлусні прамы ўдзел прымала і наша кіраўнічая медыцына (яе Інстытут біяфізікі і сёння калі і адступае пад націскам грамадскасці, то ў самым ар’ергардзе), на жаль, многія і многія вучоныя: фізікі, біёлагі і інш. Апошні іх магутны залп па праўдзе аб Чарнобылі, які прарваўся праз

сцяну сакрэтнасці, — гэта звернутае наверх «пісьмо 92-х». І хаця ў ім нямала тытулаваных імёнаў, не пачуў іх Вярхоўны Савет СССР, не прыняў 35-бэрную канцэпцыю, паводле якой дзеці і цяжарныя жанчыны прыроўніваюцца да работнікаў-спецыялістаў АЭС. Так, завод Вялікай Хлусні яўнаканчаецца.

Але вось цікавая заканамернасць: усе, хто ўдзельнічаў у абмане народа, пайшлі на павышэнне. З раёна — у вобласць, з вобласці — у Мінск. Ну, а з рэспубліканскай сталіцы, вядома, — у Маскву, калі трэба, то прама ў Палітбюро. Можа, і не ўсе за гэтыя справы, але народу не загадаеш думаць, як каму зручней.

Неяк спытаў у акадэміка Андрэя Іванавіча Вараб'ёва: ці можна вызначыць крыніцу Вялікай Хлусні пра Чарнобыль? Згадзіліся, што крыніц было шмат. Кожнае ведамства, якое было не на вышыні (а хто на вышыні?), зацікаўлена ў гэтай хлусні: малая аварыя — і іх віна малая, а калі гэта катастрофа, значыць, і віна іх вялікая. І як гэта бывае: хаваючы адны злачынствы, натварылі новых, яшчэ большых: хіба не злачынства супраць чалавечнасці вось гэта — свядомае ўтойванне ад соцень тысяч людзей праўды аб тым, што жыць на гэтых землях нельга.

Яшчэ Сталіным адрэгуляваныя партыйна-дзяржаўныя структуры, пазбаўленыя ад кантролю знізу, сфармаваныя ў мэтах перманентнай вайны з народам, дзейнічалі і на гэты раз, як ім і трэба. На вайне як на вайне: абман не толькі дапускаецца, але і ўзнагароджваецца. Галоўнае, каб не было панікі. Ну, а ахвяры — яны непазбежныя.

Уся наглядная карціна Вялікай Хлусні і ўсе нашы малавынікоўвыя спробы праламаць або абысці сцяну (аж да канца 1988 г.) — усё гэта так і прасілася прама ў раман-антыўтопію. Але як цяпер часцей бывае, энергія ішла, трацілася на ўсё новыя і новыя спробы прамога, непасрэднага дзеяння, не да раманаў было. Але фабула выбудоўвалася вось такая.

Свет расколаты па-ранейшаму: «...лепш быць мёртвымі, чым чырвонымі» (або наадварот, «нечырвонымі»). Нацэленыя на гарады, краіны, кантыненты ядзерныя арсеналы, вось-вось здарыцца зрыў — псіхікі або тэхнікі.

А ў нас яшчэ адзін Чарнобыль, ды не, цэлы пякельны ланцужок (па «графіку Лягасава»). Свет, вядома, зафіксаваў шалёнае павышэнне радыяцыйнага фону, але МАГАТЭ і падобныя арганізацыі на Захадзе, як і ў гісторыі з першым Чарнобылем, берагуць аўтарытэт атамнай энергетыкі і дапамагаюць нам ілгаць. Ну, а ў нашых «зонах», як і ў часы першага Чарнобыля: «аніякай панікі», становішча лепшае, чым калі-небудзь раней, менавіта там

будуем дамы адпачынку, культурныя цэнтры, фабрыкі па перапрацоўцы харчовых прадуктаў, аром, сеем, збіраем — ну, усё, як у Беларусі ў 1986-1989 гадах. Спецыялісты з Мінздрава, Дзяржкамгідрамета, Інстытута біяфізікі, членкары і акадэмікі запэўніваюць народ, што есці і піць можна ўсё (толькі рукі мыць), галоўнае, не паддавацца радыефобій Несельніцтва пасняхова вымірае, а ў газетах — подзвігі, перамогі.

Адваротны бок западозрыў няладнае. Чаму абязлюдзелі гарады? Ці не засоўваюць насельніцтва ў бомбасховішчы, ці не рыхтуюць ядзерны напад? Не вытрывалі нервы — ударылі з усіх шахтаў. І забілі, атруцілі ўсе краіны, усе кантыненты — і сябе таксама.

Маё другое пісьмо пра чарнобыльскія справы М. С. Гарбачову (апублікаванае як артыкул у «Новом мире»: «Далібог, больш не ўзарвецца, або Думка неспецыяліста») мела больш прамыя і прыкметныя вынікі. Але і час быў ужо другі — 1988-ы год. Але як жа ў нас усё цяжка даецца, нават пры прамой падтрымцы і зацікаўленасці Першай асобы ў дзяржаве!

А што, калі гэта парушэнне самой прыроды Сістэмы, запатэнтаванай самым крывавым у гісторыі правіцелем: яна не прымае на месцы Першага чалавека ў дзяржаве нікога з добрымі, чалавечнымі намерамі, не крывапійцу, не з жорсткім сэрцам? Вунь як канвульсіўна Сістэма гэтая спрабавала ад яго пазбавіцца, адрынуць — на апошніх партыйных з’ездах.

4

Цяжка самім сабе прызнацца, ад якога свету мы адыходзім, у што нас ператварыла Сістэма. У газеце «Совершенно секретно» надрукаваны ўрывак з кнігі Мікаласа Бетэла пра лёс казакоў, якія ваявалі на баку немцаў і былі перададзены англічанамі Сталіну (№ 6, 1990 г.). Уся трагедыя ў тым, што казакі не адны, а з сем’ямі, пры іх дзеці, а значыць, і іх перадаюць у рукі Сталіна. А якія рукі ў «лепшага сябра дзяцей», ведалі добра. Бацька страляе, забівае жонку і дзетак — толькі б не гэта. Маці кідаецца з моста з дзіцяткам — лепш на дно, чым да Сталіна.

У працы Бетэла прысутнічае і тая праўда, што казакі, якія служылі ў немцаў, паводзілі сябе ў Югаславіі, куды іх пасылалі змагацца з партызанамі, як жорсткія карнікі, на іх сумленні нямала забітых, спаленых жывымі жыхароў, нейчых маці, дзяцей. Пра гэтыя часці жахлівая памяць і ў нашых людзей, дзейнічалі яны і на Беларусі.

Дык што: так злодзею і трэба? Па справах яго? Але, па справах, пакуль гэта датычыцца саміх карнікаў, нават калі ў іх была руская

ідэя, казацкая ідэя, украінская ці беларуская: калі ты кат, замучыў дзіцятка, ты губляеш права называцца змагаром за ідэю. Ты ўсяго толькі маленькі Сталін, які ўзненавідзеў «вялікага». Яблыка, якое недалёка падае ад яблыні.

Калі мы збіралі матэрыял для кнігі пра Хатынь — «Я з вогненнай вёскі», — былыя ахвяры карных акцый усё пыталі ў нас і як бы ў саміх сябе: «Ну, добра, чужаземцы, але як маглі свае гэтак здзекавацца над сваімі?!» Ну, а да вайны не здзекаваліся над сваімі? Вось там тады і навучыліся. Ну, а хто быў наш правадыр і настаўнік — вядома. І якраз па дзецях самы спецыяліст быў: умеў раскалоць самага цвёрдакаменнага ленінца, прымушаючы называць сябе шпіёнам і падонкам — і менавіта з дапамогаю дзяцей. Арыштаваныя разумелі, у чыіх і якіх руках апынуліся дзеці.

Добра, ён. Але ж мы, мы! Як лёгка (не адразу, але старанні настаўнікаў пайшлі на карысць) людзі згаджаліся, што, калі чалавека аддзяліць ад астатніх слоўцам «элемент», «кулак», «вораг народа», «шкоднік», з ім можна рабіць што хочаш. Галоўнае, што мы чыстыя. Пакуль, вядома, чарга да цябе не дайшла, але чалавек гэтага ведаць не хоча.

Раз чалавек — вінцік, яго не так ужо складана прыстасаваць да іншага механізма, ну, а змазка новая, нацысцкая: «бі жыдоў!», «бі камуністаў!», «бі сталінскіх бандытаў!».

А часам ідэалагічную змазку бессаромна змешвалі, я сам чуў, як паліцай роў на сялян: «Кулацкае насенне!»

Мне заўжды здаваўся напоўненым страшнага сэнсу лёс дзвюх вёсак на Палессі, дзе жорсткі механізм перамолвання народа спрацаваў асабліва наглядна. Непадалёк ад Беразіны гэтыя вёскі абедзве называліся Коўчыцы («першыя» і «другія»). Адну з вёсак называлі яшчэ: Коўчыцы-яўрэйскія. З часоў «аседласці» там сапраўды жылі яўрэі ўперамешку, вядома, з беларусамі. У нас у атрадзе быў хлопчык Рубін (імя забыў). Ён расказваў, што калі яўрэяў сталі забіваць у Бабруйску, у Парычах (гэта па-суседску), на вуліцы яго спыніў сусед, ён убачыў у руках у хлопчыка канькі (кавалю нёс у рамонт) і сказаў: «Аддай канькі майму Кольку (Колька быў сябар таго хлопчыка), цябе ўсё роўна заб'юць».

Заплакаў, пабег дадому. А калі прыехалі, прыйшлі забіваць (і гэты сусед, ужо з паліцэйскай вінтоўкай), Рубіны схаваліся на гарышчы ў другога суседа і чулі гаворку ўнізе:

— Не ведаеш, куды гэтыя пабеглі?

— У лес, куды ж. Цяпер ад іх ты будзеш бегаць.

Партызаны перабілі коўчыцкіх паліцаяў восенню 1943 года, а самі пасяліліся ў іхніх хатах, у іхніх сем'ях. Нас гаспадыня карміла бульбаю, мы з ёю і дзецьмі яе дзяліліся мясам, кансервамі. (Ужо наведваліся да сваёй арміі праз лінію фронту.)

Але менавіта так: у хатах, у сем'ях забітых намі мужоў, бацькоў. А што было рабіць, калі пачатая ў грамадзянскую вайна са сваімі працягвалася ўнутры вайны з немцамі?

Раніцай 25 снежня 1943 года (такія даты помніш) Коўчыцы атакавалі немцы і ўласаўцы. Пад вечар нас з вёскі выцеснілі. Цяпер там помнік 82 партызанам, якія загінулі. І 102 жыхарам Коўчыц — сем'ям паліцэйскіх, якіх немцы і ўласаўцы перабілі, амаль усіх, каго дасталі. Такая яна, наша гісторыя.

А калі прыйшла адна на ўсіх Перамога, многія, вельмі многія хутка пераканаліся, што, не, перамог шмат. Адна — тая, што на грудзях у Сталіна, ужо генералісімуса, адзінаўладнага гаспадара краіны. Другая — ў тых, каму дасталіся пашпарты. І зусім іншая (і ці перамога?) у бяспашпартных калгаснікаў. Дасюль помню, як мы, гараджане, сустракаліся з хлопцамі, нашымі былымі партызанамі, і як не атрымлівалася, гасла гаворка пра агульныя нашы справы ў вайну. Мы ж іх Перамогу ўкралі: Сталін — у нас ва ўсіх, а мы, гараджане, — у калгаснікаў.

Калі мы зноў чулі на XXIII з'ездзе партыі настырнае, наздроўскае расхвальванне пераваг сталінскай сістэмы земляробства, было і агідна, і сорамна: яшчэ ж у 1943 годзе мы добрасумленна ілгалі нашым бабам і мужыкам наконт новых парадкаў там, пад Масквой — людзям так крыўдна было паміраць за гэтыя самыя калгасы. І смешна рабілася ад бязглуздзіцы таго, што адбывалася, калі ў дапамогу сабе на трыбуну Ягор Кузьміч, як Вія (зноў-такі Гогаль), клікаў: «Старадубцаў! Дзе Старадубцаў?» Мабыць, ужо не пачуем Лігачова з такіх трыбун, але Старадубцаў застанецца на сваім месцы. Тэрорам і шматгадовай прыгоннай залежнасцю пазбавілі земляроба ўсіх жаданняў, а цяпер нам старшыня Сялянскага саюза гаворыць: не хочуць людзі быць вольнымі на зямлі, а хочуць нас, старшыняў!

Колькі ж гэта можа цягнуцца? Хто і навошта, па якому мандату ад народа, на колькі гадоў уручыў лёс нашага земляробства Лігачову, а справу перабудовы прамысловасці — Слюнькову? Ну, хаця б у беларусаў спыталі або ў тамічан. Але і тое сказаць: у гэтай партыі свае традыцыі ў такіх справах, ды і мэты хутчэй за ўсё праследаваліся ўнутрыпартыйныя, а не дзяржаўна-гаспадарчыя.

5

У Іспаніі была ў нас гаворка з парламентарыямі. Дзяліліся з намі вопытам пераходу ад таталітарнай сістэмы да сучаснай дэмакратыі — па тонкім канаце дыялогаў і палемікі розных грамадскіх груп. Для таго, каб быў цвёрда абазначаны «цэнтр» і каб існаваў нацыянальны сімвал, каб раўнавагу захоўваць, іспанцы і караля вярнулі. «Толькі не сарвіцеся!» — папярэджвалі яны.

На XXVIII з'ездзе быў момант, калі краіна, здавалася, магла сарвацца ў нешта непрадказальнае. Гэта калі ў пачатку работы з'езда дэлегат з Магадана, збялелы ад уласнай рашучасці, і, адчувалася, на хвалі нядаўняй «перамогі» на з'ездзе РКП, вядома ж, ад імя затопвальнікаў перабудовы патрабаваў: дэлегатам — недатыкальнасць, ранейшае кіраўніцтва адхіляем, з'езду — усю ўладу над партыяй! («З'езд бярэ ўладу ў партыі! Патрабую прагаласаваць!») А што такое нашай кіруючай партыі ўлада? Гэта ўлада над КДБ, над арміяй. (Тое самае пытанне аб «дэпалітызацыі», якое дэлегаты-апаратчыкі дружна так затупвалі.)

Нельга было не ацаніць вытрымку Гарбачова, калі ён сказаў больш чым спакойна: да гэтага пытання мы вернемся, а цяпер пачнём працаваць, па праграме. І небяспечна навіслы, разбуральны сель не сарваўся, не абрынуўся з падталых апаратных вяршынь, крышачы, якую ні ёсць, раўнавагу ў грамадстве, краіне...

Гэта да пытання аб «правых». Цяпер аб «левых». Іспанскія парламентарыі так тлумачылі праваты і няправату нашых перабудоўшчыкаў у спрэчках з Гарбачовым, якія ўзнікалі. Ён, Гарбачоў, адмыкнуў вам дзверы, ну, і рухайцеся, дзейнічайце, не патрабуйце, каб і ён заўсёды быў наперадзе першых. І перад тымі, хто ўслед збіраецца ісці. У тым і складанасць становішча Гарбачова: быць наперадзе і адначасова там, дзе ўсё яшчэ моцныя і небяспечныя кансерватыўныя сілы.

Сёння многія заходнія палітолагі лічаць: таму ён і з партыяй застаўся. І няма чаго дакараць Прэзідэнта рашучасцю, учынкам Ельцына, Сабчака, Папова, а іх, у сваю чаргу, — яго паводзінамі. Тая самая раўнавага, пра якую гаварылі ўмудроныя ўласным вопытам іспанцы.

Галоўнае, разумець адзін аднаго: інтарэс жа агульны — прайсці па канату перабудовы і не зваліцца ні ў дыктатуру, ні ў грамадзянскую вайну.

І апошняе, як кажуць народныя дэпутаты, калі даўно перабралі ўжо рэгламент. Вярнуся да таго, пра што Мікаян гаварыў: хто ж злачынцы і па чыіх справах ствараць камісіі? Гэта да пытання аб Камісіі Палітбюро па

рэабілітацыі ахвяр рэпрэсій. І не толькі ў тым праблема, што з Камісіі, мабыць, выходзіць А. М. Якаўлеў, чыім сумленнем і энергіяй і права рухалася. (Грамадства, нават не ўсё ведаючы, усё адчувае.) Але не ў гэтым нават сутнасць, а ў тым, што прыйшоў час сказаць прама: такія дазіраваныя рэабілітацыі, якія цягнуцца гадамі і дзесяцігоддзямі, азначаюць, што мы ўсё яшчэ не адважваемся ісці да канца, не гаворым галоўнае: рэпрэсіраваны практычна быў увесь народ. Сялянства як такое. Рабочыя і інтэлігенцыя як такія. Гэта і павінен прама заявіць Вярхоўны Савет, а не нейкія камісіі. Заявіць і закрыць пытанне аб «віне» народа — гэта перад кім жа, перад ідэалагізаванаю шайкаю крымінальнікаў? — а тым самым і пытанне аб рэабілітацыі.

Калі пытанне і існуе, то толькі аб той ступені віны тых, хто ўсё гэта ажыццяўляў. Ну, і аб рэабілітацыі, калі хто ў гэтым не вінаваты. Слова за Вярхоўным Саветам.

1990 г.

## БЕЛАРУСКАЯ БЯДА
*(АХВЯРЫ ЧАРНОБЫЛЯ НА ВУЛІЦАХ МІНСКА)*

Не з усіх заражаных чарнобыльскімі выкідамі раёнаў Беларусі, а толькі з дванаццаці змаглі прайсці маршам па Мінску 30 верасня тыя, хто вырваўся з «зоны». Што за недарэчнасць, чаму гэтым людзям давялося вырывацца і прарывацца да ўласнай сталіцы? А чаму, можна спытаць, многія з гэтых раёнаў наогул не лічыліся ў спісках пацярпеўшых? Спачатку, і вельмі доўга, называліся толькі тры раёны.

Калі Беларускі народны фронт, адгукаючыся на кліч аб падтрымцы мясцовых «ініцыятыўных груп па самавыратаванню», аб’явіў аб маршы «Чарнобыльскі шлях», улады тут жа назначылі на гэты дзень выезд горада на суботнік. Суботнік непадрыхтаваны, экспромтны — абы толькі не сустрэліся мінчане з людзьмі з «зоны».

Міжволі ўспамінаеш 1956-1958 гады, калі адбылася сустрэча дзвюх «палавінак» народа і адна таксама вырвалася і таксама з «зоны». Розныя рэчы? Магчыма, і розныя. Але як, мабыць, апарату таксама няўтульна было ад гэтай сустрэчы…

Потым на мітынгу каля Дома ўрада, а таксама на прэс-канферэнцыі жыхары з «зоны»

паказвалі павесткі ў суд, выклікі да пракурора — у адказ на заяўленае жаданне ўдзельнічаць у маршы. ДАІ мела загад не выпускаць «падазроныя» аўтобусы з Нараўлянскага раёна, з Хойніцкага, з заражаных раёнаў Магілёўскай вобласці...

І ўсё-ткі адбыліся і марш і мітынг. Мінчане разабралі прыезджых па кватэрах. Пакуль людзей сабралася толькі некалькі соцень, у ўладаў з імі была кароткая размова: нельга, таму што нельга! Праз гадзіну было ўжо некалькі тысяч, а да 14 гадзін — больш 30 тысяч. Давялося адкрыць для іх праспект Леніна. На чорных палотнішчах, якія неслі людзі пад халодным дажджом: Хойніцкі раён: цэзій — 60 кюры/км2, стронцый — 70,9 кюры/км2; Веткаўскі раён: цэзій — 50, стронцый — 1,75; Клімавіцкі: цэзій — 47; Касцюковіцкі — 71 кюры/км2...

І канца гэтаму няма. Так, не такая ўжо і малая Рэспубліка Беларусь, але для такое неабдымнае бяды — малая. Ледзь не трэць яе тэрыторыі стала небяспечнаю для здароўя, для жыцця. Аднак тры з палавінаю гады сотні тысяч пражылі (жывуць) там. І няма вінаватых, нібыта няма. Вучоныя, медыкі? Дык яны не мелі дастатковых даных, а якія мелі, на гэта ўлады не рэагавалі, наадварот, забаронена было распаўсюджваць. Улады? Іх дэзінфармавалі спецыялісты, а вось цяпер, калі даведаліся пра ступень пагрозы, усё будзе інакш. Атамнае міністэрства? Дык яно, выяўляецца, і ёсць пацярпелы бок. У «Известиях» мы вычыталі нядаўна, што сабраныя народам грошы для ахвяр Чарнобыля — мільёны і мільёны — у немалой долі пайшлі на пакрыццё яго расходаў. Забойца атрымаў кампенсацыю ад ахвяры. Куды ўжо далей па шляху бюракратычнага абсурду?

Каля Дома ўрада людзі спыніліся, каб запрасіць на мітынг тых, хто мог бы растлумачыць, як яно так атрымалася. Выйдзі яны на трыбуну, маглі б расказаць, якія нялічаныя мільёны ўкладзены ў праграму выратавання... не, не людзей, а прэстыжу тых, хто не жадаў у 1986 годзе ні бачыць, ні паведамляць праўду аб маштабах бедства, якое абрынулася перш за ўсё на Беларусь. Колькі збудавана дамоў, вёсак (сёння назаўсёды пакінутых), асфальтаваных дарог, абы толькі людзі не пыталі, колькі гэтых самых «кюры» ды «бэраў» у іх спальнях або ў валасах дзяцей. Не пыталі хоць бы датуль, пакуль не пойдзе чыноўнік на павышэнне, а нехта не даслужыцца да персанальнай пенсіі, не абароніць дысертацыю. На бяду нашу пахвалілі тады, у першыя месяцы Чарнобыля, беларускае кіраўніцтва, паставілі яго нават у прыклад украінцам: вучыцеся,

маўляў, не плачуцца, не просяць дапамогі, на сябе разлічваюць! З гэтага і пачалося? О, гэтае адміністратыўнае захапленне!..

Ніхто не выйшаў да 30 тысяч. З імі гаварылі тыя самыя людзі з «зоны», гісторыкі, літаратары ды вучоныя (з Масквы Яўгеній Веліхаў!).

У адзінагалосна прынятай рэзалюцыі ёсць патрабаванне: расследаваць дзейнасць асобаў і арганізацый, адказных за чарнобыльскую сітуацыю на Беларусі, а таксама звярнуцца за дапамогаю да міжнародных арганізацый. Ратаваць ужо даводзіцца цэлы народ: безадказная паказуха, недаацэнка, а то і свядомае скажэнне маштабаў бедства прывялі да нястрымнага размазвання радыяцыі і там, дзе яе спачатку не было.

Экалагічныя Курапаты чакаюць свайго расследавання. І таксама сродкаў, мер, якія ўжо не па сіле адной рэспубліцы.

*1989 г.*

## ЖЫЦЬ НА ЗЯМЛІ, І ЖЫЦЬ ДОЎГА

*(ДЫЯЛОГ АКАДЭМІКА А. САХАРАВА І А. АДАМОВІЧА ВЯДЗЕ У. СІНЕЛЬНІКАЎ)*

Гутарка, якую вы зараз прачытаеце, адбылася роўна два гады таму назад. Я да найдрабнейшых дэталей помню той летні, вельмі спякотны дзень. Але пачаўся ён, можна сказаць, двума гадамі раней, калі мы з рэжысёрам Р. Сергіенкам літаральна штурмавалі інстанцыі, каб атрымаць дазвол на здымкі ў Чарнобылі. Тады ж хацелі ўключыць у фільм інтэрв'ю з акадэмікам Андрэем Дзмітрыевічам Сахаравым.

Але месяц мінуў, каб угаварыць інстанцыі не непакоіцца аб здароўі здымачнай групы. Потым гадзіны і дні мы трацілі, каб атрымаць дазвол на кожны выезд у зону бедства. І зноў жа нам гаварылі, што клапоцяцца аб нашым здароўі. А калі карціна была гатовая, тыя, хто аберагаў нас ад радыяцыі, цяпер ужо пад сцягам нацыянальнай бяспекі больш за паўгода не выпускалі «Звон Чарнобыля» да гледача.

Тады мне здавалася, што з'яўленне ў фільме інтэрв'ю з Андрэем Дзмітрыевічам адыграе фатальную ролю ў лёсе карціны. І яно не адбылося. Але некалькі падобных на інквізітарскія гутарак у кабінетах Галоўатама і іншых забарончых інстанцый умацавалі мяне ў

думцы, што данесці да народа слова і воблік вернутага з г. Горкага А. Д. Сахарава — мой грамадзянскі абавязак. Год таму назад мы сустрэліся ўпершыню перад камерай і пагутарылі.

Успамінаючы пра гэтае інтэрв'ю зараз, усведамляеш, як усё-ткі хутка развіваюцца грамадскія працэсы ў нашым грамадстве. Падумаць толькі: год таму назад, каб зняць Сахарава, спатрэбілася строгая канспірацыя. Але калі Андрэя Дзмітрыевіча абралі народным дэпутатам, канспірацыя (хочацца верыць) не патрэбная, і цяжкасці перад стваральнікамі фільма стаялі іншыя: быць на ўзроўні знятага матэрыялу.

Гутарка, з часткай якой вы пазнаёміцеся, краналася шырокага кола праблем нашага жыцця. Гэтаму шмат у чым садзейнічаў удзел у ёй Алеся Адамовіча (трэба сказаць, што яны сустрэліся ўпершыню ў жыцці). Праслухоўваючы гутарку пасля запісу раз, другі, трэці, я пераканаўся, што шматгадзінны сінхрон стварыў грунт для карціны пра акадэміка А. Д. Сахарава. Але трэба было здымаць і здымаць, каб яна склалася.

Здымалі пасяджэнне міжнароднага фонду «За выжыванне і развіццё чалавецтва», куды ўвайшоў акадэмік Сахараў. Спачатку толькі ў Маскве. Члены прэзідыума і савета дырэктароў фонду адмовіліся збірацца ў іншых краінах датуль, пакуль там з імі разам не зможа працаваць Андрэй Дзмітрыевіч. І яны дачакаліся, а мы знялі той міг, калі шасцідзесяцісямігадовы акадэмік упершыню ў жыцці перасек дзяржаўную граніцу сваёй краіны і адправіўся на пасяджэнне фонду ў Вашынгтон.

Праз некалькі дзён ноччу ў гасцінічным нумары, дапаўшы да малюпасенькага дысплея відэакамеры, мы прагледзелі матэрыял, зняты на ўручэнні Сахараву Эйнштэйнаўскай прэміі, якая чакала яго некалькі гадоў.

Яшчэ адзін гатовы эпізод — ля ўвахода ў Нацыянальную акадэмію ЗША ў Вашынгтоне. Андрэй Дзмітрыевіч раз-пораз марудна абыходзіў карту Сусвету на паліраваным чорным мармуры, над якой у позе сядзячага дзіцяці схіліўся бронзавы Эйнштэйн. Тыя, хто знаходзіўся побач з Андрэем Дзмітрыевічам у тую хвіліну, пачулі, як ён вымавіў, нарэшце, спыніўшыся, як бы вырваўся з кола думак, якімі ён жыў у час толькі што сказанай прамовы пасля ўручэння прэміі, і з кола акрэсленай яго крокамі прасторы: «Геній — заўжды дзіця».

Мы паспелі зняць Сахарава і каля пасольства СССР пад таблічкай «Плошча Сахарава». І сказалі адзін аднаму: а гэта ж і сёння такой таблічкі няма ні ў Маскве, ні ў Горкім.

Магу сабе ўявіць, якую цану заплацілі б гісторыкі навукі, каб даведацца, пра што гутарылі ў Вашынгтоне, адасобіўшыся ад свету на некалькі хвілін, «бацькі вадароднай бомбы» Сахараў і Тэлер у час іх першай, магчыма, і адзінай сустрэчы. Мы ўзялі інтэрв’ю і ў Тэлера, але, зразумела, не спыталі аб змесце гутаркі.

Здымкі ў Маскве працягваліся. Чакае свайго часу плёнка перадвыбарнай барацьбы ў Акадэміі навук і паездкі ў Грузію для расследавання трагічных падзей. Ёсць і іншыя матэрыялы для фільма, якія яшчэ трэба будзе асэнсаваць.

**Уладзімір Сінельнікаў**. *У свеце зараз існуе непрыняцце атамнай энергетыкі як такой. А паколькі скампраметаваныя і іншыя крыніцы энергіі, то некаторыя лічаць, што лепш жыць пры лучыне, абы толькі не падвяргаць сябе і сваіх дзяцей небяспецы. Што вы думаеце ў сувязі з гэтым?*

**Андрэй Сахараў**. Жыць пры лучыне — гэта азначае наогул жыць без усіх ці большай часткі дасягненняў цывілізацыі. Але ёсць такая эмпірычная заканамернасць: сярэдняя працягласць жыцця вельмі моцна ўзрастае ў лінейнай залежнасці ад расходу энергіі на душу насельніцтва. Таму думаецца, што ў сэнсе чалавечых ахвяраў і чалавечых пакутаў адмова ад вытворчасці большых колькасцей энергіі на душу насельніцтва — гэта таксама забойства. Толькі забойства іншым спосабам. Энергія патрэбная. Толькі як яе атрымліваць сёння?

Альтэрнатыўныя, чыстыя крыніцы энергіі ў наш час эканамічна не канкурэнтныя з «бруднымі», нават з гідраэлектрастанцыямі. Гэта становішча, мабыць, захаваецца на вельмі працяглы час. Хаця, вядома, і тут адбываецца бесперапынны працэс. Ядзерная энергія цяпер даражэй, чым атрыманая з дапамогай звыклых крыніц, але нафта і газ у перспектыве будуць вычэрпвацца, вугаль экалагічна вельмі шкодны, любыя цеплавыя станцыі ўтвараюць парніковы эфект. Мабыць, у перспектыве ўсё большую і большую ролю павінна адыгрываць усё-ткі ядзерная энергетыка. Ва ўсякім выпадку, на працягу дастаткова працяглага часу, на які мы можам рабіць тэхнічныя прагнозы. Яе, вядома, трэба зрабіць бяспечнай. Тут ёсць розныя шляхі.

Перш за ўсё ўдасканаленне ядзернага рэактара. Створаны вода-вадзяныя рэактары, у якіх няма чаму гарэць; рэактары з газавым ахаладжваннем, у якіх не ўтвараецца выбуховая сумесь — грымучы газ; рэактары, у якіх пры любой аварыі адбываецца змяншэнне рэактыўнасці. Усё гэта ў прынцыпе магчыма. І ўсё ж стопрацэнтнай упэўненасці ў поўнай

бяспецы няма. Да прыкладу, праблемы тэрарызму, абстрэлу ракетамі і бамбардзіроўка з паветра з прымяненнем звычайных выбуховых рэчываў застаюцца датуль, пакуль мы жывём у такім свеце, як цяпер. Мне дасылаюць шмат пісем з Арменіі, аўтары якіх вельмі баяцца, як бы якія-небудзь тэрарысты не ўзарвалі іх станцыю, блізкую па канструкцыі чарнобыльскай… Ну, магчыма, некалькі лепшая.

**Алесь Адамовіч**. Акадэмік Лягасаў мне казаў, што, па яго меркаванню, першаю ўзарвецца армянская атамная[1].

**А. Сахараў**. Так, я ведаю гэтае яго выказванне. На ёй ужо было шмат розных непрыемнасцей лакальнага характару… На ленінградскай былі яшчэ большыя непрыемнасці. Увогуле, яны ідуць у першай шарэнзе, гэтыя дзве станцыі.

**А. Адамовіч**. Яшчэ дзякуй душманам, што яны не пальнулі па армянскай станцыі. Але ў іх, мабыць, такой ракеты няма…

**А. Сахараў**. Так, ад іх досыць далёка. Хаця ў прынцыпе ўсё магло быць. Увогуле, вывад у мяне такі — кардынальным рашэннем бяспекі з'яўляецца падземнае знаходжанне ядзерных рэактараў.

[1] Пасля трагічнага землятрусу ў Арменіі ўрад прыняў рашэнне аб закрыцці армянскай станцыі. — *Заўвага рэд.*

**А. Адамовіч**. А вось што рабіць з тымі станцыямі, якія ўжо стаяць на зямлі, і ў тым ліку чатырнаццаць такіх, як чарнобыльская?

**А. Сахараў**. Трэба рабіць абаронныя каўпакі. Гэта мера, якая прыкметна знізіць небяспеку вялікай бяды. Затым паступова кансерваваць станцыі.

**А. Адамовіч**. Мне гаварылі людзі вопытныя ў гэтых справах, што над чарнобыльскім рэактарам каўпак немагчыма стварыць у прынцыпе і над ужо дзеючымі чатырнаццаццю станцыямі, падобнымі да чарнобыльскай, — таксама.

**А. Сахараў**. Слова «ў прынцыпе» тут, мабыць, недакладнае. Калі ўкласці вялікія грошы — усё можна зрабіць. Але, вядома, няясна, што танней — закрыць рэактары і пабудаваць падземныя ці… Прычым падземны рэактар можа быць і графітны, тут мы можам сабе дазволіць гэта, ці вода-вадзяны, які хочаце.

Апроч таго, ёсць вельмі важны эканамічны фактар — гэта кансервацыя станцыі. Кожная станцыя, скажам, праз трыццаць гадоў выпрацуе свой рэсурс, і яе трэба закансерваваць. Калі гэта была наземная дзеючая станцыя, то праблема кансервацыі незвычайна складаная, трэба рабіць саркафаг або разабраць яе з дапамогаю робатаў і зрабіць зялёны паплавец.

Гэта каштуе амаль столькі ж, колькі пабудаваць новую станцыю. А падземную вы можаце проста закрыць на ключ і пакінуць навечна.

**А. Адамовіч**. Супраць вашай ідэі ёсць аргумент — падземныя воды. Можна атруціць падземную нашу камунікацыю…

**А. Сахараў**. Калі рабіць з розумам, то гэтага не здарыцца. Калі ў скальным грунце — гэта ўжо выключана. У нас ёсць дастаткова шмат месцаў, нават у еўрапейскай частцы СССР, дзе геалагічныя ўмовы спрыяльныя, дзе глебавыя воды цякуць пад непранікальным гліністым пластом. І вы заўсёды можаце зрабіць параўнальна танны паддон, праз які нават расплаўленая маса, утвораная пры аварыі, не пранікне. Увогуле, пры ўліку геалагічных умоў гэтая небяспека можа быць зведзена да мінімуму.

**У. Сінельнікаў**. *Ці можна сказаць, што праект, метады будаўніцтва і эксплуатацыі Чарнобыльскай станцыі прадвызначылі непазбежнасць трагедыі?*

**А. Сахараў**. З поўнай упэўненасцю гэтага сказаць нельга. Але, вядома, у рэактары быў шэраг хібаў вельмі сур’ёзных. Магчымасць аварыі, менавіта катастрафічнай аварыі, была патэнцыяльна закладзена. Якія гэта хібы? Па-першае, адсутнасць абароннага корпуса. Па-другое, тое, што рэактар на графіце, а графіт можа гарэць, па-трэцяе, дадатны каэфіцыент паравой рэактыўнасці, гэта значыць, пры ўтварэнні пары сістэма разганяецца, па-чацвёртае, там такая канструкцыя рэгулюючых стрыжняў, што пры ўвядзенні пачатковай іх часткі рэактыўнасць павялічваецца. Апроч таго, станцыя не была забяспечана аўтаматычнай абаронай. Сучасная кібернетыка прымяркоўвае аснашчэнне любой небяспечнай вытворчасці сістэмаю, якая павінна выключыць магчымасць катастрафічна памылковых рашэнняў. Ёсць менш істотныя, але ў сукупнасці вельмі сур’ёзныя хібы.

**У. Сінельнікаў**. *Але на лаўцы падсудных пасля чарнобыльскай катастрофы былі толькі эксплуатацыйнікі, работнікі станцыі, а ўсё, што вы сказалі…*

**А. Сахараў**. Гэта да іх увогуле не мае ніякага дачынення. Эксплуатацыйнікі, работнікі станцыі вінаватыя ў тым, што распрацавалі небяспечную праграму выпрабаванняў.

**А. Адамовіч**. Вось Лягасаў пісаў у «Правде», што канструктар станцыі ведаў пра недахопы, якія вы называлі, яны былі відавочнымі.

**У. Сінельнікаў**. *А вы, Андрэй Дзмітрыевіч, у сваім артыкуле ў «Московских новостях» называеце прозвішча акадэміка Аляксандрава.*

**А. Сахараў**. Так, на Аляксандраве, вядома, вялікая персанальная адказнасць за выбар гэтага напрамку. Перад ім стаяла такая дылема: або пачакаць, калі ў нас будзе пабудаваны «Атаммаш» і праз некалькі гадоў можна будзе рабіць больш сучасныя рэактары, або развіваць энергетыку на бяскорпусных графітавых рэактарах, больш грувасткіх, між іншым.

**А. Адамовіч**. Можна падумаць, што ў нас ужо не было ні нафты, ні газу і мы задыхаліся без рэсурсаў.

**А. Сахараў**. Ход думкі быў такі, што трэба пачынаць, інакш мы страцім тэмп, і калі нафты не будзе, мы апынёмся ля разбітага карыта.

**А. Адамовіч**. Але ж цяпер пераканаліся ўжо, што гэты тып станцыі і вадзяныя таксама — учарашні, можа, пазаўчарашні дзень атамнай энергетыкі, што, мабыць, будуць створаны больш бяспечныя станцыі. Але працягваюць у эйфарыі ставіць і множыць тыя ж станцыі…

**А. Сахараў**. Але новыя звыш чатырнаццаці, наколькі я разумею, не будуюць.

**А. Адамовіч**. А вадзяныя будуюць.

**А. Сахараў**. Вадзяныя будуць будаваць да 2000 года, і спыніць гэта страшна цяжка. Для гэтага трэба валявое рашэнне на самым верхнім узроўні. Я лічу, што неабходна спыніць будаўніцтва наземных рэактараў, хаця гэта будзе азначаць страту тэмпу нашай атамнай энергетыкі на пяць, магчыма, некалькі больш гадоў…

**А. Адамовіч**. Японцы не баяцца страціць тэмп. Яны чакаюць навейшую тэхналогію. Мы ж таксама можам праз пяць гадоў узяць навейшую замест вось гэтай старой…

**А. Сахараў**. Японцы не баяцца, а мы баімся. На самай справе мы павінны ўвогуле адмяніць пяцігадовы план па атамнай энергетыцы, бо і наступны пяцігадовы план не ўлічвае змен эканамічнай структуры дзяржавы.

**А. Адамовіч**. Ён супрацьперабудовачны.

**А. Сахараў**. Так, ён супрацьперабудовачны. Пяцігадовы план па атамнай энергетыцы ўсё роўна трэба выкінуць у кошык для смецця. Праўда, гэта ўдар па ўсіх тых, хто сябе звязаў працай у атамным энергабудаўніцтве. Створаны зароб на будучыню, а гэта шматмільярдныя затраты.

**А. Адамовіч**. Значыць, гінь уся краіна, але. праекты каб ажыццяўляліся і зарплата ішла.

**А. Сахараў**. Аналагічны малюнак мы бачым у вельмі вялікай колькасці нашых пачынанняў. Цяпер спадцішка будуюць усё-ткі Волга-Дон-2 і Волга-Чаграй і такім чынам робяць неабходным паварот рэк, які сапраўды надзвычай небяспечны экалагічна. Гэта ідзе па

такой страшнай ведамаснай інерцыі, за якой стаяць, вядома, канкрэтныя інтарэсы параўнальна невялікай колькасці людзей, затое вельмі ўплывовых. Гэта страшна.

У атамнай энергетыцы дзейнічаюць тыя ж механізмы. Тым не менш дабіцца адмены наземнага будаўніцтва рэактараў неабходна. Я думаю, што гэта задача вельмі цяжкая ў сэнсе псіхалагічнага павароту мыслення.

**У. Сінельнікаў**. *Вярнуся да Чарнобыля. Улічваючы маштаб злачынства, ці лічыце вы справядлівым, што не панеслі пакарання людзі, якія куды больш вінаватыя, чым пакараныя? Бо калі ўсё застанецца як ёсць, то лёгка ўмацавацца ў думцы, што нічога не трэба змяняць.*

**А. Сахараў**. Я думаю, што праблема пакарання — гэта праблема складаная. Заўсёды ў гэтым ёсць і адмоўны бок. Але праблема адказнасці і праблема віны, несумненна, павінна быць.

**А. Адамовіч**. Ну, вось у Лягасава, я думаю, гэтае пачуццё было.

**А. Сахараў**. Не ведаю, якую ён асабіста іграў ролю ва ўсёй перадгісторыі...

**А. Адамовіч**. Ну, ва ўсякім выпадку, яны з Аляксандравым уплывалі на палітыку «аэсізацыі краіны», і ў ім пачуццё віны жыло вельмі моцна. Яно глушылася, але чалавек, які скончыў з сабою... З другой спробы... Я з ім размаўляў. Ён мне графік назваў выбухаў станцый, вось кажа: гэтая ўзарвецца, гэтая. Я пытаю: гэта разумеюць другія вучоныя? Ён адказвае: думаю, што так. Чаму маўчаць? Ён кажа: кланавы інтарэс. Вельмі магутны інтарэс.

**У. Сінельнікаў**. *Сёння грамадская думка прад'яўляе надзвычай вялікі рахунак навуцы і вучоным як людзям, пры садзейнічанні якіх навукова-тэхнічны прагрэс паварочваецца небяспекай. Наколькі гэта справядліва, як вы лічыце?*

**А. Сахараў**. Вучоным усё-ткі ў большай меры, чым ведамасным кланам, уласцівае пачуццё адказнасці. Але не забывайце, мы толькі пачынаем разумець усё, што адбываецца на Зямлі, у комплексе. Тут вельмі цяжка вылучыць галоўнае звяно і знайсці правільную стратэгію. Цяпер да гэтых праблем прыцягнута ўвага ва ўсім свеце, але спыніць прагрэс немагчыма.

Ці можна спыніць пошук лекаў, пошук у вобласці біятэхналогіі, у вобласці геннай інжынерыі? Нельга. Без геннай інжынерыі мы рызыкуем апынуцца безабароннымі перад СНІДам і перад іншай небяспекаю ў блізкай будучыні.

**А. Адамовіч**. А калі выказаць такую думку, я яе акадэміку Веліхаву выказваў: калі сёння «забараніць» атамную энергетыку, геній вучоных пойдзе па шляху пошукаў альтэрнатыўных спосабаў атрымання энергіі?

**У. Сінельнікаў**. *А сонечная энергія?*

**А. Сахараў**. Цяпер укладваюцца сродкі ў сонечную энергетыку, але, мабыць, недастатковыя. І гэта не азначае яшчэ магчымасці абысціся без ядзернай энергіі. Рэальны прагноз на блізкія дзесяцігоддзі паказвае, што яна ўсё-ткі патрэбная.

**А. Адамовіч**. Мы ігнаруем адну відавочную рэч. Вось Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, калі збіраў энергетыкаў-атамшчыкаў, папярэдзіў: яшчэ адна станцыя ўзарвецца, ні нам, ні вам рабіць не будзе чаго ў гэтай краіне.

Яшчэ адзін Чарнобыль, і наша краіна проста пераломіцца напалам. Ніякі гераізм больш не выратуе. Будзе ярасць народная. Проста пачнуць вучоных адлоўліваць, як у сярэднія вякі ўрачоў адлоўлівалі і тапілі. Усё будзе, усё магчыма.

**А. Сахараў**. Я згодны, што другі Чарнобыль, нават не вельмі вялікая аварыя, больш лакальная, скажам, усё роўна будзе мець зусім неапісальныя чалавечыя вынікі.

**А. Адамовіч**. І вось тады пачнём закрываць гэтыя станцыі, прыхапкам.

**А. Сахараў**. Тады ўжо будзе не да станцый, я згодны ў гэтым з Гарбачовым. А што адказалі Гарбачову?

**А. Адамовіч**. Добра магу сабе ўявіць, як яны апусцілі вочкі і сказалі: далібог, больш не ўзарвецца!

**А. Сахараў**. Гаворка ішла аб закрыцці чатырнаццаці станцый?

**А. Адамовіч**. Кажуць, так. Больш таго, ішла размова аб стварэнні незалежнага інстытута кантролю. Але для такога інстытута ў нас не знаходзяцца кадры, гэта значыць, спецыялісты з альтэрнатыўнымі поглядамі.

**А. Сахараў**. Яшчэ раз магу зусім аўтарытэтна сказаць наступнае. Ёсць адно кардынальнае рашэнне: падземнае размяшчэнне ядзерных станцый... У нас ёсць толькі дзве магчымасці: або ніякай, або падземная ядзерная энергетыка.

**У. Сінельнікаў**. *Скажыце, а практыка такога будаўніцтва ў свеце ўжо ёсць?*

**А. Сахараў**. Ёсць, але ў невялікім маштабе. У Швецыі, у Францыі. Я лічу, што павінен быць міжнародны закон, які забараняе наземнае будаўніцтва ядзерных рэактараў. Міжнародны закон павінен гарантаваць нас ад гэтай небяспекі і адначасова супакойваць сусветную грамадскую думку. Калі людзі знаходзяцца ў паніцы, гэта проста жах. Усё-ткі значная

частка ўсіх тых сімптомаў, на якія людзі скардзяцца,— псіхагенная.

**А. Адамовіч**. Разумееце, вось тое, што на Беларусі людзі не баяцца, выгадна ведамствам і згубна для людзей. Яны сядзяць у сваіх заражаных вёсках. Праклалі асфальт да школы, дзеці едуць туды па асфальту, і мяркуецца, што яны не выходзяць у сад, у лес, у агарод. А паколькі ўсе гавораць: пакідаць мясціны гэтыя шкада — радзіма — і небяспека невялікая, людзі жывуць. А трэба б напужаць, бо яны набіраюць рэнтгены... А дзеці? Вы ўяўляеце, дзеці, якім варожыя дождж, трава, варожы яблык, ігруша ва ўласным садзе. Уяўляеце, хто гэта вырастае нават калі не біялагічна, то псіхалагічна? У нас толькі на Магілёўшчыне больш за трыццаць сем такіх заражаных населеных пунктаў. Але паколькі радыеактыўнасць выяўлена потым, пасёлкі не ўвайшлі ў сферу ўрадавых клопатаў[1]. Гэтыя раёны як бы не існуюць. А ў народзе ходзіць упарта чутка, што радыеактыўнае воблака пасадзілі на Магілёўшчыне, на Браншчыне. Ратавалі Маскву. Быў такі факт?

**А. Сахараў**. Я думаю, што гэта абсалютны факт. Пасля выкіду, па-мойму, 5 мая, узнікла радыеактыўнае воблака, якое пайшло на Маскву, і была прыменена авіяцыя, якая выкінула адпаведныя хімікаты. Ці было гэта мэтанакіраванае дзеянне, ці асаджэнне воблака ка Беларусі — выпадковасць?.. У час амерыканскай катастрофы 1979 года многія газеты бесперапынна друкавалі радыяцыйныя карты, хаця лічбы радыяцыі былі вельмі сціплыя. У нас жа я не бачыў ніводнай карты, апублікаванай у друку.

**А. Адамовіч**. У нас медыкі на Беларусі ўзнялі гэтую праблему, сказалі: дайце нам радыяцыйныя карты, каб мы маглі граматна працаваць у гэтай мясцовасці. Ніякіх карт яны пакуль не атрымалі, бо ўсё робіцца, каб утаіць бяду...

**А. Сахараў**. Я лічу, што абсалютна неабходна мець радыяцыйныя карты. Яны павінны быць даступнымі медыкам, каб дакладна кантраляваць усю радыяцыйную абстаноўку. Гэта нават абмеркаванню не падлягае[2]. Апроч таго, усе людзі, якія маюць дачыненне да радыеактыўнасці ці занятыя ліквідацыяй вынікаў аварыі, павінны мець індывідуальныя дазіметры. Усе людзі павінны дакладна ведаць, што ім пагражае.

[1] Праз амаль тры гады пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС пад моцным уздзеяннем грамадскасці прынята рашэнне аб высяленні людзей з паражоных раёнаў Беларусі. Зноў падкрэслім — праз год пасля апублікаванай гутаркі. — Заўвага рэд.

[2] І гэтае патрабаванне грамадскасці было задаволена зусім нядаўна. — Заўвага рэд.

**А. Адамовіч**. А як вы паглядзіце на такую практыку: у раёнах, дзе пасадзілі воблака, выpабляюць сельскагаспадарчую прадукцыю. Алё адначасова завозяць туды чыстыя прадукты. Малако тутэйшае нельга піць, гародніну і мяса нельга есці, іх адпраўляюць у Магілёў, а што далей робяць — вялікая загадка. Сцвярджаюць, што ўсё гэта ідзе для «няшкодных дабавак» у прадукты. Аграпрам настойваў на вытворчасці прадуктаў у гэтых раёнах, хаця наша рэспубліка шмат разоў прасіла выключыць іх з планавання.

**А. Сахараў**. Але насельніцтва трэба папярэдзіць... Людзі павінны мець права самі вырашаць свае праблемы з раскрытымі вачамі.

**А. Адамовіч**. Ёсць яшчэ адна праблема, ужо навейшая, пра якую вы, мабыць, таксама ведаеце. Мне пазваніў адзін чалавек (жыхар Бранскай вобласці). Іх 120, хто схапіў радыяцыю (большасць ратавалі нас у Чарнобылі), і лечацца ў маскоўскай шостай бальніцы. Атрымаць спецпенсію ім не ўдаецца. А калі заяўляюць аб сваіх правах, іх называюць сімулянтамі. Яны пісалі і Чазаву, і ў «Литературную газету», але пакуль безвынікова.

А. Сахараў. Хлусня і ўмаўчанне жахлівыя, яны заўсёды прыводзяць толькі да большая шкоды.

Я шмат займаўся праблемай радыяцыі ў перыяд выпрабаванняў. У 53-ім годзе выпрабаванні праводзілі наземна, уздымаўся радыеактыўны пыл. Мы патрабавалі эвакуацыі насельніцтва з падветранай зоны. Начальства вельмі баялася пагалоскі, але пайшло нам насустрач. Гэта было ў раёне Сяміпалацінска. След накрыў некалькі населеных пунктаў, але калі адтуль ужо было эвакуіравана насельніцтва. Усё-ткі да, а не пасля.

**А. Адамовіч**. Пракляцце хлусні вісіць над атамнай энергетыкай. Праўду кажы — не паверацъ!.. Андрэй Дзмітрыевіч, а я раптам успомніў, што вы бацька нашай вадароднай бомбы. Як вы гэта самі ўнутрана перажываеце?

**А. Сахараў**. Я, праўда, быў не адзіным бацькам. Гэта калектыўная справа, але ад гэтага не менш страшная. Тады мы былі перакананыя, што стварэнне спачатку атамнай бомбы (я ў гэтым удзел не прымаў), затым тэрмаядзернай — неабходнае для ўстанаўлення сусветнае раўнавагі, для таго, каб наша краіна магла спакойна і мірна развівацца, не знаходзячыся пад прэсам гнятучае перавагі другога боку. Я і дасюль не магу гэтага выключыць. Мы — я ўключаю сюды і амерыканцаў — стваралі зброю, якая дала чалавецтву мірную перадышку. Яна яшчэ

працягваецца. Але я перакананы, што гэтая перадышка не бясконцая. Калі будзе доўжыцца ядзернае супрацьстаянне на такім жахлівым узроўні, які дасягнуты цяпер, то ніякае «слова гонару» не дапаможа. Ваенныя ўжо не могуць абысціся без ядзернай зброі. Напрыклад, як знішчыць падводныя лодкі праціўніка з 16 ці з 24 ядзернымі ракетамі? Адзіны рэальны спосаб — прымяніць супраць іх ядзерную зброю. Спакуса ёсць, і вялікая.

**А. Адамовіч**. А вось у нас, гуманітарыяў, ёсць ілюзія, што ў фізікаў павінен быць «комплекс Апенгеймера», сіндром віны. Гэта так ці не?

**А. Сахараў**. Гэта ілюзія. Мы сябе супакойваем тым, што мы адсоўваем магчымасць вайны.

**У. Сінельнікаў**. *А экстрэмісцкая безадказнасць малых краін?*

**А. Сахараў**. Яны пакуль што ўсё-ткі не маюць ядзернай зброі. Наўрад ці будуць мець у агледны тэрмін. Ва ўсякім выпадку, такую, як вялікія дзяржавы, і хаця гэта антыдэмакратычнае рашэнне — аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, — але, мабыць, было зусім неабходным.

**У. Сінельнікаў**. *Здаецца, мы ўсутыч падышлі да праблем маралі. Андрэй Дзмітрыевіч, як вы адносіцеся да таго, што царква сёння атрымала большыя правы ў жыцці грамадства?*

**А. Сахараў**. Я вельмі далёкі ад царкоўных спраў, але чыста разумова я лічу, што гэта добра. Не зусім разумеючы псіхалогію людзей, блізкіх да царквы, думаю, ёсць у яе велізарны духоўны патэнцыял. Царква, вядома, павінна быць не адзінаю, паміж рознымі царкоўнымі напрамкамі не павінна быць антаганізму... Я б лепш сказаў, ўсё-ткі не царква, а рэлігія. Яна мае вялікую духоўную сілу.

**У. Сінельнікаў**. *Не супрацьпастаўленую розуму, навуцы?..*

**А. Сахараў**. Не, у наш час не супрацьпастаўленую. Супрацьстаянне рэлігіі і навукі — гэта пройдзены этап. Аднак павінен быць пройдзены нейкі этап у развіцці рэлігіі, і наогул у духоўным жыцці чалавека, каб усё гэта было канчаткова зразумета. Як? Я ад гэтага далёкі. Я выхаваны іншай эпохай і іншым светапоглядам...

**У. Сінельнікаў**. *Вы матэрыяліст ці дуаліст? Ці пантэіст?*

**А. Сахараў**. Я думаю, што ёсць нейкі ўнутраны сэнс у існаванні Сусвету... Я... не ведаю... пантэіст, мабыць... ці не. Гэта нешта іншае. Але ўнутраны сэнс, нематэрыяльны, у Сусвету павінен быць. Без гэтага сумна жыць.

**А. Адамовіч**. А вось калі сабраць вашыя погляды, Эйнштэйна, іншых на гэтую праблему і стварыць рэлігію вучоных»,

**А. Сахараў**. Я думаю, што ў кожнага свая канцэпцыя. І эйнштэйнаўская канцэпцыя нікому не ясная да канца, ён не вельмі шмат на гэтую тэму гаварыў.

**А. Адамовіч**. Як ён сказаў? Гасподзь Бог вынаходлівы, але не каварны...

**А. Сахараў**. Гэта не мела адносін да рэлігіі, хутчэй — да філасофіі. У даным выказванні Гасподзь Бог проста сінонім прыроды. Думаю, што не трэба месца чалавека тлумачыць антропацэнтрычна. Можа ці не можа ён стаяць у цэнтры Сусвету — чалавек сам павінен даказаць у далейшым. А пакуль у адносінах да прыроды паводзіць сябе вельмі дрэнна.

**У. Сінельнікаў**. *Вось пра што я хачу вас спытаць. Выплеск апакаліпсічных настрояў сёння, чуткі пра тэрміны, якія нам пастаўлены ў Біблії, існуюць. Усё часцей гучаць галасы, што наша цывілізацыя канечная, як усё ў гэтым свеце. Як навука павінна аднесціся да гэтых сцверджанняў?*

**А. Сахараў**. Ну, тут два бакі пытання. Спачатку пра адказнасць навукі. Я лічу, што глыбіня глабальных праблем, што стаяць перад чалавецтвам, — экалагічнай небяспекі, тэрмаядзернай вайны і іншых — не проста створана навукай ці прагрэсам (лепш гаварыць прагрэс, бо навука — гэта нешта больш вузкае). Яна створана перш за ўсё грамадскім, палітычным і сацыяльным развіццём свету, яго структурай, якая склалася.

У свеце, падзеленым на дзве сістэмы, існуе, можна сказаць, глабальная канкурэнцыя, у якой ёсць фактар узаемнага недаверу, ёсць жаданне не адстаць ад саперніка, больш таго, абагнаць яго.Так званым «рэальным палітыкам» (я гавару ў двукоссях і з іроніяй) поруч з гэтым жаданнем экалагічныя праблемы здаюцца нейкай рамантычнай марай. Мне думаецца, што галоўная небяспека для чалавецтва — падзел яго на дзве сістэмы. Менавіта з-за гэтага яно, чалавецтва, можа загінуць ці ў агні тэрмаядзернай вайны, ці экалагічна.

**А. Адамовіч**. А можа быць, праблема не ў падзеле на дзве сістэмы, а ў адносінах да другой сістэмы як да абавязковага ворага, які павінен знікнуць з твару зямлі...

**А. Сахараў**. Пакуль дзве сістэмы існуюць і развіваюцца на паралельных пачатках, цяпер нават мірна развіваюцца. Але ўсё роўна абедзве трымаюць камень за пазухай. Жаданне не адстаць і абагнаць захоўваецца...

**А. Адамовіч**. Але, магчыма, гэта таму, што кожная хоча замяніць сабою другую?

**А. Сахараў**. Не толькі таму! Не!

**А. Адамовіч**. А калі адчуваць у другой сістэме партнёра, які дапамагае мне быць лепшым?..

**А. Сахараў**. Калі ствараецца такая ідэальная сітуацыя, то ўжо няма падзелу на дзве сістэмы. Гэта магчыма толькі пры наймацнейшым збліжэнні. На шчасце, у нейкай меры, я лічу, такое збліжэнне рэальна адбываецца. З аднаго боку, наша адміністрацыйна-гаспадарчая сістэма, назавём яе сталінскай сістэмаю, паказала сваю неэфектыўнасць ва ўмовах навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і інтэнсіўнага гаспадарання. З другога боку, капіталістычная сістэма ўводзіць вельмі шмат сацыялістычных элементаў: удзел працоўных у размеркаванні прыбылі і ў кіраўніцтве вытворчасцю. Можна назваць яшчэ і з'яўленне дзяржаўнага сектара ў народнай гаспадарцы, вельмі магутную сістэму сацыяльнай абароны.

**А. Адамовіч**. Значыць, мы патрэбныя адзін аднаму?

**А. Сахараў**. Так, мы патрэбныя адзін аднаму. Аднак сацыяльная сістэма перадавых капіталістычных краін куды больш дасканалая, чым наша. Мы толькі набліжаемся да такой сацыяльнай структуры абароны інтарэсаў дзяцей, старых, нацменшасцей, тых, хто жыве ў галечы... У абедзвюх сістэмах назіраюцца элементы руху. З нашага боку — тое, што называецца перабудоваю. Перабудова — рух да плюралізму, у адваротным выпадку ніякая гэта не перабудова, адныя толькі словы. А плюралізм — гэта канвергенцыя, збліжэнне, рэальны працэс, які ўжо адбываецца, які неабходны.

**У. Сінельнікаў**. *Слова «канвергенцыя» каштавала вам некалькіх гадоў жыцця ў Горкім...*

**А. Сахараў**. Так, гэтае слова каштавала мне даволі дорага.

**А. Адамовіч**. Еўтушэнка напісаў у «Советской культуре», што слова «канвергенцыя» у нас баяцца больш, чым ядзернай бомбы. Але тут можна і паспрачацца з вамі. Дапусцім, учора думалі, што нацыянальныя асаблівасці будуць сцірацца, знікаць, а цяпер ва ўсім свеце яны, наадварот, падкрэсліваюцца. І значыцца, праблема не ў тым, каб іх сцерці, а каб навучыцца ўспрымаць па-сяброўску чужую асаблівасць. Гэтак жа, мабыць, і з сацыяльнымі праблемамі. Зусім не абавязковае збліжэнне, але неабходныя адносіны да другой сістэмы, як да натуральнага адрознення ад цябе самога.

**А. Сахараў**. Ёсць вялікая розніца паміж суіснаваннем і нацыянальнымі сістэмамі. Мірнае нацыянальнае суіснаванне, безумоўна,

непазбежнае. А збліжэння сацыяльных сістэм неабходна дабівацца, бо гэта прынцыповая задача пабудовы грамадства, якой не проста адшукаць адзіна правільнае рашэнне. Яно магчымае толькі на шляхах сустрэчнага руху, узаемнага абмену вопытам — тут і трэба збліжацца.

**А. Адамовіч**. Але ж абавязкова з'явіцца месіянства, жаданне сваё навязаць другому.

**А. Сахараў**. Павінен быць сустрэчны рух, а месіянства — гэта заўсёды экстрэмізм.

**У. Сінельнікаў**. *Ці рызыкнулі б вы дапусціць фатальную нашу асуджанасць, як гэта робіць рэлігія?*

**А. Сахараў**. Ёсць агульная і несумненная мяжа існавання цывілізацыі на Зямлі — існаванне сонечнай сістэмы. Гэта дзесяць — дванаццаць мільярдаў гадоў, Зямля ўжо праіснавала больш за трэць адпушчанага ёй часу.

**А. Адамовіч**. Ну, Цыялкоўскі абяцаў, што мы ператворымся ў прамянёвую энергію і рассеемся па Сусвету.

**А. Сахараў**. Я думаю, што гэта не так. Чалавецтва ўсё-ткі павінна жыць на Зямлі, жыць доўга, не загубіць сябе ў бліжэйшыя некалькі стагоддзяў, ці некалькі дзесяцігоддзяў, ці некалькі гадоў. Вядома, у аддаленай перспектыве яно будзе каланізаваць іншыя светы, што не азначае спынення жыцця на Зямлі. І ўсё ж дазвольце за некалькі мільярдаў гадоў наперад не зазіраць, няма аніякіх даных для ўяўлення аб тым, што там будзе. А ўся наша цывілізацыя ў параўнанні з гэтым тэрмінам — імгненне.

**А. Адамовіч**. Што зусім дакладна: словы «капіталізм» і «сацыялізм» праз мільярды гадоў ніхто ведаць не будзе…

**А. Сахараў**. Я не ведаю, ці будуць словы наогул. Магчыма, спосаб зносін і мыслення будзе іншы, але гэта нас зусім не павінна хваляваць. На тысячагоддзе наперад планаваць жыццё чалавецтва, мабыць, можна, але мы павінны выйсці на нейкі стацыянарны рэжым, сумясцімы з экалагічнай бяспекай. Гэта здарыцца, як я думаю, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ці стагоддзяў, і ў стацыянарным рэжыме чалавецтва будзе захоўвацца, жыць на ўзнаўляльных рэсурсах, не парушаючы навакольнае асяроддзе, — вось ідэальная схема, якая магчыма толькі з выкарыстаннем дасягненняў навукі, будучай навукі. Ужо сёння ў нас даволі шырокі дыяпазон магчымасцей. Калі вярнуцца да ядзернай энергіі, з якой мы пачалі, то яна належыць менавіта гэтаму дыяпазону. На шляхах беднасці мы не прыйдзем да шчасця. Да яго можна перайсці толькі паспяхова развіваючыся, маючы высокі ўзровень жыцця, маючы

магчымасць не непакоіцца за сябе і за сваіх блізкіх.

**А. Адамовіч**. Але ж мы згадзіліся: яшчэ адзін незапланаваны «мірны» выбух, і канец краіне.

**А. Сахараў**. Выбухаў быць не павінна. Гэта трэба выключыць не з вераемнасцю слова гонару. Не будаваць наземныя станцыі, катэгарычна не будаваць. А мы ўвесь час вяртаемся да новых экалагічна шкодных праектаў, і кожны праект мае сваіх абаронцаў. Нельга гэтым абаронцам даручаць экспертызу на бяспеку, гэта нават псіхалагічна неадольны для іх бар'ер.

**А. Адамовіч**. Вы лічыце, што экалагічная небяспека становіцца сёння ледзьве не нумарам першым?

**А. Сахараў**. Я думаю, нумараваць небяспекі — не так ужо абавязкова. Мы можам без гэтага абысціся, калі прымем цвёрдае рашэнне, што не выпускаем з поля зроку ні тую, ні другую — ні ваенную, ні экалагічную. Вось такое рашэнне прыняць неабходна. Вось, напрыклад, ёсць праблема бразільскіх лясоў. Мая жонка гаварыла на Пагуошскай канферэнцыі, што трэба плаціць бразільцам за кісларод. Яны даюць усяму свету кісларод. Калі мы можам плаціць сялянам у Турцыі, каб яны не разводзілі мак, то тым больш можна плаціць бразільцам, каб яны не секлі свае лясы. Гэтае рашэнне можа быць прынятае міжнароднай арганізацыяй — устанавіць пэўны працэнт нацыянальнага даходу, маленькі працэнт, скажам, адна дзесятая працэнта, на самай справе гэта будуць каласальныя грошы. Я не ведаю, які сумарны нацыянальны даход на Зямлі, але ён трыльёнамі вылічваецца... Інакш бразільцы праз 50 гадоў пазбавяць нас ад «лёгкіх», ну проста дыхаць не будзе чым...

**У. Сінельнікаў**. *А азонная дзірка?*

**А. Сахараў**. Праблема азоннай дзіркі вельмі няясная ў навуковым сэнсе. Мы не ведаем, што з'яўляецца яе прычынаю, магчыма, гэта выява нейкіх перыядычных касмічных працэсаў, якія Зямля ўжо шмат разоў перажывала і выходзіла з іх без вялікіх страт.

**А. Адамовіч**. Японцы ўжо аднесліся да гэтага практычна, яны закрываюць фрэонавую вытворчасць...

**А. Сахараў**. Ёсць міжнароднае рашэнне па гэтаму пытанню, яно вельмі цікава складзена — развітыя краіны спыняюць вытворчасць, слабаразвітым краінам яна дазваляецца. Савецкі Саюз да слабаразвітых краін аднесены...

**А. Адамовіч**. А мы і абрадаваліся? А была ідэя ў амерыканцаў — надзімаць шары азонам і запускаць, гэта значыць, латаць дзіркі ў

атмасферы. Уздымаць іх туды і азон выпускаць.

**А. Сахараў**. У мяне ёсць больш шалёная ідэя: каласальная колькасць азону ўтвараецца пры высотных ядзерных выбухах.

**А. Адамовіч**. Утвараецца азон?

**А. Сахараў**. Але. Так цудоўна пахне пасля выбуху.

**А. Адамовіч**. Ды ці той гэта азон?

**А. Сахараў**. Азона двух сартоў не бывае. Гэта як асетрына другой свежасці.

**У. Сінельнікаў**. *Вы, калі ласка, не выказвайце гэтую ідэю.*

**А. Сахараў**. Так, я баюся яе выказваць. Але калі дойдзе да катастрафічнага становішча…

**А. Адамовіч**. А вось была калісьці ідэя аднаго дыпламата: калі раззбраення не атрымліваецца, давайце пад Антарктыдай узарвём вадародную бомбу, збярэм усіх палітыкаў, карэспандэнтаў, няхай паглядзяць у натуры, што гэта такое. Магчыма, і напалохаем.

А. Сахараў. Адзін з маіх сяброў выказваў іншую ідэю. Пабудаваць горад, людзьмі яго не засяляць, змясціць там жывёл…

**А. Адамовіч**. Зноў жывёлы павінны аддувацца?

**А. Сахараў**. Так… Зрабіць там камунікацыі, газ, правесці электраэнергію, увогуле, рэальны горад, потым узарваць вялікую тэрмаядзерную бомбу і паказаць людзям. Гэта будзе рэальная дэманстрацыя.

Я павінен сказаць, што, калі ў свой час я быў на выпрабаваннях, было збудавана сем ці восем вялікіх будынкаў, і калі я ішоў міма іх, зруйнаваных, гэта было вельмі моцнае ўражанне.

**У. Сінельнікаў**. *А ў вас ёсць асабістая доза апраменьвання?*

**А. Сахараў**. Магчыма, і ёсць. Я зрабіў вялікае глупства пасля выпрабавання 12 мая 1953 года — з машыны выйшаў на поле. Я не ведаю, якая там была доза, гэта было хвіліны дзве-тры, а затым мы паехалі досыць хутка, я не ведаю сваёй дозы.

**У. Сінельнікаў**. *Хачу вам задаць, Андрэй Дзмітрыевіч, асабістае пытанне. Скажыце, хто вам дапамагаў выстаяць у самы цяжкі для вас час? Хто вас падтрымлівае?*

**А. Сахараў**. Перш за ўсё мая жонка. Увесь горкаўскі і перадгоркаўскі перыяд мая жонка была, уласна, галоўным аб'ектам атакі. Гэта выявілася ў серыі паклёпніцкіх артыкулаў, якія з'явіліся спачатку за мяжой, а потым тут. Вельмі адчувалася, што пэўныя органы хочуць мяне паказаць гэтакім нявінным ягняткам, а яе галоўнай віноўніцай, згодна з біблейскай легендай. Але ж я спакусіўся раней, чым яе ўбачыў, яшчэ калі была жывая мая першая

жонка. Менавіта тады я ўжо грашыць пачаў — выступаў супраць ядзерных выпрабаванняў у 50-60-ыя гады. Гэта драматычная частка маёй біяграфіі. Потым я выступіў з артыкулам аб ядзернай небяспецы, канвергенцыі і аб інтэлектуальнай свабодзе. Гэта было таксама даўно, дваццаць гадоў назад. Дык вось у Горкім мяне падтрымлівала мая жонка, але адначасова я разумеў, што на яе падае галоўны ўдар, і была ўвесь час спроба супрацьпастаўлення нас абодвух, вельмі цяжкая псіхалагічна.

Я адчуваў падтрымку з боку грамадскай думкі і ў нашай краіне, і за мяжою. Яна дапамагала выжыць, дапамагала канкрэтным справам. Удалося дабіцца выезду за мяжу нашай нявесткі да сына Алены Георгіеўны, якога я таксама лічу сваім сынам, удалося дабіцца выезду за мяжу маёй жонкі, пасля ўжо яе інфарктаў, калі яна не мела магчымасці тут лячыцца. На Захадзе ёй зрабілі аперацыю на сэрцы, і, апроч таго, яна ўбачыла сваіх дзяцей і маці.

**У. Сінельнікаў**. *А што было ў вашай маскоўскай кватэры, калі вас тут не было?*

**А. Сахараў**. Нешта жахлівае. Кватэра была на замку, каля дзвярэй стаялі міліцыянеры, нікога не пускалі ўнутр. Жонка тут ляжала з інфарктам, але да яе ўсё роўна нікога не пускалі. Менавіта тады ўстанавілі міліцэйскі пост, калі ў яе здарыўся інфаркт, мабыць, хацелі аблегчыць ёй пераход у лепшы свет. Але калі яе пасля таго, як яна змагла ўстаць з ложка, затрымалі ў Горкім, а потым судзілі і асудзілі да высылкі, то яна ўжо ў Маскву не магла вярнуцца. А кватэра працягвала заставацца пад наглядам. Тут вылоўлівалі выпадковых людзей, якія да яе падыходзілі, кватэра была як бы ліпкаю паперай для даверлівых. У адным з пакояў расчынілася акно, і тады лопнулі батарэі, трэснула столь, абрушыліся на рэчы і кнігі кавалкі тынкоўкі, усё адсырэла і было асуджана на пагібель.

**У. Сінельнікаў**. *Я чуў, што вам у Горкі званіў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў*.

**А. Сахараў**. Так. Позна вечарам мы сядзелі з жонкай каля тэлевізара. Прыйшлі тры чалавекі, адзін з КДБ і два манцёры. Іх узнялі з пасцелі.

**У. Сінельнікаў**. *А ў вас не было тэлефона?*

**А. Сахараў**. Не, сем гадоў не было.

**А. Адамовіч**. Вельмі спакойным было жыццё?

**А. Сахараў**. Так. Вельмі спакойнае жыццё. Мы былі цалкам ізаляваныя ад якіх-небудзь кантактаў, на вуліцы таксама нікога да нас не падпускалі. Быў такі эпізод: жонка ехала на машыне, і мужчына з хворым дзіцем на руках прасіў падвезці іх у бальніцу, дзіцё плакала.

Яна спынілася, але бацьку і дзіця выцягнулі з машыны.

У калідоры ў нас сядзеў міліцыянер, а вакол яго клуб з жыхароў збіраўся. Таму што сумна, натуральна. Там з раніцы да вечара ў іх стаяў шум, часам і выпіўкі бывалі.

**А. Адамовіч**. А вас запрашалі?

**А. Сахараў**. Не, нас не запрашалі. Міліцыянеры з намі не мелі зносін, калі мы з імі віталіся, не адказвалі. Раніцою жонка выходзіла па газету, міліцыянер сядзеў спінаю да дзвярэй, ён браў газету са століка і праз плячо ёй падаваў. Моўчкі. Гэтая сцэна паўтаралася штораніцы.

Дык вось. Ідучы, гэты прадстаўнік КДБ сказаў: вам заўтра пазвоняць. Ну, мы сядзелі, чакалі, ён сказаў: раніцою, гадзін у дзесяць. Але ў дзесяць ніхто не пазваніў. А ў тры гадзіны пачуўся званок, я ўжо сабраўся па хлеб. Гэта званіў Гарбачоў. Размова з Гарбачовым была такою. Міхаіл Сяргеевіч сказаў: прынята рашэнне аб вашым вяртанні ў Маскву, таксама атрымае магчымасць вярнуцца Бонар. Я даволі рэзка гавару: гэта мая жонка (мне ў інтанацыі нешта не спадабалася). Так, так, перашкод не будзе, можаце вяртацца. Я гавару: вялікі вам дзякуй, я глыбока вам удзячны, я хацеў толькі вам сказаць, што некалькі дзён назад у Чыстапольскай турме, можна сказаць, забіты мой сябар, пісьменнік Анатоль Марчанка, ён быў першым у тым спісе палітычных вязняў, які я вам паслаў. Гарбачоў сказаў: так, мы атрымалі гэты спісак, разбіраліся, многія з іх вызвалены, становішча другіх палепшана, але там вельмі розныя людзі. Я гавару: я з вамі не згодны. Гэта людзі, якія асуджаны за свае перакананні, і ўсе яны павінны быць вызвалены. Гарбачоў сказаў: тут я з вамі не магу згадзіцца. Я сказаў: умольваю вас падумаць, гэта вельмі важна для вашага прэстыжу і для поспеху ўсіх вашых спраў, для вашага аўтарытэту. Вось на гэтым скончылася наша размова. А потым па даручэнню Гарбачова прыехаў Марчук. І яшчэ праз некалькі дзён мы выехалі ў Маскву, спачатку ўлегцы, а потым вярнуліся і за рэчамі.

На наступную раніцу пасля званка Гарбачова міліцыянеры сабралі ўсю сваю гаспадарку, электраплітку, тэрмасы, мы з імі вельмі прыязна развіталіся. Я спытаў: што ж вы цяпер будзеце рабіць? А яны кажуць: працягваць службу. Такі быў канец.

**У. Сінельнікаў**. *Андрэй Дзмітрыевіч, што вы можаце сказаць пра людзей, якія пацярпелі за палітычныя перакананні?*

**А. Сахараў**. Сітуацыя вельмі памякчэла ў выніку масавага вызвалення 1987 года. Праўда, гэтае вызваленне было ўтворана

сарамлівым спосабам. З людзей патрабавалі прашэнне аб памілаванні.

Ясна, што трэба ўсіх гэтых людзей вызваліць і менавіта рэабілітаваць, а не вымагаць у іх прашэнне аб памілаванні. Гэта зусім неправамерна і несправядліва. За гэтым стаіць толькі гонар мундзіра.

Я з насцярогаю адношуся да таго, што адбываецца зараз, таму што бачу: увесь час узнікае нешта накшталт закулісных, часовых пагадненняў перабудовачнікаў з антыперабудовачнікамі. Магчыма, у перабудовачнікаў няма іншых шляхоў, як ісці на нейкі кампраміс, тады будзем спадзявацца, што яны змогуць на гэтым звілістым шляху дайсці да мэты. Але нам назіраць за гэтым страшнавата.

**У. Сінельнікаў**. *А як быў абстаўлены ваш ад'езд з Масквы ў Горкі?*

**А. Сахараў**. Гэта выглядала такім чынам. 22 студзеня 1980 года, гэта быў аўторак, я сабраўся на семінар у ФІАН, выклікаў машыну з Акадэміі і паехаў. Калі мы даехалі да Краснахолмскага моста, раптам папярок дарогі ўстала машына ДАІ. Мой вадзіцель, вельмі здзіўлены, пайшоў насустрач міліцыянеру, той, я бачыў, яму казырнуў, а ў гэты час задняя дзверы адчыніліся, і ў машыну ўлезлі два чалавекі ў форме. Паказаўшы мне чырвоныя кніжачкі, яны сказалі, што яны з МУС. Калі вярнуўся вадзіцель, яны яму загадалі ехаць за машынай ДАІ. Пры гэтым мы заўважылі, што рух перакрыты з абодвух бакоў, і мы былі ў поўнай адзіноце на гэтым Краснахолмскім мосце.

Прыехалі ў пракуратуру, і там пракурор Рэкункоў аб'явіў мне, што я па пастанове Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР пазбаўлены ўсіх сваіх узнагарод. Ён вельмі хваляваўся. Я яго спытаў, чаму вы мяне даставілі такім дзіўным спосабам? Я заўсёды з'яўляўся на выклікі пракуратуры. Ён сказаў: з прычыны тэрміновасці пытання.

Ён даў мне азнаёміцца з тэкстам гэтае пастановы, я ўбачыў, што там няма подпісу Брэжнева і Геаргадзе, але ён мяне запэўніў, што гэта неістотна, што гэта чыста тэхнічны момант. Я напісаў, што я адмаўляюся вярнуць узнагароды, лічу гэта неабгрунтаваным. Ён сказаў, што кампетэнтныя органы прынялі рашэнне аб маёй высылцы ў горад Горкі (у далейшым мяне ўвесь час пераконвалі, што гэта пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, але гэтага дакумента я ніколі не бачыў). Я таксама не бачыў ніякага дакумента, па якому мяне вярнулі з Горкага ў Маскву.

**А. Адамовіч**. Можа, вы і не ездзілі, вас не высылалі ў Горкі?

**А. Сахараў**. Можа быць. У мяне абманам забралі пашпарт, на пашпарце быў штамп, што 70-ае аддзяленне міліцыі мяне выпісала з Масквы. Пашпарт я адмаўляўся браць працяглы час, потым давялося ўзяць з нейкае жыцейскае прычыны. І мяне прапісалі ў горадзе Горкім. Калі я прыехаў у Маскву, то ў 70-ым аддзяленні міліцыі запрасілі электронную машыну пашпартнага аддзела горада, і яна выдала адказ, што я ўвесь гэты час пражываў у горадзе Маскве. І ў пашпарце аказаўся штамп 70-га аддзялення міліцыі, які тут не ставілі.

**А. Адамовіч**. Містыка! Булгакаў!

**У. Сінельнікаў**. *Андрэй Дзмітрыевіч, вы сустракаліся ў свой час з Брэжневым, з Хрушчовым?*

**А. Сахараў**. З Брэжневым я некалькі разоў сустракаўся, размаўляў з ім па тэлефоне па пытаннях аб Байкале, другі раз паспрабаваў пазваніць — аб смяротным прысудзе ўгоншчыкам самалёта — ленінградская справа. Прысудзілі да смяротнай кары, але фактычна гэта не было актам паветранага пірацтва, яны збіраліся захапіць самалёт без пасажыраў, на зямлі, і нікога не забіваць. Гэта было нядобрае дзеянне, несумненна, але яно не заслугоўвала смяротнае кары, з майго пункту погляду.

Асабістых сустрэч з Мікітам Сяргеевічам было некалькі. Я бачыў яго яшчэ ў 50-ыя гады некалькі разоў, да 1955 ці да 1956 года я бываў на пасяджэннях Палітбюро ці Прэзідыума ЦК КПСС, не помню, як гэта тады называлася. Затым я яго бачыў на адной вялікай нарадзе ў 59-ым годзе. І найбольш цікавы кантакт быў у 61-ым годзе, калі я яму падаў запіску аб тым, што лічу немэтазгодным аднабаковы разрыў мараторыя па ядзерных выпрабаваннях. Ён мне адказаў прамоваю, вялікай прамоваю. Гэта ўжо было першае сутыкненне.

**А. Адамовіч**. Андрэй Дзмітрыевіч, вам не прыходзілі думкі аб тым, што не варта выносіць з лабараторыі «рэцэпт» бомбы? Не здаецца вам, што ўсе наступныя гады вам даводзілася змагацца з вынікамі свайго вынаходства?

**А. Сахараў**. Тады я лічыў, ды і цяпер лічу, што, перадаючы гэтую зброю Савецкаму ўраду, я садзейнічаў падтрыманню стратэгічнай ваеннай раўнавагі.

Наогул, я чалавек, які эвалюцыяніруе… але не настолькі…

**У. Сінельнікаў**. *Андрэй Дзмітрыевіч, вы для нас усіх на працягу многіх гадоў з'яўляецеся чалавекам, кожнае слова якога вельмі шмат значыла, калі яно да нас даходзіла,*

*зразумела. Як вам цяпер жывецца? Якія вашы адносіны да падзей?*

**А. Сахараў**. Настрой у мяне насцярожаны. Я вельмі занепакоены тым, як па-рознаму развіваюцца падзеі ў нашай краіне.

Трэба стварыць палітычныя ўмовы, каб людзі адчулі ўпэўненасць, рэальную ўпэўненасць у незваротнасці перабудовы. Каб яны, да прыкладу, разумелі: калі пачнуць браць зямлю ў арэнду, то праз дзесяць, праз пяць ці праз дваццаць гадоў ніхто яе не адбярэ. Не адбярэ ўсё, што нажыта цяжкай працаю.

Трэба спыніць усякі заціск галоснасці. Галоснасць павінна быць абсалютнаю.

**У. Сінельнікаў**. *А вы асабіста ў сваіх артыкулах, выступленнях адчулі пасля ўжо вяртання з Горкага нейкія парогі галоснасці?*

**А. Сахараў**. Вядома. У мяне не прайшоў артыкул у «Аргументах и фактах», дзе я заклікаю абмеркаваць пытанне аб скарачэнні тэрміну службы ў арміі напалову. Думка мая заключаецца ў тым, што СССР мае велізарную сухапутную армію. Пад ружжом у арміі і на флоце ў нас служаць больш салдатаў на душу насельніцтва, чым у якой там ні было краіне, і мы можам сабе дазволіць без шкоды для нашай бяспекі ў аднабаковым парадку скараціць удвая тэрмін службы ў арміі. Менавіта гэта вызначае колькасць людзей, якія знаходзяцца ў арміі адначасова. Афіцэрскі корпус, пэўна, трэба скарачаць куды менш.

Я думаю, што такі крок кардынальна зменіць усе ваенна-палітычныя суадносіны і ўсе перагаворы па ўзбраенню, асабліва ў Еўропе. Яны імгненна пойдуць зусім з іншай хуткасцю.

Такое рашэнне будзе мець каласальнае сацыяльнае значэнне для нашай краіны, бо працяглы тэрмін службы ў арміі фактычна выбівае нашых юнакоў з таго напрамку жыцця, які яны выбралі. Пасля арміі не вяртаюцца ў вёску вельмі многія. Да 30 працэнтаў увогуле не вяртаюцца да сваёй прафесіі, страчваюць тэмп. Творчы патэнцыял губляецца. Куранят трэба вучыць хадзіць за кваткухаю ў першыя секунды, гэтак жа і людзей трэба ў пэўны перыяд вучыць. Я думаю, што і пры скарачэнні тэрміну службы на адзін год абвучыць людзей ваеннай справе можна, людзі цяпер пісьменныя, падрыхтаваныя, трактары водзяць і аўтамабілі і з радыёпрыёмнікам умеюць абыходзіцца.

**А. Адамовіч**. Варыянт прафесійнай арміі таксама зараз абмяркоўваецца.

**А. Сахараў**. Я не пярэчу супраць гэтага, гэта таксама вельмі добрая ідэя, але яна эканамічна вельмі складаная.

**А. Адамовіч**. Разумееце, трагедыя не ў тым, што давядзецца скараціць армію, а ў тым, што давядзецца скараціць генералаў, вось дзе вялікая трагедыя.

**А. Сахараў**. Так, гэта вялікая трагедыя для генералаў. Ну, дык давайце іх не скарачаць. Гэта будзе куды больш танна і проста. Толькі важна зразумець, якія грамадскія настроі яны будуць падтрымліваць.

У нас грамадскія працэсы ідуць хвалямі, і нясуць іх розныя плыні. Як быццам правакацыя Ніны Андрэевай была адбітая...

**А. Адамовіч**. Так званай Ніны Андрэевай.

**А. Сахараў**. Але, так званай Ніны Андрэевай. Аднак сілы, якія стаялі за гэтым псеўданімам, яшчэ захаваліся ў нашым грамадстве, гэтыя сілы працягваюць існаваць. Структура нашага грамадства вельмі складаная, па сутнасці сталінісцкая. Хаця, магчыма, яна пачала ствярацца да Сталіна, працягвала развівацца пасля Сталіна, але будзе справядлівым даць ёй менавіта гэтае найменне.

**У. Сінельнікаў**. *Што рабіць усім нам сёння?*

**А. Сахараў**. Трэба дзейнічаць актыўна. Пасіўныя адносіны да новых працэсаў, калі яны стануць агульным настроем, будуць згубнымі. Ад перабудовы ў нашай краіне залежыць вельмі шмат — і для нашых людзей, і для ўсяго свету. Вось я гаварыў аб канвергенцыі. Я сапраўды атаясамліваю перабудову з плюралізмам, а плюралізм з канвергенцыяй. Таму я лічу, што перабудова — важны шанец. Апошні шанец. Магчыма, не апошні. Ніколі не трэба гаварыць зусім ужо страшныя словы. Але ўвогуле гэта шанец, які даецца нам, выйсці з тупіка і дапамагчы ўсяму свету выйсці з тупіка. Для гэтага патрэбна актыўная пазіцыя ва ўсіх спектрах дзейнасці.

## ЦІХАЕ ІМЯ

*ЗЛАБАДЗЁННАЯ РАЗМОВА*
*(«ЛИТЕРАТУРНАЯ ГАЗЕТА»)*

**Ірына Рышына**: Сярод аб'яўленых на будучы год часопісных публікацый ёсць новыя рэчы і пісьменнікаў-дэпутатаў — Айтматава, Адамовіча, Быкава, Граніна... Слава Богу, значыць, дэпутацкія клопаты не адсунулі на потым творчыя задумы. «Дружба народов» мае намер друкаваць новую аповесць Алеся Адамовіча «Як я быў прыгоннікам». Дамовіліся з ім аб літаратурнай размове. І раптам напярэдадні званок: «У «ЛГ» не магу быць, пайду на сесію Вярхоўнага Савета. Будзе абмеркаванне пытання аб надзвычайных мерах. Хачу выступіць». І выступіў. А потым, у

канцы пасяджэння, М. С. Гарбачоў папрасіў яго, Я. П. Веліхава і Я. Я. Сакалова затрымацца для размовы, быў і М. І. Рыжкоў.

— *Можна спытаць, аб чым ішла гаворка?*

**Алесь Адамовіч**: Справа ў тым, што мы з Веліхавым паслалі Гарбачову пісьмо аб пасля-чарнобыльскай сітуацыі на Беларусі. Праблема гранічна абвастрылася.

Я прыгадала ўсесаюзны пісьменніцкі пленум вясною 1987 года ў Маскве і трывожнае выступленне Адамовіча на ім: замоўчваюцца маштабы вынікаў чарнобыльскай катастрофы для Беларусі; замест таго каб лакалізаваць радыяцыю ў тых мясцінах, дзе заражаная зямля, яе размазваюць па рэспубліцы і далей па краіне — у першую чаргу праз прадукты: «Ясце наш сыр, дык майце гэта на ўвазе!» Ён гаварыў аб тым, аб чым сёння піша ўся наша прэса, але тады... Скарачаць у Адамовіча пранізаныя болем радкі проста рука не падымалася, і ўсё ж давялося.

Мела гэтае выступленне і свой працяг. Стэнаграма трапіла ў Мінск, і там былі прыняты экстранныя меры — не па чарнобыльскіх справах, па неўтаймаванасці Адамовіча: як яго ўціхамірыць, паставіць на месца. Экстрэміст, панікёр, пацыфіст, ледзь не важак нейкае там змовы — якія толькі ярлыкі не клеілі яму! Пачытаць мінскі часопіс «Политический собеседник» — страшней «ворагаў перабудовы», чым Адамовіч і Быкаў, няма. Яго гэта, натуральна, засмучае, але вядома ж не ўтаймоўвае — партызанскую школу не пераб'еш.

— *Зноў ваюеце? Цяпер Чарнобыль не адпускае?*

— Пасля 1945-га гадоў дзесяць усё снілася, што зноўку вайна ідзе. Якая ні жахлівая была, але 9 мая яна скончылася, нам усё-ткі засталіся зямля, рака, лес, летні свежы дождж.» Ну а хто назаве дату заканчэння чарнобыльскай трагедыі? І сноў чарнобыльскіх? І калі вернуцца да беларусаў, украінцаў, жыхароў Браншчыны іх зямля, іх вада, іх паветра? 30 верасня, у час «чарнобыльскага маршу» па цэнтральнаму праспекту Мінска, выступалі жанчыны адтуль — з забруджаных раёнаў, — пыталі пра гэта. Хто можа ім адказаць і што абяцаць? Пераселім да 1995 года?.. Быў я нядаўна ў Цюрыху і, выступаючы перад вучонай аўдыторыяй, абрынуў і на іх фізікаў нашу сітуацыю — як віну навукі. Некаторыя пакрыўдзіліся: абвінавачвайце, маўляў, палітыкаў! Яны прымаюць рашэнні. А доктар Ханс-Рудольф Цулігер — малады яшчэ гадамі, адзін са стваральнікаў швейцарскіх АЭС, у якога мы з амерыканцам Крэйгерам Барнсам і яго нямецкімі калегамі па міратворчай арганізацыі, начавалі, раніцай наладзіў нам экскурсію

па сваёй хаце. Не хата, а тэхнічны агрэгат, сам сябе (за кошт сонечных батарэй) абагравае, жывіць энергіяй. Сваю ж энергію фізіка гаспадар якраз і накіраваў у гэты бок — на пошукі альтэрнатыў атамнаму будучаму. Не чакаючы рашэння палітыкаў, вучоны сам прыняў рашэнне. Нашага Чарнобыля хапіла і гэтаму швейцарцу. Нават радыкальная прапанова А. Д. Сахарава — схаваць усе АЭС пад зямлю, у скальны грунт — здаецца швейцарцу недастатковай: ніякіх АЭС! А для сяго-таго з нашых «аэсізатараў» усё яшчэ мала.

Зрэшты, надзея прыходзіць часам з нечаканага боку. Я стаў умацоўвацца ў ёй, калі на ўсебеларускім мітынгу 30 верасня выступіў новы дырэктар Курчатаўскага інстытута Я. П. Веліхаў і падтрымаў гуманную «чарнобыльскую формулу» беларускіх вучоных: грамадства, дзяржава павінны забяспечыць права і даць магчымасць перасяліцца ў бяспечнае месца кожнаму, каму мы ж крывадушна-клапатліва забараняем ужываць гародніну са свайго агароду, які стаў смяртэльна небяспечным, малако ад сваёй каровы. А не гэтыя склізкія, здзеклівыя «бэры» (спачатку 70, потым 50, затым 35), калі не ўлічваецца самае галоўнае — заражанасць прадуктаў, вады, а ўсяго толькі «фон», якія «цэнтральная» ведамасная каманда віцэ-прэзідэнта АМН Л. А. Ільіна, падмацаваная аўтарытэтам лабістаў заходняй атамнай энергетыкі, зноў спрабуе навязаць беларускім дзецям — у іх ужо кроў ідзе з носа і вушэй ад паслячарнобыльскай анеміі. Я. П. Веліхаў прапанаваў сваю дапамогу, каб адправіць тысячу беларускіх дзяцей за мяжу па даўно наладжанай ім праграме абмена дзецьмі. (Але, зразумела, амерыканскіх не ў Магілёўскую ці Гомельскую вобласці.) Больш таго, ён падказаў ідэю выселіць на зіму ўсіх дзяцей з небяспечных раёнаў — па ўзору выратавання і вучобы ў курортных мясцінах армянскіх дзяцей пасля землятрусу — і тым часам пераходзіць да праграмы поўнага перасялення.

Вось такія розныя ў нас праграмы, канцэпцыі. І віцэ-прэзідэнты таксама. Што ж, «плюралізм» і тут, не толькі ў навуковай, але і ў маральнай сферы.

*— А беларуская літаратура ў такой сітуацыі — што яна? Ці чуваць яе голас?*

— Ёсць публіцыстыка, паэзія, здараецца, і сапраўдная. Мабыць, так баліць, што ў публіцыстыцы канаем ад крыку, не да раманаў і аповесцей.

*— А вы з Быкавым у новых сваіх аповесцях невыпадкова абодва звярнуліся да вёскі, не да вайны — правільна я зразумела назву «Як я быў прыгоннікам»?*

— Пісаць аб лёсе нашага сялянства, савецкага, хіба таксама не аб вайне? Толькі вайна супраць уласнага народа.

— *Пра быкаўскую «Аблаву», якая ўваскрашае чорныя дні калектывізацыі, я ўжо чула, што гэта «тэма, новая для пісьменніка». Наўрад. Яна трагічна гучыць і ў «Знаку бяды», дзе праз лёс вёскі апавядаецца пра падзеі вайны, а вайною правяраецца тое, што адбывалася ў вёсцы ў папярэднія дзесяцігоддзі. «Аблаву» я прачытала, калі рыхтавала да публікацыі ўрывак з яе ў нашым дадатку — «Дас'е «ЛГ». Уражлівая па пачуццю праўды рэч.*

— Думаю, што Быкаў для «Знака бяды»і асабліва «Аблавы» растрывожыў самую затоеную, самую запаленую частку сваёй душы. Гэта ў яго жыло там глыбей за ўсё. Кампазіцыйная і нават па сітуацыі — прамая пераклічка з «Воўчай зграяй». На чалавека палююць. Толькі ў аповесці «Воўчая зграя» пра тую, з немцамі вайну — на людзей палююць фашысты, а ў аповесці пра «кулакоў» ідуць аблаваю на няшчаснага селяніна свае, таксама аграбленыя сталінскай калектывізацыяй жыхары вёскі. І нават родны сын.

— *Гэта ўжо другая аповесць у Быкава, дзе супрацьпастаўлены бацька і сын. У «Кар'еры» бацька-салдат у душэўных пакутах і сумненнях рые пласт за пластом кар'ер сваёй памяці, і поруч «сучасны», халодны, дзелавы сын, які не марнуе «дарма» час, — чужыя, па сутнасці, людзі. А тут, у «Аблаве», яшчэ горш: сын здраджвае бацьку, не дзіця, не Паўлік Марозаў, дарослы чалавек — ці чалавек толькі? Разбураны сумленне, сыноўнасць, чалавечае ў чалавеку... Мабыць, гэты разрыў непакоіць Быкава вельмі сур'ёзна — у такога мастака, як ён, нічога не бывае выпадковага...*

— Я пакажу вам зараз пісьмо адной маёй карэспандэнткі — з тых, на каго была аблава па ўсёй краіне. Жыхарка Кургана Н. К. Наскова звяртаецца да нашага сумлення, пачуцця справядлівасці.

«Мне — Насковай Н. К. — цяпер 66 гадоў, маёй старэйшай сястры — яшчэ больш, і нядаўні адказ з пракуратуры прынёс не менш моцны боль, чым калі б мы маглі тады, у 1930 г., успрымаць падзеі. Але тады мы былі дзецьмі. Бацька ў гады нэпа адкрыў у двары дома лаўку па продажу прадуктаў, ён клапаціўся, турбаваўся: шасцёра дзяцей ды бабулька — маці бацькі, ды пляменнікі, у якіх не было ўжо бацькі жывога. Работнікаў не трымаў. Да моманту раскулачвання бацька не мог выплаціць даўгі, за нядоімкі прададзеныя з торгу малая хата і жалезны дах — з жылога дома.

Бацька паехаў у Сярэднюю Азію на заробкі (капаць калодзежы). І нас выгналі з дому,

адабралі рэчы, нават коўдру. Ён кінуўся да нас ехаць, яго знялі ў Чэлябінску з цягніка, апазнаўшы па адабранай у нас фатаграфіі, павезлі ў турму — потым перапpавілі ў Курган...

Нас выслалі на поўнач Урала. Везлі ў цялячых вагонах.

У 1932 годзе памёр бацька. Праз 6 месяцаў — маці, за ёю — сястра, брат, сваякі. Я жыла ў двух дзіцячых дамах Свярдлоўскай вобласці. ЗВЯРНУЛАСЯ ЗА РЭАБІЛІТАЦЫЯЙ.

Вось што адказала абласная пракуратура: меў наш бацька, па тлумачэнню, маўляў, старажылаў, у 1926 годзе лаўку, парабкаў не трымаў, але людзі адпрацоўвалі за мяса, бацька даваў у доўг, прасіў папрацаваць.

Вопісу маёмасці ў абласным архіве Кургана не выяўлена. Яшчэ б выявілі! Калі хапалі ўсе! З бабулі Ганны знялі валёнкі, Фросю выкінулі з калыскі і ўзялі шалік, коўдрачку, з паліцы — посуд, са стала — абрус.

Хапалі хто што!

Павялі карову Зорку, каня ўпаўнаважаны прадаў у Казахстан, а нас — на ўсе чатыры бакі, зімою! Як сказана ў адказе — раскулачаны мы АБГРУНТАВАНА. Вось ён, наш гуманізм! Прычын для пракурорскага ўмяшальніцтва няма!

Вось так, праз 60 гадоў пасля трагедыі, расцэнена гэтая гісторыя — АБГРУНТАВАНА. Чаму наш урад не прыме Указ аб рэабілітацыі? Прыбалтыка ж гэта зрабіла для свайго народа!

Звяртаюся да Вас, паважаны А. М., зрабіце ўсё магчымае, каб нарэшце адважыліся сказаць праўду — супраць нас зроблена злачынства. Вярнуць імя нашым бацькам, кампенсаваць хоць што-небудзь!»

— *Між іншым, у Быкава ў «Аблаве» таксама, калі помніце, ёсць вельмі моцная «дзіцячая» сцэна — зімою з дзяўчынкі здымаюць валёнкі. А Ваша аповесць — таксама пра раскулачванне?*

— Калі мы, партызаны, людзі гарадскія, а хто і вясковы, заходзілі ў сёлы пераначаваць або паесці, учарашнія калгаснікі часта пыталі: калі нас, маўляў, не спаляць, не паб'юць за тое, што дапамагаем «сталінскім бандытам» (так пісалі пра партызанаў у акупацыйных газетках), потым што — зноў калгасы? Зноў тое ж самае? Гучала гэта, даруйце, так: можа, не варта і хавацца ад нямецкай смерці?.. Ну, мы, вядома, горача запэўнівалі (самім хацелася верыць у гэта), што ўсё, ўсё зменіцца пасля вайны... Пасля такой вайны. Пасля таго як народ гэтак высакародна ўсё дараваў, увесь гвалт над сабою — і калектывізацыю, і 37-ы — толькі б перамагчы Гітлера! Не змянілася. Калі называць самыя трагічныя для савецкай вёскі часы — па безнадзейнасці і поўнаму ўжо

насмяянню над усімі чалавечымі пачуццямі — дык гэта, па майму перакананню, пасляваенныя, недзе з 1946-га па 1953-і. І ў страшныя 30-ыя, і ў гады вайны — усё роўна верылася, што вось міне, пройдзе гэта, не можа не прайсці, і нармальнае жыццё вернецца. Тут жа, калі ніякія ахвяры, проста-такі подзвігі вёсак нашых, партызанскіх і непартызанскіх, не дапамаглі селяніну збавіцца ад новага калгаснага бяспраўя, голаду, грабяжу, дзікіх падаткаў на кожную яблыньку і курыцу, надышоў параліч усякае надзеі. Ну а мы, многія — студэнты, гараджане, — жылі сваім жыццём, цэны зніжалі, а недзе там, за бяспашпартнаю рысаю, надрываліся за здзеклівыя палачкі-працадні нашы прыгонныя. Падлічыць бы, колькі на кожнага выпадала: па дзве ці дзве з палавінаю душы? Вось адкуль і вось чаму назва: «Як я быў прыгоннікам».

Дасюль пачуццё сораму за радасны свой стан студэнта, які праз тры гады пасля вайны наведаў партызанскія пенаты, за веласіпед, спартыўка закасаныя рукавы ды падабраныя клямарам штаны. Зайшоў у хату Горбеліхі — нашай былой партызанскай сувязной. «Ну, як тут жывяце-мацуецеся?» А ў яе ложак без падушак, ніводнай анучы, і наогул нічагусенькі, апрача горкі маладой бульбачкі ля акна ды за нагу навязанай курыцы.

«У вас што, немцы тут пабывалі?» Ніяк не можа спыніцца, ідыёт, жартачкі табе ўсё! Але і жанчына чамусьці з грымасаю ўсмешкі на твары адказвае: «Ага, фінінспектар пабываў. Усё пахапаў. За падатак. А чым заплачу? Адна вось курыца, і тую калгас паставіў на маё ўтрыманне, пракорм».

А потым... Каб вы, сённяшнія, зразумелі, што азначала і якую меру крыўды і безнадзейнасці заключала фраза, якую яна потым выдыхнула — і адразу ад усмешкі да слёз, — павінны ведаць, што мужа яе, незаменнага партызанскага сувязнога, забілі паліцаі, што сын загінуў на фронце, а дачка — у Германіі. І вось яны, словы яе, больш страшных я не чуў: «Хаця б вайна якая!..» Не камусьці, а сабе, самой сабе пажадала самага дрэннага, быццам заслужыла яна гэтага сваім такім жыццём, доляй. Так, маўляў, нам і трэба!..

*— У В. Бялова гадоў пяць назад быў у «Юности» вельмі моцны, пранізлівы расказ «Такая вайна» — там у адзінокай салдацкай маці падатказборшчык у калгасе, аднагодак яе сына, які загінуў, адбірае адзіную рэч, у якой цяпер усё яе жыццё, — самавар.*

— Калі нам сёння ўнушаюць, быццам начыста сцёртая народная памяць пра мінулае, што калгасная сістэма — «вялікая заваёва сацыялізма», што на будучае яна — аснова

нашага росквіту, успамінаеш, што Л. Талстому пасля ўсіх бескарысных пісем цару і непачутых заклікаў захацелася (паводле ўспамінаў сакратара) сказаць ім па-дзіцячы, зрабіць «ку-ку». А як яшчэ, калі на ўсе словы праўды і на ўсе лічбы, факты зноў заклікі — «узмацніць сацыялістычнае спаборніцтва». «Ку-ку», Ягор Кузьміч! Не, не падумайце, што мая будучая аповесць — вось такое «ку-ку». Хаця хто ведае, магчыма, тады толькі і пачнём усур’ёз развітвацца з мінулым, калі зможам смяяцца над ім. Але пакуль занадта баліць.

*— На гэтую тэму ёсць рэч найвышэйшага ўзроўню, чыстай вады, класіка — «Матрунін двор». А скажыце, фатаграфія — вы знятыя з Салжаніцыным, — калі, дзе зроблена?*

— Салжаніцын, які ўсміхаецца! Не часта такое сустракалася. Але, можа, таму і ўсміхнуўся, што турбаваўся перад намі не нехта, хто здымаў яго раней для казённых папер: анфас, профіль, а Васіль Быкаў, помню, таксама радасна ўсмешлівы (што гэтак жа бывае нячаста). Так, менавіта ў яго нумары ў гасцініцы «Масква» гэта адбывалася. Васіль пазваніў мне, а мы прыехалі на пісьменніцкі з’езд: «Зайдзі, тут госць у нас». Заходжу: Салжаніцын — белы, з увагнутасцю на лбе твар селяніна-раскольніка, хуткі, ухопісты позірк блакітных вачэй і нейкая трагічная асуджанасць ва ўсім аблічча. Такіх я бачыў толькі на вайне — незадоўга да іх гібелі. Але, на вялікае шчасце, пачуццё гэтае аказалася зманлівым. Аднак, магчыма, так і было: чалавек ужо ступіў за смяротную рысу, яму ўжо нічога не страшна, а таму і пайшоў на адкрытае адзінаборства з цэлай сістэмай. Дарэчы, я ўжо ведаў, што Салжаніцын працуе над кнігай аб нашых лагерах, назва вымаўлялася без слова «ГУЛАГ», але там было: «лёд», «ледзяны(ая)»... дакладна не помню. Не буду гаварыць, ад каго даведаўся, не ўпаўнаважаны, але так менавіта і сказана было: замах на ўсё, на ўсю сістэму! «На самога Леніна». Нешта накшталт: «Ледзяны архіпелаг».

Дык вось напярэдадні IV з’езда пісьменнікаў, гэта, здаецца, 1967 год, Салжаніцын разаслаў свой зварот-пісьмо да з’езда: аб панаванні цэнзуры, аб недапушчальных карных функцыях СП, ну і аб тым, якому цкаванню падвергні цяпер яго, Салжаніцына. Пісьмо мяне ў Мінску не заспела, бо паехаў я ў Маскву за некалькі дзён да з’езда. Прыходжу ў «Новый мир», трэба было да Яфіма Дораша, і бачу ў пакоі А. Бэрзер Салжаніцына, які сядзеў на канапе. Бэрзер назвала мяне, ён раптам падскочыў, хутка, як рабіў усё: «А я вам пісьмо паслаў. Атрымалі?» — «Мне???» — «Не вам

аднаму. Быкаву...» — І яшчэ назваў, здаецца, Брыля, Карпюка. — «Не атрымалі?»

Нядоўгая наша гаворка ўсё вярталася да таго — перашлюць ці не мне пісьмо, ці прачытаю?.. Прыкметна было, што для яго вельмі важна — загавораць ці не пра гэта на з'ездзе.

Дарэчы, сустрэча гэтая мела нечаканы пастскрыптым: у той жа дзень у кватэры старшыні беларускага СП Максіма Танка зазваніў тэлефон. «Хто каго абманвае? Адамовіч вас ці вы нас? Ён ужо сустрэўся з Салжаніцыным», — голас належаў галоўнаму тагачаснаму беларускаму ідэолагу Пілатовічу. Умеў ён пагаварыць з любым лаўрэатам, класікам — з кім хочаш, — як з апошнім клеркам сваёй канторы. А справа ў тым, што паслалі мяне на з'езд замест таварыша, які захварэў, і вось усё ў галаве ідэолагаў супала: паслалі не выпадкова, сустрэўся з Салжаніцыным не выпадкова...

— *Пра што ж вы там у гасцініцы гаварылі, не толькі, мабыць, фатаграфаваліся?*

— Ён — пра свой «Жнівень чатырнаццатага», мы з Быкавым — ужо не помню, пра што. Дарэчы, выявілася, што праходзіў ён у вайну праз Беларусь і якраз на напрамку, дзе на заходнім беразе Беразіны з яго дывізіяй узаемадзейнічалі нашы партызанскія атрады. Мы хадзілі да армейцаў зброю і боепрыпасы выклянчваць (здаралася, што і прыхоплівалі лішак, калі дрэнна ляжала). Так што вельмі маглі нават слізгануць вачыма адно на аднаго ўжо ў канцы 1943-га... Вось такая мая «салжаніцыніяда». Небагатая. Ага, калі ён ад Быкава пайшоў, я праводзіў яго да лесвіцы. І тут жа запрасіў паснедаць у рэстаране. «Я ў рэстараны не хаджу! — сказаў неяк ужо вельмі рэзка. Але тут жа дадаў, мякчэй: — Не варта вам мяне праводзіць». І панёсся з асцярожнай і пруткай імклівасцю ці то ганімага, ці то праследавальніка — і тое і другое адначасова. Потым прыслаў Васілю ў Мінск пісьмо і перадаў прывітанне аматару рэстаранаў «А. М.».

— *Вяртанне Салжаніцына на старонкі нашых часопісаў — велізарная падзея, літаратурная, грамадская. Пры гэтым выказваецца суджэнне, што пры. цяперашняй палярызацыі сіл кожны будзе цягнуць яго на свой бок.*

— Акіянскі лайнер акружаюць, аблепліваюць лодачкі, і кожная хацела б зацягнуць гіганта ў сваю бухтачку. А што ў яго зусім іншая пасадка — ведаць не жадаюць. Маштабы ў гэтага вельмі рускага чалавека і мастака, які для многіх — у адным шэрагу з Талстым, Дастаеўскім, такія, што ён проста не можа не быць выразнікам ідэй агульнача-

лавечых. Такім ён і з'яўляецца, пра што б ні пісаў, пра Матруну, пра Сталіна, пра рускую мову. А што нязручны часта то для адных, то для другіх — гэта таксама нармальна. А хіба лёгка было тым жа рэвалюцыянерам з Талстым ці Дастаеўскім? З якім пачуццём перавагі ацэньвалі талстоўскія, дастаеўскія «крайнасці» (ненасілле, падполле чалавечае), а як пацвердзіў менавіта іх погляды наш час.

Вось фундаментальная праца, толькі што выдадзеная «Советским писателем» кніга Юрыя Каракіна «Дастаеўскі і пярэдадзень XXI веку». Уся яна пранізаная пачуццём здзіўлення: ды як ён мог усё гэта пра нас ведаць?!

Кніга Каракіна дапамагае прачытаць занава старонкі, ужо калісьці чытаныя-перачытаныя, зразумець праўду Дастаеўскага і праўду пра Дастаеўскага — вялікага рускага пісьменніка-гуманіста — з пазіцый менавіта агульначалавечых, з думкаю-надзеяй: «Як выратаваць сябе, сваю краіну, свой род і ўсё жыццё зямное».

Не, скажу лепш словамі Каракіна і Дастаеўскага: «...Дастаеўскі перакананы і пераконвае ў іншым, няма нічога больш заразлівага адкрытай праўды, прамога сумлення і непрыфарбаванага характва. «Праўда вышэй за Някрасава, вышэй за Пушкіна, вышэй за народ, вышэй за Расію, вышэй за ўсё, а таму трэба жадаць аднае праўды і шукаць яе, нягледзячы на ўсе выгады, якія мы можам страціць з-за яе, і нават нягледзячы на ўсе тыя праследаванні і ганенні, якія мы можам атрымаць з-за яе».

Мабыць, яму, адналюбу Пушкіна, адналюбу рускага народа, адналюбу Расіі, было не так ужо лёгка вымавіць такое («Праўда вышэй за Някрасава, вышэй за Пушкіна, вышэй за народ, вышэй за Расію, вышэй за ўсё...»), і ўсё ж ён вымавіў, перакананы, што гэтая праўда, якая яднае ўсё чалавецтва, ёсць і што менавіта Пушкін панёс гэтую праўду-таямніцу з сабою ў магілу, а мы без яго яе разгадваем...»

— *Мы ўсё пра вельмі сур'ёзнае. Ну, а прычыны гаварыць пра вясёлае наша грамадскае, літаратурнае жыццё дае?*

— А чаму і не? Колькі хочаце. Вось, напрыклад, у 1988 годзе ў Барселоне на сімпозіуме па праблемах савецкай перабудовы я сустрэўся з Андрэем Сіняўскім і, убачыўшы, якія вясёлыя вочы ў гэтага марудлівага барадача, падзякаваў яму за тое, што... дапамог мне напісаць «Карнікаў», зрабіць калектыўныя дакументальныя кнігі. Не зразумелі? І ён не зразумеў маёй праўды-жарту. Давялося расказаць гісторыю, як я стаў «непадпісантам», змушаны быў пакінуць Маскву, а ў выніку напісаў свае галоўныя

рэчы: «Хатынскую аповесць», «Карнікаў», «Я з вогненнай вёскі», «Блакадную кнігу».

Вядома, што праследаваліся «падпісанты» — у абарону таго ці іншага пісьменніка, грамадскага дзеяча, а тут — усё наадварот. Маю на ўвазе рэакцыю кафедры савецкай літаратуры МДУ, якая «выхавала» Андрэя Сіняўскага — ён былы яе аспірант, — на яго арышт. Але вось што забаўна: калі б аўтару гнеўнага пісьма ў адрас Сіняўскага і Даніеля, якому належала стаць калектыўным, У. І. Метчанка, а таксама дэкану А. Р. Сакалову ў той момант сказалі, што яны працуюць па сцэнарыю ЦРУ, яны, бадай што, сумеўшыся, спасlaліся б зусім на іншую арганізацыю. Я пацікавіўся ў Сіняўскага: наколькі дакладны Еўтушэнка ў сваім апавяданні пра Роберта Кенэдзі? Які, маўляў, пад шум вады, якая лілася ў ванне, распавёў яму пра акцыю ЦРУ, што падкінула нашым службам інфармацыю пра нейкага Абрама Тэрца, — засумавалі па нашых антыінтэлігенцкіх кампаніях.

— Так, усё праўда! — нечакана пацвердзіў Андрэй Данатавіч, а потым разам з жонкаю Марыяй Васільеўнай яны пачалі прыпамінаць, як самі пра гэта здагадаліся, даведаліся. Для чаго гэта было ЦРУ? А каб заткнуць фантан нашай прапаганды з прычыны праследаванняў прагрэсіўных дзеячаў на Захадзе.

Такі «прывецік» калегам ад калег! — помніце, у «Пастцы» Быкава работнік нямецкай СД таксама пасылае нашаму «СМЕРШу» «прывет».

Ну, дык вось пра непадпісанта. Ішоў я на кафедру, добра ведаючы, што лепш не ісці, тым больш, што дабрэйшая сакратарка наша, усё разумеючы, нават падказвала: «Скажу, што не знайшла вас». Але было страшна цікава — паглядзець не толькі на «іх», але і на самога сябе ў такой сітуацыі... Справа на канапе сядзеў Метчанка, як звычайна нечым быццам пакрыўджаны, за сталом Сакалоў, таксама, як заўсёды, вельмі дружалюбны і няшчыры, а поруч, ад стала, прафесура — людзі ўсё паважаныя, важныя. «Ну вось, — абрадаваўся дэкан, абпраменьваючы новую ахвяру важнага мерапрыемства шчаслівай усмешкай, — малады наш прафесар, акрамя таго, пісьменнік, стыль нам паправіць». Метчанка чамусьці яшчэ больш спахмурнеў і пакрыўдзіўся.

«Так, але ж я не ведаў вашага (маўляў, вы вучылі, вы і апраўдвайцеся) Сіняўскага і нават не чытаў нічога». — «А гэта лёгка паправіць!» — неасцярожна выгукнуў дэкан, ускладваючы руку на таўшчэразную фотакопію рамана Сіняўскага «Любімаў» і яго артыкулаў. — «Дзе тут можна сесці?» — «Вы будзеце чытаць?» —

«Ну, вядома, я ж павінен ведаць, што там. Тым больш, што і суда яшчэ не было».

Сеў за маленькі столік і, адкрыўшы на першай старонцы, паглыбіўся. Я, вядома, разумеў, што смяецца добра той, хто смяецца апошнім. І яны з мяне яшчэ як павесяляцца заўтра. Але пакуль быў мой выхад на сцэну, магу зараней вярнуць ім хаця б частку таго, што атрымаю, калі сапсую ўсю абедню. Дэкан скеміў (сапраўды бязглуздзіца — дзесяць чалавек будуць сядзець і глядзець, як адзін чытае таўшчэразны раман!), успомніў: а дзе такі-та член кафедры? Хворы? Ах, як нядобра: калега хворы, а ніхто не наведае. І паслаў ганцоў праведаць, а заадно прывезці яго подпіс пад пісьмом. Ну, не буду цягнуць, як там цягнуў, — каля гадзіны ці дзвюх. Што прачытаў, што прагледзеў — атрымаў нейкае ўяўленне аб працах Абрама Тэрца. Прывезлі ўжо подпіс ад «хворага» дацэнта. Навісла цяжкае маўчанне. Дэкан глядзіць на нахабніка: ну што, будзеш і далей здзекавацца з шаноўных людзей? Не вытрымаў, адсунуў паперы. «Раман дрэнны. (Гэта ў Барселоне я сказаў і Сіняўскаму — не пакрыўдзіўся.) Літаратуразнаўцам напісаны, не мастаком». — «Ну, вось бачыце!» — «Але не судзіць жа за дрэнны раман? А артыкул пра сацрэалізм цікавы».

Загаварылі другія: сапраўды, няхай Метчанка падпіша пісьмо, ён — аўтар... Дэкан ляпнуў даланёю: «Ён (гэта значыць я) чалавек у нас часовы, а нам дарагі гонар універсітэта!» (Як у ваду глядзеў дэкан: праз два месяцы «непадпісант-наадварот» вылецеў з МДУ, а заадно і з Масквы.) Баяўся, што пайду, а яны мой подпіс паставяць. Аднак артыкул наогул не з'явіўся. Не ведаю, што перашкодзіла. Але ўчынак «непадпісанта» быў ацэнены як належыць і, здаецца, на дзяржаўным узроўні. Бо і ў Мінску гэтая гісторыя цягнулася не адзін год. Гэтае майстэрства яны засвоілі дасканала: нават калі і на волі, але сцены зрушыліся, і падацца няма куды. Амаль год на працу ўладкавацца не мог. Тут ужо смяяўся апарат. І ўсё-ткі не ён смяяўся апошнім. Жыццё кароткае, але ў гэтым мы пераконваемся не адзін раз. І спадзяюся, што пераканаемся канчаткова.

— А як вам усё-ткі дазволілі ў тыя гады балаціравацца ў членкоры беларускай акадэміі?

— Тройчы не дапускалі, і толькі настойлівасць прэзідэнта акадэміі М. А. Барысевіча і тое, што выйшла тады кніга «Я з вогненнай вёскі...», якая размякчыла сэрца П. М. Машэрава, былога партызана, адыграла сваю ролю.

— *А доктарская дысертацыя была пра што?*

— Беларускі раман. Праблемы жанру.

— *Цяпер літаратурнае супрацьстаянне носіць зусім іншы характар. Тады, у 60-70-ыя, мастакі не ладзілі з начальствам. Цяпер ніяк не знойдуць агульную мову паміж сабою.*

— Ды таму, што ўсё сышлося ў тугі вузел: справы нашы літаратурныя, пытанні грамадска-палітычныя, ды і ўсяго чалавецтва клопаты. Усё вырашаецца адначасова. Сітуацыя ў краіне складваецца, прама скажам, небяспечная. Вось сур'ёзная праблема ў шэрагу іншых. Ёсць такі выраз: «Свой сваяша не прызнаша». Хваля рэвалюцыйнай перабудовы, якая ўздымаецца знізу, на нейкім узроўні павінна сустрэцца і ўжо сустрэлася з той, што пачыналася і ішла зверху. Рэакцыя М. С. Гарбачова на шахцёрскія забастоўкі была аптымальна разумнаю і спрыяльнаю. А ці заўжды і ці ва ўсім гэткая ж разумная наша рэакцыя на пазіцыю «верху»? Я маю на ўвазе не шахцёраў, а перш за ўсё нашага брата-інтэлігента, у тым ліку брата-пісьменніка. У адным з пісем былы дзетдомавец паскардзіўся: ніколі не меў «ціхага імя». Гэта значыць, ніхто яго імя не вымаўляў ціха, без крыку. Ну, а меў наш народ «ціхае імя» ўсе гэтыя гады, дзесяцігоддзі? Самі з сабою развучыліся размаўляць ціха. Вунь ужо раздаліся зычныя галасы на сесіі Вярхоўнага Савета 3 і 4 кастрычніка аб увядзенні «надзвычайнага становішча».

— *Па ТБ мы гэтага не бачылі.*

— Мяне ўразіла не тое, што ёсць людзі, сілы, якім хацелася б адным ударам вызваліцца ад кашмару наступных альтэрнатыўных выбараў у рэспубліканскія і мясцовыя Саветы, ад гэтых усіх камісій па хабарах ды прывілеях, пачаць правіць з дапамогаю ваеннай сілы, на што запярэчыў ім М. І. Рыжкоў, і гэта вы маглі бачыць па ТБ. Але больш уразілі мяне ўсё ж некаторыя зусім дэмакратычныя дэпутаты — наколькі лёгка яны купіліся на панічныя крыкі «надзвычайнікаў» аб поўным развале, холадзе, голадзе, калі, маўляў, не пазбавіць краіну на 15 месяцаў (пакуль?) праў на тыя правы, якія ўжо дала перабудова, напрыклад, у шахцёраў адабраць абяцанае ім урадам — і такое прагучала. Я разумею, у дэмакратаў былі свае разлікі аб неадкладнай карысці.

Амаль па Крылову: паслужлівы мядзведзь замахнуўся каменем, каб муху забіць на лбе соннага сябра-селяніна...

І ўпартых «надзвычайнікаў», і дэмакратаў, якія пачалі слізгаць, спыніла (на самым краі) вытрымка, стрыманасць старшыні.

Сёння зноў накочваецца хваля: усё зло ў кааператывах! І зноў апеляцыі да пачуццяў стомленых, раздражнёных людзей — а можа, забудуць, хто і калі зацягнуў нас у гэтыя тупікі. І зноў заклікі — да экспрапрыяцыі. Граб награбленае! Міжволі падумаеш: як жа далёка нас занесла ў бок ад цывілізаваных форм развіцця, метадаў цывілізаваных! Інакш мы не ўмеем? Ці не таму іншыя народы, раты разявіўшы, глядзяць на лятучую тройку? І асабліва калі, прамчаўшыся, яна тут жа вяртаецца назад: зноў памылка, не туды заехалі. З культам, з калектывізацыяй і многім іншым. Ну і што? Затое мы самі прызнаём свае памылкі. А можа, яшчэ адзін раз вярнуцца да той першай росстані перад асілкамі «ў шлемах камісарскіх» ды і паехаць звычайнаю дарогаю, па якой другія, не такія эпічныя, народы едуць і едуць, больш марудна, але ўсе ў адным напрамку. І як выявілася, як сказаў на першым З’ездзе народных дэпутатаў Ч. Айтматаў, яны, можа быць, і па сацыялістычным бальшаку прасунуліся далей за нас. Прававая дзяржава і ўсё, што спадарожнічае ёй, — ці не занадта проста для нас? А ці не ў такой прастаце — ісціна і шлях да таго самага дабрабыту, справядлівасці, дзеля якіх мы столькі дроў наламалі?

*1989 г.*

ДЭПУТАЦКІ ЗАПЫТ

Намесніку Старшыні Савета Міністраў СССР Старшыні Бюро па паліўна-энергетычнаму комплексу Шчарбіне Барысу Еўдакімавічу, Міністру атамнай энергетыкі Луконіну Мікалаю Фёдаравічу

## ДЫК ХТО Ж ЗАПЛАЦІЦЬ?

Пачну з тлумачэння. 26 красавіка ў Мінску адбыўся «мітынг маўчання»: па закліку Беларускага народнага фронту тысячы людзей сабраліся каля Дома ўрада. І стаялі моўчкі цэлую гадзіну. Даруйце за неафіцыйны стыль, але ці не «ікалася» вашаму міністэрству? Таму што, вядома ж, людзі ў сваіх думках разумелі і яго. Столькі гадоў афіцыйныя інстанцыі маўчалі пра чарнобыльскую бяду жыхароў нашай рэспублікі, яе маштабы, а калі прэса нарэшце загаварыла, вось так выразна маўчалі ўжо яны, беларусы…

Гадамі жыхарам дзесяткаў раёнаў утлумачвалі, што толькі тры беларускія раёны пацярпелі, а ў астатніх усё ў норме. І раптам: «Ведаеце, тут жыць нельга, а што тры гады вас тут пратрымалі, выбачайце. Але і зараз усіх перасяліць мы не можам. Поезд пайшоў. З фінансамі туга, а тут яшчэ Арменія…» Ёсць пастанова Палітбюро аб дадатковай дапамозе пацярпелай Беларусі, але каб перасяліць усіх зараз, усё роўна сродкаў не хопіць…

Вось адно з пісем, якія атрымліваю, вядома, не я адзін. Магчыма, і вам іх перасылаюць.

«Звяртаюцца да Вас жыхары в. Самацеевічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. з просьбаю хутчэйшага адсялення нас з зоны жорсткага радыяцыйнага рэжыму.

Я не буду спыняцца падрабязна на ўсіх фактах, бо Мінздраў вырашыў пытанне адсялення нас з гэтай зоны, бо далейшае пражыванне ў гэтай зоне небяспечнае для здароўя ўсяго насельніцтва.

Заражанасць нашых земляў, г. зн. пасяўных плошчаў, ад 45 да 100 кюры на кв. км і вышэй. (А дапушчальная норма ў межах 10 кюры — так, здаецца, па табліцах вучоных. — А. А.) На днях абследавалі нашых дзяцей. У выніку абследавання выяўлена шмат хворых дзяцей: гіпаплазія шчытавіднай залозы I і II ступені, павелічэнне лімфавузлоў, анемія, сардэчныя і нервовыя расстройствы. Урачы сказалі, што неадкладна трэба адсяляць. Але гэта сказалі ўрачы і ведаем мы. А ці ведае пра гэта Мінздраў? Нам сказаў абком, што адсяленне будзе праз два-тры гады. А ці не занадта позна і так ужо адсяляць, не тое што чакаць яшчэ тры гады. Калі гэта пагражае здароўю насельніцтва, трэба падсяляць людзей у іншыя раёны, у гаспадаркі, дзе ёсць жыллё. Мы думаем, што такія гаспадаркі ёсць. І мы гатовы паехаць куды хочаце, абы захаваць здароўе дзяцей і самім яшчэ пажыць дзеля сваіх дзяцей. Няхай нам выплацяць кампенсацыі за хаты, і мы самі можам працаўладкавацца, дзе каму будзе магчымасць.

З гэтае прычыны мы пісалі шмат пісем у ЦК КПСС, Таварыства Чырвонага Крыжа і іншыя інстанцыі, але адказу дасюль не атрымалі. Мабыць, яны засталіся глухія да нашай бяды.

Але ж на бяду Арменіі адгукнуўся цэлы свет. І ім будуюць. А ў нас няма каму будаваць, бо нашы людзі працуюць у Арменіі...

Аўтар пісьма Рудзянкова Е. М. і іншыя жыхары».

Дык вось у мяне пытанні.

1. Ці праўда тое, у чым жыхары Магілёўшчыны перакананыя (і што пацвярджаюць сур'ёзныя вучоныя), а менавіта: ці праўда, што аддаленыя ад Чарнобыля раёны Магілёўскай вобласці — Краснастольскі, Слаўгарадскі, Чэрыкаўскі, часткова Касцюковіцкі, Быхаўскі, Клімавіцкі і некаторыя іншыя (а таксама частка Бранскіх раёнаў) — атрымалі такую пагражальную дозу радыяцыі па той прычыне, што на іх пасадзілі чарнобыльскую хмару? Расстралялі яе і пасадзілі. Тую, якая неслася да Масквы. Так, васьмімільённую сталіцу трэба было ратаваць ад «мірнага» атама. Ратаваць

трэба было. Але таксама і жыхароў раёнаў, якія прынялі на сябе чужую бяду. І не праз тры гады пасля. Ну, а ўжо калі атрымалася, што праз тры гады, тады не марудзячы ні хвіліны больш. Так, але фінансы, усе ведаем, як крута з гэтым. Ведаем, а таму не толькі пытанне, але і прапанова.

2. У іншых краінах заведзена так: ты стравіў, ты заразіў, ты і плаціш, вяртаеш страты. Вось чаму ў суседняй Фінляндыі няма таго, што робіцца з Ладагай, хаця лясная і цэлюлозная прамысловасць у іх не нам раўня — краіну корміць.

Раз і мы становімся прававою дзяржаваю, тады мільярды, якіх нестае для выратавання «лімфавузлоў» і «шчытавідак» дзяцей Магілёўшчыны, Гомельшчыны, Браншчыны, даць абавязаны вы, міністэрства «мірнага» атама. Спытаеце: а дзе мы іх возьмем? У іншых краінах адказалі б: а дзе хочаце, там і бярыце. Але можна і дапамагчы, параіць: не збудуеце адну-дзве АЭС — менш зачыняць давядзецца! (А зачыняць не танней каштуе, чым збудаваць.) Да таго, здаецца, ідзе: Міністэрства атамнай энергетыкі можна будзе называць Міністэрствам дэмантажу АЭС. Чаму так атрымалася — асобнае пытанне.

Тут жа пытанне вось якое: ці згодныя вы, ваша ведамства, узяць на сябе фінансавую частку той бяды, якую яно ж і абрынула на ні ў чым невінаватых жыхароў соцень вёсак і мястэчак?

3. Сітуацыя, у якой апынуліся людзі названых (і многіх неназваных тут) раёнаў, — вынік не сёння ўстаноўленай сакрэтнасці на ўсё, але асабліва там, дзе пахне ведамаснай усёдазволенасцю. Мы ўжо прыйшлі да разумення (і хочацца спадзявацца, што гэта знойдзе адлюстраванне ў рабоце З’езда народных дэпутатаў і ў заканадаўчых актах новага Вярхоўнага Савета), што ўтойванне ад краіны, ад грамадзян, а часам і ад самога ўрада патрэбнай інфармацыі, якое вядзе да цяжкіх вынікаў, — службовае, а то і дзяржаўнае злачынства.

У сувязі са сказаным пытанне да вас, кіраўнікоў атамнай энергетыкі: хто персанальна або якія звенні апарату, вашага і іншых, прама вінаватыя ў тым, што адбылося, павінны адказаць за гэткае недаравальнае трохгадовае пагарджанне здароўем і інтарэсамі тысяч і тысяч людзей? Або калі больш бяскрыўдна ставіць пытанне: як атрымалася, што атрымалася так?

*08.05.1989 г.*

## І. БЯДА ВУЧЫЦЬ

*(З ВЫСТУПЛЕННЯЎ Ў ЯПОНІІ. КРАСАВІК 1990 Г.)*

Я прыехаў з краіны, дзе рэйтынг, аўтарытэт усяго японскага (тэхналогій, працоўнай маралі, нават вашай праграмы атамнай энергетыкі) вельмі высокі. Таму я аніяк не збіраюся, ды і не магу ставіць сваёю мэтаю, расказваючы пра нашы мірныя атамныя праграмы, неяк уздзейнічаць на вашы праз грамадскую думку. Не і не, мяне запрасілі расказаць праўду пра чарнобыльскую катастрофу, як яна бачыцца з Беларусі, адкуль я родам. А ўжо вы самі, калі хочаце, выкарыстоўвайце гэтую праўду ў дачыненні да сваіх умоў. Бо яны ж неаднолькавыя, нашыя і вашыя ўмовы: у нас нафта, газ, вугаль — на дзесяцігоддзі хапіла б. У вас гэтага няма, і вы зыходзіце з гэтага ў сваіх праграмах. Мы ж без АЭС маглі б і можам праіснаваць яшчэ гадоў 20-30, чакаючы сапраўды бяспечных тэхналогій. Не сваіх, дык чужых, вашых, напрыклад.

Так што мы аб’ектыўна нават зацікаўлены, каб вы актыўна развівалі атамную энергетыку.

Але хочам быць сумленнымі і расказаць вам усю праўду. А ўжо вы самі рабіце з яе вывады.

Ёсць няхітры фокус: курыцу садзяць на падлогу, абводзяць крэйдаю круг, і яна сядзіць не варухнуўшыся, зачаравана.

Прыблізна такое адбылося з сусветнаю грамадскаю думкаю (і японскаю таксама) пасля Чарнобыля. Уся ўвага на 30-кіламетровую зону. І толькі пра ахвяры першых дзён і тыдняў аварыі гавораць, пішуць — пра 31 чалавека з прамянёваю хваробаю.

А што ж адбылося і адбываецца на самай справе?

Чарнобыль для нас не ззаду, а наперадзе.

Радыеактыўная гразь выяўлена на 10 000 км$^2$ Беларусі, 2000 км$^2$ Украіны і 6000 км$^2$ заходніх абласцей РСФСР.

Свет працяглы час глядзеў толькі ў бок Украіны, на Кіеў. Не звярнуўшы ўвагі на паведамленні, што вецер дзьмуў у асноўным (першыя тыдні, самыя страшныя) на поўнач, г. зн. на Беларусь.

Вучоныя падлічылі, што па цэзію (а яшчэ плутоній, стронцый, гарачыя часцінкі і г. д.), дык вось толькі па цэзію-137 чарнобыльская катастрофа роўная 350 Хірасімам[1]. 30 хірасімскіх «бомбаў» — на Украіну, 20 — на рускія землі і амаль 300 хірасімскіх (па доўгажывучых элементах) бомбаў — на

[1] Згодна з новымі данымі — 600 Хірасім (1991 г.).

Беларусь. Заражанасць розная: ад 5 да 140-200 кюры на кіламетр і вышэй.

У Беларусі 1/4 ворнай зямлі, лугоў, сенажацяў — «брудная», г.зн. і прадукцыя іх небяспечная для здароўя. А гэта ўмовы жыцця 2,5 млн. чалавек. Прытым 150 тысяч жывуць на землях, дзе ад 40 да 140 і вышэй кюры на кіламетр. Дасюль яны не перасеЛеныя на чыстыя тэрыторыі. Высялялі толькі з 30-кіламетровай зоны.

Чаму так, як магло так быць і чаму працягваецца — гэта асобная гаворка пра нашу бюракратычную сістэму. Або аб прамым службовым злачынстве. А пакуль факты.

Вы ад радыяцыйных вынікаў Хірасімы (калі мець на ўвазе даследаванне на паражонай тэрыторыі) пазбавіліся дастаткова хутка. Нашы тэрыторыі будуць небяспечныя яшчэ дзесяткі гадоў: «мірны» атам, калі ён вырваўся з-пад кантролю, выяўляецца, больш небяспечны за «ваенны» (час паўраспаду пры выбуху рэактара цяжкіх элементаў куды больш працяглы).

Урачы, вучоныя (не лабісты атамнай энергетыкі, а такіх у нас таксама хапае) прадказвалі: спачатку «радыяцыйны СНІД» — аслабленне імуннай сістэмы і інваліднасць ці смерць ад «звычайных» хвароб (лёгачных, сасудзістых і г. д.), потым, праз 2-3 гады ўсплёск рака крыві, лейкозу (ён пачаўся ўжо), праз 10-20 гадоў анкалагічныя вынікі, далей — генетычныя.

Усё ідзе паводле гэтага страшнага графіка, і дзесяцімільённы народ, беларусы, стаяць перад рэальнаю пагрозаю нацыянальнай катастрофы. Беларусам наогул дастаецца ад матухны-гісторыі. У другой сусветнай вайне загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі. Цяпер пагроза навісла над кожным пятым. Яшчэ б — 300 Хірасім! Ну, і, вядома, свая бяда ва ўкраінцаў, у рускіх.

Давялося прызнаць на дзяржаўным узроўні — у прапанаваных Вярхоўнаму Савету СССР праграмах трох рэспублік па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы гаворыцца прама: краіна без міжнароднай падтрымкі не саўладае з гэтым. Патрэбныя дзесяткі і дзесяткі мільярдаў рублёў і галоўнае — тэхналогія, медыцынская дапамога ўсяе сусветнае супольні. Ад казённага аптымізму мінулых гадоў не засталося і следу. Пытанне ставіцца так: «ліквідацыя вынікаў чарнобыльскай катастрофы», поўнае пераадоленне яе вынікаў немагчымае ў прынцыпе. Праблема стаіць у глабальным плане, гэта ўсёй планеты праблема: як прыстасавацца, адаптавацца ўсёй біясферы Зямлі да Чарнобыля, да новага для яе постчарнобыльскага стану. (Рэальная пагроза

Міжземнаму мору, а значыць, Еўропе, Паўночнай Афрыцы: дняпроўскі радыеактыўны глей у любы момант у час паводкі можа рушыць да Чорнага мора.) «Вынікі» Чарнобыля цалкам ліквідаваць немагчыма — для ўсяе Зямлі. Як і для асобных людзей, якія пацярпелі ад аварыі.

Пытанне стаіць, каб хаця змякчыць вынікі. Напрыклад, у краіне відавочна нестае вопыту і апаратуры для лячэння дзіцячага і наогул лейкозу. У Беларусі наогул няма гэтых магчымасцей, хаця захворванні менавіта тут найбольшыя. А наперадзе ўзрастанне анкалагічных і генетычных праблем... Многія краіны прымалі ўжо нашых хворых дзяцей, ці ёсць ужо дамоўленасць: Індыя, Ізраіль, Галандыя, ЗША, Іспанія... Але, паўтараю, для Беларусі важней за ўсё і ўжо вылучалася такая ідэя: стварэнне міжнароднага медыцынскага цэнтра ў паражоных зонах — для вывучэння і змякчэння біялагічных вынікаў катастрофы. Вынікі, вядома, не толькі біялагічныя, але і псіхалагічныя, а таксама сацыяльныя. Катастрофа для нашага народа лічыцца, куды страшней за ўсё перажытае намі ў гады вайны. Там забілі мільёны людзей, спалілі сотні гарадоў і дзесяткі тысяч вёсак, але тым, хто выжыў, засталася ўрадлівая зямля, чыстая вада, радасці дзяцінства, грыбы, ягады, гароднiна. Цяпер для мільёнаў людзей усё гэта стала небяспечным або варожым. Прытым пагроза не звужаецца, не становіцца меншаю з гадамі, а, наадварот, узрастае. Напрыклад, украінскі Днепр, а таксама Прыпяць жывяць вадою гарады, дзе жывуць 35 мільёнаў чалавек. Удалося асадзіць на дно вадасховішч і гацей радыенукліды: але іх там назбіралася столькі, што дастаткова вялікай паводкі, як 35 мільёнаў чалавек зведаюць новы Чарнобыль. А следам, як ужо гаварылася, гэта распаўсюдзіцца і на ўзбярэжжа Міжземнага мора.

Або — гарачыя часцінкі. Калі гарэў рэактар, уран, графіт, жарало чацвёртага блока засыпалі пяском, свінцом і інш. — усё гэта ў выглядзе сплаўленых часцінак рассеялася на велізарнай тэрыторыі. Вельмі небяспечныя «гарачыя часцінкі» пры ўдыханні: ускрыццё памерлых паказвае — да 10-20 тысяч у лёгкіх чалавека. А гэта — гарантаваны рак. Але і яшчэ адна пагроза: з часам гэтыя часцінкі пачнуць распадацца пад уздзеяннем прыродных фактараў — і новы ўсплёск радыяцыі на велізарнай тэрыторыі.

Вы хаця б жывяце ў Хірасіме, прыязджаем мы, іншаземцы, у Хірасіму. У нашы Хірасімы (на Беларусі — 27 гарадоў, 2670 вёсак, па афіцыйных даных) прыходзіць, прыязджаць

трэба з дазіметрамі, якіх у нас, дарэчы, таксама катастрафічна не хапае.

Мы да чарнобыльскай катастрофы, выявілася, былі зусім не гатовымі. Загубілі нас аптымізм і эйфарыя атамшчыкаў, безадказнасць дзяржаўнага апарату. Адзін з аўтараў чарнобыльскага рэактара акадэмік Аляксандраў запэўніваў, што гэтыя штукі можна ў цэнтры Масквы, на Краснай плошчы, устанаўліваць.

Цяпер мы разумнеем, але якою цаною! Няхай разумнее і ўвесь свет, памятаючы, што дурны, як выявілася, лозунг часоў росквіту атамнай энергетыкі — «Мірны атам — у кожны дом» можа ажыццявіцца на практыцы. Але занадта ўсур’ёз. У вёсках людзі ведаюць: вось на кухні небяспечна быць, а ў спальні менш небяспечна — «мірны» атам у іх пад падушкаю, у талерцы. Нават на магілу да памерлага ад прамянёвай хваробы бацькі (калі ён захварэў у Чарнобылі) прыходзіць трэба не вельмі часта: зямля «свеціцца».

Вашыя праграмы — гэта вашыя праграмы. Не нам японцаў вучыць тэхналогіі. Але на нашай бядзе павучыцеся ўсё-ткі і вы.

І дапамажыце нам.

## 2. ХАТЫНЬ, ХІРАСІМА, ЧАРНОБЫЛЬ...

Як імкліва множацца знакі бяды ў наш век: пасля Хірасімы і Нагасакі — Чарнобыль. Калі спытаць у беларуса (а я з Беларусі), што яшчэ роўнавялікае названым трагедыям, ён назаве Хатынь — вёску пад Мінскам, дзе могілкі-мемарыял 628 беларускіх вёсак, спаленых нямецкімі фашыстамі разам з людзьмі. Людзі згарэлі жывымі, як і ў Хірасіме, — больш 100 тысяч. Палякі назавуць Катынь — месца сталінскага генацыду пад Смаленскам. Хатынь і Катынь гучаць падобна, ды і па сутнасці адно і тое ж: генацыд.

Так, усё гэта знакі генацыду, замаху на жыццё цэлых народаў, нацый: атамны генацыд, фашысцкі, сталінскі...

На Беларусі сёння гавораць пра чарнобыльскі генацыд у адносінах да беларускага народа. Тут і лічбы стратаў суадносныя: у гады мінулай вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі (2,5 млн. з 10). Сёння роўна столькі жыхароў Беларусі жыве на заражаных чарнобыльскай радыяцыяй тэрыторыях. Там лютуе «радыяцыйны СНІД» — сталі смяротнымі і некаторыя звычайныя хваробы, паколькі аслабленая імунная засцярога. Растуць захворванні крыві, лейкоз, асабліва ў дзяцей. А

наперадзе — анкалагічныя захворванні і генетычныя змены.

Вось таму мы і гаворым: Чарнобыль не ззаду, а наперадзе.

Я гавару найперш пра Беларусь не толькі таму, што сам я беларус. Але яшчэ і таму, што менавіта гэтая рэспубліка Савецкага Саюза больш за ўсё пацярпела ад аварыі. Чарнобыльская АЭС размешчана на тэрыторыі Украіны (у 6 км ад беларускага Палесся). Але, як пісала адна наша газета ў дні катастрофы, «вецер, на шчасце, дзьмуў не на Кіеў...». Але ён дзьмуў жа некуды. І менавіта ў бок Беларусі.

Страшная трагедыя Хірасімы, Нагасакі працягваецца і сёння — у лёсах пацярпелых і сёння жывых ахвяр атамнай бамбардзіроўкі, у памяці японскага народа. Але самі землі, воды, раслінны свет ачысціліся куды хутчэй. Так бывае пры выбуху бомбы: цяжкія элементы распадаюцца. Рэактар, які ўзарваўся, як вулкан, выкідвае іх ва ўстойлівым выглядзе: цэзій, плутоній, стронцый, «гарачыя часцінкі» (уран у аплаўленым выглядзе, як бы ў маленькіх капсулах) і да т. п.

На дзесяцігоддзі ў людзей, у народа адняты не толькі здароўе, але і зямля, вада, неба, малако, гародніна, садавіна, грыбы. У дзяцей — нармальнае дзяцінства.

Хіба не генацыд?

Міжволі падумаеш, скажаш: ён, пракляты атам! І не толькі ваенны, але і «мірны». Як бы пракляцце на ім. Ці не таму, што зброя атамная (а следам і атамная энергетыка) нарадзілася пад знакам фашызму. Усім вядома, што бомба рабілася са страху перад Гітлерам, карычневым монстрам фашызму. Спрабавалі абараніцца ад яго з дапамогаю атамнай бомбы і не заўважылі, што ён, гэты монстр, схаваўся ў гэтую ж бомбу. Шмыгнуў у яе, схаваўся і выскаляецца здзекліваю шкілетнаю ўхмылкаю з бомбы.

6 жніўня 1945 года быў забіты не проста японскі горад — пахавана было само бяссмерце роду чалавечага. Чалавецтва ў адзін міг стала смяротным (хаця і не адразу гэта ўсвядоміла).

Не ўсе і дасюль ўсведамляюць, што новы стан у роду чалавечага, новы адлік часу пачаўся і з 26 красавіка 1986 года. Да Чарнобыля і пасля Чарнобыля — гэта рознае светаадчуванне, гэта па-новаму небяспечныя шляхі чалавецтва ў будучыню. Пагроза экалагічнага калапсе, экалагічнай пагібелі адразу наблізілася шчыльна. І не толькі для беларусаў. Або для Савецкага Саюза (мы скураю чуем: яшчэ адзін Чарнобыль — і нам краты!). Чарнобыльская катастрофа не толькі раскідала, рассеяла радыяцыю па ўсёй планеце

(сотні мільёнаў кюры), яна пастукалася ў кожныя дзверы, у кожнае акно жыхара планеты: уся сучасная цывілізацыя пад пагрозаю экалагічнага самазнішчэння, у прамым, фізічным, сэнсе. І не ўратуюць ніякія ахоўныя супрацьаварыйныя сістэмы. Не ўзарвуцца АЭС самі — дапамогуць тэрарысты ці «звычайныя», «малыя» войны. Андрэй Дзмітрыевіч Сахараў, як вядома, прапаноўваў чалавецтву схаваць усе АЭС пад зямлю. Але ўсё гэта чыста тэхнічныя рашэнні. Іх відавочна недастаткова, хаця яны таксама патрэбныя.

Адзін з ініцыятараў нашай атамнай праграмы, які стаў і ахвяраю яе, Валерый Лягасаў незадоўга да таго, як рашыўся на самазабойства, гаварыў: Чарнобыль здарыўся таму, што нашы інжынеры, тэхнікі, вучоныя стаяць не на плячах у Талстога ці Дастаеўскага, г. зн. вялікіх мысліцелей-гуманістаў, а на плячах такіх жа, як яны самі, «тэхнароў». Чыста тэхналагічная цывілізацыя асуджана на самазнішчэнне, самазабойства. Ніякія супрацьаварыйныя сістэмы не ўратуюць, самыя дасканалыя і вытанчаныя. Толькі культура, высокая, маральная, гуманістычная культура, якая заўжды мае на ўвазе самаабмежаванне матэрыяльных запатрабаванняў і рост духоўных, можа стаць сапраўднай ахоўнай, супрацьаварыйнай сістэмай нашай цывілізацыі.

Гавару гэта я, хто прыехаў з краіны, дзе людзі такія ўлюбёныя ў японскую тэхналогію і вельмі многія вераць, што выратаванне ў ёй. Так, сапраўды нам патрэбна ваша тэхналогія, ваша дапамога для пераадолення вынікаў Чарнобыля. Але нам яшчэ больш трэба, неабходна ўзаемаразуменне, усведамленне, што род наш чалавечы — адзіны. А пасля Хірасімы і Нагасакі, пасля Чарнобыля — асабліва. І чым хутчэй вы і ўсе іншыя краіны, народы зразумееце, зразумеюць, зразумеем, што стварылася новая сітуацыя ў свеце, для ўсіх новая пасля Чарнобыля, тым меншыя беды і катастрофы нас будуць чакаць у будучым, магчыма, за наступным вуглом, скрыжаваннем гісторыі.

Мы звыкла гаворым, пішам: «пераадолець вынікі чарнобыльскай катастрофы». Пераадолець іх канчаткова, цалкам немагчыма. Можна толькі трохі адхіліць іх ад дзяцей Беларусі, Украіны, Расіі (больш 250 тысяч жыхароў трэба перасяляць неадкладна). І трэба, неабходна тэрмінова ствараць сучасныя медыцынскія цэнтры па перасадцы костнага мозгу — наступае на нас, на нашых дзяцей літаральна эпідэмія лейкеміі, раку крыві. Пры гэтым цэнтр такі на Беларусі мы хацелі б стварыць міжнародны, навукова-медыцынскі

— праблема паслячарнобыльскага існавання, паўтараю, усё больш усведамляецца як агульначалавечая праблема. Тут ніяк не абысціся без удзелу японскіх вучоных, без вашага навуковага патэнцыялу, вопыту, тэхналогіі.

Мы ўратуемся, калі заўжды і ва ўсім будуць поруч з намі і ў нас вялікая культура Усходу і Захаду, вялікія рэлігіі, кожная з якіх утрымлівае, спавядае галоўнае чалавечае пачуццё: табе цяпер дрэнна? Ну, дык вось так бывае і другому, калі дрэнна яму! І чужой бяды не бывае: асабліва пасля Хірасімы, пасля Нагасакі, пасля Хатыні і Катыні. Пасля Чарнобыля.

### 3. ЦІ РАДЫЁФОБІЯ?

Цэлыя тры гады ўлады і ведамасная навука (а яна ў нас заўсёды абслугоўвала ў асноўным ведамствы, у тым ліку і магутнае атамнае) праўду аб сапраўднай абстаноўцы трымалі пад строгім сакрэтам (замяралі, вывучалі, але ўсё ўтойвалася: здаецца, так дзейнічалі ў першыя гады пасля трагедыі Хірасімы і Нагасакі амерыканцы, але яны былі акупанты, а гэта ўласныя ўлады!). Што ж здзіўляцца, што цяпер, калі адбыўся прарыў галоснасці, прарыў грамадскасці таксама і ў паслячарнобыльскія таямніцы-сакрэты, вялікая трывога навалілася на мільёны жыхароў пацярпелых абласцей і раёнаў. Дзеячы медыцыны, радыелагічнай навукі і інш. (такія, як віцэпрэзідэнт Акадэміі медыцынскіх навук Ільін, старшыня Дзяржкамгідрамета СССР Ізраэль, былы міністр аховы здароўя СССР Чазаў і інш.), якія пераступілі нормы прафесійнага гонару і маралі, схільныя ўсё цяпер зводзіць да радыефобіі. Маўляў, аніякай рэальнай небяспекі не было і няма, а ёсць масавы псіхоз, у якім вінаватая прэса, грамадскасць, А тым часам расце колькасць захворванняў, асабліва лейкеміяй і асабліва сярод дзяцей у заражаных мясцовасцях. Маладыя людзі, якія ніколі не скардзіліся на здароўе — з ліку ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў выбуху чацвёртага рэактара, а такіх тысячы і тысячы, так званых «ліквідатараў», — сталі або становяцца інвалідамі.

Што ж адбылося на самай справе — і не з народам беларускім, украінскім, рускім, якія ніколі не вылучаліся ні недаверлівасцю, ні слабасцю духу, — няўжо ўсё гэта толькі радыефобія? Або гэта спроба тых, хто ва ўсім вінаваты, прыменшыць і віну сваю і самую катастрофу? На мітынгах і ў час чарнобыльскіх маршаў на маёй Беларусі людзі патрабуюць да адказу тых, хто адабраў у іх спакой, адабраў праўду і адбірае здароўе.

Што ж на самай справе адбылося, чаму так павялі сябе ўлады, многія вучоныя, атамшчыкі, медыцына, экалагічныя службы? Так, сама таталітарная сістэма, ад якой мы збаўляемся, але якая сфармавала гэтых людзей і пэўныя структуры, традыцыі, усё гэта прадвызначыла. Але канкрэтней — як усё адбывалася?

У нас у краіне існавала проста-такі эйфарыя ў адносінах да атамнай энергетыкі. Самая чыстая, самая бяспечная і танная! Можна рэактары прама пад сцяною маскоўскага Крамля ўстанаўліваць. (Вось бы ўстанавілі!) Гэта сцвярджалі праектанты рэактараў (акадэмікі Аляксандраў, Даліжаль і інш.), работнікі атамнага міністэрства, будаўнікі АЭС. Перадалося гэта і эксплуатацыйнікам — аніякай розніцы паміж АЭС і цеплавой станцыяй!

А калі ахнула, першая рэакцыя і імкненне ўсіх гэтых людзей і ведамстваў — прыменшыць маштабы бяды, а тым самым і ўласную віну. Як жа не імкнуцца прыменшыць пагрозу здароўю людзей кіраўнікам Міністэрства аховы здароўя, калі яны не мелі, не падрыхтавалі спецыялістаў дастаткова. А тыя ведамствы і начальнікі, якія без дазіметраў, вымяральнікаў чысціні прадуктаў харчавання пакінулі краіну, і гэта адразу выявілася?..

Усе яны — ад Галоўатама да Інстытута радыебіялогіі і Міністэрства аховы здароўя — кінуліся не вывучаць абстаноўку, а закрываць яе заслонаю сакрэтнасці. Каб віна іх перад народам, краінай не была такою вялікаю.

А ў выніку гэтая віна падвоілася, бо тры гады людзей угаворвалі жыць там, дзе жыць нельга, харчавацца тым, што нельга выкарыстоўваць у ежу, удыхаць атручаны пыл — вось чаму сёння ніхто не верыць ні гэтым кіраўнікам, ні гэтым вучоным або медыкам. І радыефобія тут ні пры чым. Навідавоку злачынства перад уласным народам — пра гэта ў нас гавораць, пішуць адкрыта.

Цікава, што паслухмяная ведамасная навука, людзі і ўлады, якія трацяць давер у свайго народа, усё часцей апелююць да аўтарытэту міжнароднай навукі. Але не да незалежных вучоных, а да такіх жа лабістаў атамнай энергетыкі любою цаною, як і яны самі. (З МАГАТЭ, з Сусветнай арганізацыі здароўя.)

Але грамадскасць (у прыватнасці, Сахараўскі камітэт, які нядаўна створаны ўдавою акадэміка Аленай Бонэр) самастойна ўстанаўлівае сувязі з незалежнай навукай, незалежнымі вучонымі іншых краін — у інтарэсах усяго чалавецтва. Чарнобыль — гэта не наша толькі катастрофа. Гэта планетарная бяда. І

пераадольваць яе вынікі (наколькі гэта магчыма) даводзіцца агульнымі намаганнямі. Вядомы наш радыебіёлаг акадэмік А. І. Вараб'ёў ужо вёў перагаворы з японскім бокам аб стварэнні ў Беларусі міжнароднага навуковага цэнтра па вывучэнню і ліквідацыі вынікаў аварыі. Калі пагроза новых Хірасім як бы адступае ў выніку змен, што адбыліся ва Усходняй Еўропе і ў СССР, то новыя Чарнобылі гэтак жа, калі не больш, чым учора, верагодныя. Нягледзячы на ўсе ахоўныя меры. Невыпадкова А. Д. Сахараў прапаноўваў усе АЭС схаваць пад зямлю, у скальным грунце (каб зберагчы нас ад тэрарыстаў, уратаваць рэактары ад малых войнаў і г. д.).

Незадоўга перад смерцю (да загадкавага самазабойства) акадэмік В. А. Лягасаў, унутрана абпалены пачуццём віны за чарнобыльскую трагедыю (і не толькі ўнутрана: ён шмат месяцаў «тушыў» рэактар), дык вось ён мне прадыктаваў «графік» новых катастроф тыпу чарнобыльскай. (Нядаўна мы закрылі адну з такіх станцый — Армянскую АЭС, на чарзе — Ленінградская, Смаленская і інш.).

А што, калі перад вачыма Госпада Бога ўжо ляжыць такі світак, графік — угадаць бы. «Беражонага Бог беражэ!» — кажуць у нас у народзе. Дык давайце будзем беражонымі — берагчы сваю адзіную планету. Разам, агульнымі намаганнямі, стараннямі, праграмамі.

# ТВАРАМ ДА АПАКАЛІПСІСА

*ДАКЛАД У НЬЮПОРЦЕ (ЗША) НА КАНФЕРЭНЦЫІ АМЕРЫКАНСКІХ І САВЕЦКІХ ВУЧОНЫХ І ПУБЛІЦЫСТАЎ (ЧЭРВЕНЬ 1990 г.)*

## 1. Фізічныя рэальнасці суднага дня

Апакаліпсіс — паняцце філасофскае, тэалагічнае або псіхалагічнае. Ну, а Апакаліпсіс— фізічная рэальнасць, што ён такое? Сёння гэта перш за ўсё ядзерная зброя. Джанатан Шэл у сваёй цудоўнай працы «Лёс зямлі» даўно назваў яе зброяй Суднага дня.

Калі паказаў свае зубы дракона «мірны» атам — у Чарнобылі, — праз разгубленыя журналісцкі лепет і апраўдальнае мармытанне навукі грозна праравяліся словы прама з прароцтваў Іаана Багаслова: «Трэці анёл усртрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка... і апала на трэцюю частку рэк і вытокі вод... Імя той зорцы «палын»... На ўкраінскай мове «чарнобыль» азначае «палын звычайны». Помню, калі я пачуў гэта ад аднаго фізіка летам 1986 года,

мой матэрыялістычны, атэістычны розум пасаромлена пакланіўся перад невытлумачальным. І я вырашыў пасарамаціць яго яшчэ і публічна, працытаваўшы Казанне Іаана Багаслова на з'ездзе пісьменнікаў, які праходзіў у Маскве, — шок быў у зале. Думаю, што і ў прэзідыуме, дзе сядзеў сам Ягор Лігачоў. Але мы ўсё роўна яшчэ не ўсведамлялі блізкасці бяздоння, якое адкрылася ля ног нашых…

Зрэшты, аб сім-тым мы здагадваліся. Асабліва ў нас, на Беларусі. Краіна гэтая, выяўляецца, асаблівая. Ведаеце, як гэта бывае з некаторымі людзьмі, іх называюць няўдачнікамі. І іншыя хварэюць, трапляюць у аварыі. Але няўдачлівых не абыдзе ніводная хвароба і ніводная аварыя. Хоць плач. Вось так і з маёй Беларуссю. Колькі войнаў вяла Расія і з Расіяй вялі, усе самыя галоўныя пракочваліся па Беларусі і яе народу. І шведская, і з Напалеонам, і ўсе войны з немцамі. Тое, што мы перажылі ў час другой сусветнай вайны, можна назваць «атамнай вайной звычайнымі сродкамі». Адзін амерыканскі публіцыст пабыў на могільніку беларускіх вёсак пад Мінскам (іх сотні і сотні), спаленых разам з людзьмі, забітых вёсак, потым напісаў: цяжка рэальна ўявіць трагедыю іншага народа, для гэтага трэба тое ж самае спраецыраваць у думках на сваю краіну, на свой народ. Уявім, працягвае ён, што забіта 50 мільёнаў амерыканцаў, спалены ўсе гарады і вёскі Амерыкі, за выключэннем, напрыклад, усходняга пабярэжжа, — вось маштабы трагедыі Беларусі. Супаставімыя (па выніках) хіба толькі з атамнай вайной…

І вось свет зноў выявіў, што мы ўжо ў 1986 годзе адчулі, пра што спрабавалі сказаць, крыкнуць, але нас доўга не чулі ні ў Маскве, ні за мяжою, ні ў самім партыйна-ўрадавым Мінску: Беларусь зноў накрыў цень Апакаліпсіса!..

…Ясна, што, жывучы на гэтак пазначанай трагічным лёсам зямлі, нельга было не ўспрымаць з асаблівай, фізічнай вастрынёю і любыя знакі «ядзернага Апакаліпсіса». Якія мы асабліва сталі прыкмячаць пасля пачатку брэжнеўскай авантуры ў Афганістане і спаборніцтва, якое пачалося ва ўсім свеце: хто больш нарыхтуе ядзернага гаручага для агульнага акта самаспалення.

Было натуральна, што ў гэты час асабіста мяне вельмі цягнула сустрэцца, пагутарыць з людзьмі, якія непасрэдна ля кнопак Суднага дня, перш за ўсё з капітанамі ядзерных падводных лодак. Каб зразумець, чаго чакаць ад іх.

Лёс мяне звёў з трыма (адзін з іх амерыканец). На кім душа супакоілася? На

салдаце-хлапчуку, таксама ракетчыку, — ён абслугоўваў «кабелі» на ядзернай установцы.

Пра іх пра ўсіх і раскажу.

### 2. Дык націснем ці не націснем?

Час і сапраўды быў крытычны і, як выявілася, паваротны (набліжалася перабудова). Тады здавалася: два цяжэразныя цягнікі па аднапутнаму насыпу імкліва збліжаюцца лоб у лоб, вось-вось урэжуцца. Усе і перад усімі заўжды правы! Так вызначаў для сябе формулу, паводле якой загіне свет, у аповесці «Апошняя пастараль», якую пісаць пачаў дзень за днём, слухаючы прамовы «ўсіх» у ААН, дзе працаваў восенню 1982 года ў складзе беларускай дэлегацыі. У красавіку 83-га мы арганізавалі ў Мінску сустрэчу, канферэнцыю пісьменнікаў і публіцыстаў, здаецца, першую ў нас, на тэму ядзернага Апакаліпсіса.

Класічна прагучала на канферэнцыі скарга майго іранічнага сааўтара па «Блакаднай кнізе» Данііла Граніна: «Адамовіч цягне мяне на край прорвы — намаляваў жахлівую карціну канца свету, а тут яшчэ Каракін дадаў — і кажуць: працуй! А я не магу працаваць на краі прорвы».

Сапраўды, гэта тады была праблема: адчуванне ўсеагульнага канца, пагібелі — яно выратавальнае ці згубнае? Мабілізуе чалавека, людзей на супраціўленне пагрозе ці абязвольвае ўжо зусім перад непазбежнасцю, толькі паскараючы спаўзанне да прорвы?

Задоўга да гэтага (у 1955 годзе) прагучаў «на ўвесь свет» маніфест — папярэджанне Расела-Эйнштэйна. На ўвесь дык на ўвесь, але пачулі яго нямногія (у нас апублікаваны адкрыта і цалкам толькі ў 1988 годзе ў часопісе «Дружба народов»). Час новага мыслення яшчэ не надышоў. Нават неўтаймоўны акадэмік Пётр Капіца не прыняў галоўную думку маніфеста: свет загіне, чалавеку не выжыць, калі ядзерная зброя будзе заставацца на планеце, а свет будзе па-ранейшаму ідэалагічна і палітычна разарваны. Вялікі фізік дзеля чагосьці стаў гадаць-прыкідваць, наколькі арганізм чалавечы зможа адаптавацца да радыеактыўнага заражэння…

Спачатку і акадэмік Сахараў ствараў Зброю Апакаліпсіса (і яго падпарадкавала думка, што паратунак — у раўнавазе страху) і толькі ў 60-ыя гады зразумеў: паратунак — на шляхах канвергенцыі сацыяльных сістэм, а свой абавязак стаў бачыць у барацьбе за тое, каб грамадства, якому ён уручыў свой геній фізіка, перастала быць закрытым, каб паважаліся правы чалавека, жыццё чалавека, а тым самым правы і жыццё роду чалавечага.

Выклікалі ж мяне, напрыклад, пасля той мінскай канферэнцыі ў ЦК Кампартыі Беларусі, дзе паведамілі дзівосную «формулу палітыкі», вышэйшай, напэўна: «Калі з усяго нашага народа ацалее 10 чалавек, важна, каб яны засталіся савецкімі людзьмі. САВЕЦКІМІ». Вось што, выяўляецца, важней за самое выжыванне роду чалавечага.

Зрэшты, генерал Хейг, былы дзяржсакратар Злучаных Штатаў Амерыкі, спавядаў нешта падобна-канібальскае; помніце, знакамітае: «Ёсць рэчы куды важней, чым мір, і куды страшней, чым вайна...»

Я ўсё імкнуўся прарвацца да капітанаў падводных монстраў, якія існуюць дзеля таго, каб «пры неабходнасці» сваімі двума дзесяткамі ракет знесці цэлую Еўропу або Амерыку.

Першую такую гутарку я «рассакрэціў», выступаючы на маскоўскім форуме «За бяз'ядзерны свет, за выжыванне чалавецтва». Быў ужо 1987 год. «Московские новости» надрукавалі, і ўзняўся шум, абвінавачванні ў «кашчунстве» і «здрадніцтве». Як: яны нас так, а мы іх не? Яны — мільярд, два мільярды жыццяў знясуць, спапяляць і не атрымаюць таго ж у адказ? Ды і наогул, ніякага капітана не было, Адамовіч яго прыдумаў! З прычыны злашкоднага свайго пацыфізму.

Але капітан быў, і гутарка была. У сямейнай, хатняй абстаноўцы, за гарбатай. Я прапанаваў «мадэль сітуацыі»: «яны» нанеслі ўдар, спапялілі паўсвету і другую палавіну засыпалі радыяцыяй, кнопка адплаты пад вашым пальцам — адкажаце агрэсару (але, магчыма, што і памылка камп'ютэраў), націснеце ці не націснеце? Жыццё ацалелых людзей і краін, а магчыма, і сама будучыня роду нашага і наогул існаванне жыцця на зямлі — у вашых руках.

Маці і дачка капітана, якія сядзелі за сталом, адгукнуліся неадкладна: «Вядома! Яны ж нас забілі. Нашу краіну». Галасы з ранейшых часоў: «Тата, адпомсці!» — плакаты і заклікі няядзернай Вялікай Айчыннай вайны жывуць аж дасюль у нашай памяці, у нашай свядомасці.

Капітан усё не адказваў. І раптам вярнуў мне пытанне: ну, а вы як бы зрабілі?

Не, не націснуў бы ні пры якіх абставінах! Інакш менавіта я, мы будзем забойцамі чалавецтва. Той, хто націснуў першы, — падлюга, забойца палавіны чалавецтва, а я — усяго роду людскога. Усекаін! «Ну, а я, — нарэшце адказаў капітан, — я не скажу, як зраблю. Яны не павінны гэтага ведаць».

Гісторыя гэтая мела працяг павучальны. У тым сэнсе, што праявіла, ад чаго і да чаго мы

ўздымаліся ў сваёй свядомасці. І як імкліва. Летам 1987 года генерал Дзмітрый Валкагонаў, тады другая асоба ў Палітупраўленні Савецкай Арміі, вельмі лёгка выклікаў гнеў і абурэнне не тралейбуснай, а пісьменніцкай публікі ў зале Дома літаратараў, калі папракнуў нейкага пісьменніка (не называючы імя) у неймавернай безадказнасці і кашчунстве (пераказаў гаворку з капітанам, уяўным, па яго перакананню, бо савецкія воіны, у адрозненне ад некаторых пісьменнікаў, «не такія»).

Калі я ўсё-ткі не пажадаў быць ананімам і выйшаў на трыбуну — маўляў, гэта я такі дрэнны! — і паспрабаваў растлумачыць і развіць сваю гаворку з капітанам, пераканаць, што часы «адплат» прайшлі незваротна, давялося пераадольваць некалькі шквалаў шчырага абурэння з пісьменніцкае залы. А пасля ў вестыбюлі знаёмы, блізкі мне франтавік-паэт сказаў неяк разгублена: «Не ведай я цябе, вырашыў бы, што гаворыць здраднік!»

Але прайшло ўсяго паўгода, гарбачоўская палітыка новага мыслення прывяла яго ў Вашынгтон, быў заключаны першы ў гісторыі дагавор аб ліквідацыі цэлага класа ядзернай зброі, і калі ў газеце «Советская культура» зноў распалілася палеміка: націснуў бы, не націснуў!.. — у адказ на пісьмо маіх землякоў Бягуна і Боўша, яна прагучала глуха, амаль без рэзанансу ад грамадства.

Людзі звыкалі да многага, што нядаўна здавалася абсалютна непрымальным.

Помніцца, што там, у Вашынгтоне, Гарбачоў, шчаслівы ад таго, што ім з Рэйганам удалося здзейсніць, адзначыў, падкрэсліў удзячна, што вяла яго да гэтага і грамадская думка, якую падштурхоўвалі публіцысты, пісьменнікі і г. д.

Раскажу пра такога вось «штурхача» — салдата савецкіх ракетных войскаў, які прыязджаў да мяне спецыяльна, пагутарыць. Яго ледзьве не пасадзілі (але потым датэрмінова дэмабілізавалі) за ўпартую думку, фразу: «А я на месцы Гарбачова не адказаў бы нават на першы ўдар...» — «Значыць, ты пасячэш кабелі?» (Ён абслугоўваў кабельную гаспадарку пры ракеце.) — «Не, я свой абавязак выканаю, але на месцы Гарбачова я б...»

Пазваніў ён мне з Чарнігава і папрасіў «дзесяць хвілін для гаворкі». Не па тэлефоне, з вока на вока. Калі з'явіўся ў мяне дома, адразу ж пачаў з палемікі. Прачытаў, маўляў, «Апошнюю пастараль», ці не здаецца вам, што вы запрашаеце праціўніка нанесці першы ўдар (гэта значыць, правакую яго, умацоўваючы ў ім надзею, што не адкажам ударам на

ўдар)? Раз у імя жыцця чалавецтва мы гатовыя ахвяраваць сабою, уласным народам…

Пытанні сапраўды крутыя і нават страшныя. Але ў тым і справа, што новае мысленне, калі ўсё дадумваць да канца, — гэта нешта больш страшнае і больш трагічнае, чым гамлетаўскае, асабістае: «Быць альбо не быць?» Тут пра народ, пра чалавецтва!

Я спрабаваў растлумачыць, што ўкладваў у «Апошнюю пастараль», ад чаго іду, але салдат (ужо ў джынсах, дэмабілізаваны) нарэшце адкрыўся: ён толькі выпрабоўваў маю логіку і доказы. Каб пераканацца ў сваіх перакананнях. Бо гэта і яго перакананні, і прыйшоў ён да гэтага сам, у арміі. І расказаў, як угаворвалі і пагрозамі суда «за здрадніцтва» стараліся вярнуць яго да даатамнага мыслення. Каб ён публічна, перад усёй часцю адрокся ад «новай веры». Не адрокся: «Я сваю, салдацкую, службу выканаю, але на месцы Гарбачова…»

Ну, а Гарбачоў — на сваім месцы? Сёння ў нас у краіне яму не вельмі ўтульна ў ролі лідэра перабудовы: бэлькі перакрыцця старога, падгнілага будынка падаюць, абрынуліся ледзь не на галаву, куды і ўхіляцца? Але што ні здарылася б, як бы ні пайшлі справы, адно сёння ясна: гэтага парадаксальнага лёсу лідэр дае свету яшчэ адзін шанец — пазбавіцца ад значных запасаў ядзернай зброі, самай цяжкай, небяспечнай, якая заўтра можа стаць і зброяй (і прыладаю) хаосу. У краіне і ва ўсім свеце. На захадзе нямала пішуць з апраўданаю трывогаю: а хто будзе ім распараджацца, савецкім ядзерным арсеналам, калі захлісне краіну анархія? Ну, дык не марудзьце, усё трэба зрабіць разам з Гарбачовым і загадзя зруйнаваць гэты магчымы хаос. Раззбройвайцеся разам з ім, не таргуючыся, не да таго цяпер, зразумейце!

Даядзерная зброя суправаджалася такім мысленнем: калі ў другога бока ёсць гэта, трэба, каб і я такое ж меў, а то і яшчэ мацнейшае. Пацягаемся! Ядзерная зброя павінна дыктаваць зусім іншую логіку: калі яна ёсць у магчымага праціўніка, а ў мяне таксама ёсць — яна аднолькава небяспечная для абодвух бакоў і таму як сродак вайны бескарысная. Трэба ад яе пазбавіцца. Пакуль не позна. А тым больш у цяперашняй сітуацыі. Калі вашы і нашы дарадцы па гэтых справах пачнуць з разлікам таргавацца, спрабуючы выгадаць на нейкім другім класе ракет (марскія і да т. п.), а ў выніку шматмегатонныя так і застануцца ў шахтах, ці не давядзецца заўтра пашкадаваць, калі яны апынуцца зусім у іншых руках: а іх жа магло і не быць, была магчымасць не мець іх супраць сябе!

Адбывалася ўсё апісанае і адбываецца на фоне, я сказаў бы, на грэбні, з глыбіні напіраючай яшчэ адной хвалі — экалагічнай катастрофы, якая нарастае. Калі хуткасці або сілы суміруюцца з сустрэчнай, момант апошняга ўдару (калі падзеі да яго валакуць) скарачаецца адпаведна. І гэта трэба ўлічваць: ваенную пагрозу — калі гаворка аб экалагічнай, і наадварот. І спяшаць (не спазняцца!) удвайне. Будзь вялікая вайна (нават няядзерная), вынік быў бы блізкі да той жа ядзернай катастрофы. Першачарговай мэтай няядзерных ударав сталі б ядзерныя рэактары, АЭС. Многія паклапаціліся ўжо, каб іх было сотні: «Калі б адбыўся выкід толькі 10 працэнтаў радыеактыўных рэчываў з усіх еўрапейскіх АЭС, — піша Леў Сямейка ў часопісе «Новое время» (18/19), — то, па ацэнках некаторых вучоных, на працягу 10-75 гадоў катастрафічныя вынікі гэтага былі б у чатыры разы большыя, чым пры ядзерных выбухах агульнай магутнасцю 2500 мегатон».

Калі да Чарнобыля (вось дзе ваенны атам пераміргнуўся злавесна з «мірным» — як змоўшчыкі) гэта было яшчэ камусьці няўцям, то сёння...

Раскажу яшчэ пра дзве гутаркі з капітанамі атамных падлодак. З амерыканскім і адным савецкім. Джэймс Буш прыехаў у казахскі стэп па тое ж, што і я, — назіраць мірнае знішчэнне, першае (нарэшце-такі!), ракет сярэдняй дальнасці. Высокі, спартыўны, хоць ужо злёгку сівы, падводнік-пацыфіст мае пытанні — націснуў бы ён, не націснуў, калі не пацыфістам быў, а па-зладзейску хаваўся пад вадою, — успрыняў амаль іранічна:

— Вядома! І не разлічвайце на нешта іншае. Нас да гэтага рыхтавалі, а інакш мы не служылі б у арміі. Больш таго, скажу: калі спісвалі на бераг, некаторыя мае афіцэры выказвалі нешта накшталт шкадавання: эх, не давялося на справе апрабаваць такую моц!

І яшчэ раз націснуў на галоўную думку сваю:

— Не разлічвайце надта на ваенных у гэтай справе. Прыйдзе каманда — і ўсяму канец. Вось таму і прыехаў я сюды, стаў пацыфістам. У ваенных трэба адабраць гэтыя цацкі.

Расказаў я пра гэту сустрэчу яшчэ аднаму капітану, беларусу, сябру маленства, таксама адстаўному:

— Зразумела, прысяга — абавязак ваеннага чалавека. Але ж вам ужо сказана: у ядзерным паядынку перамагчы немагчыма, вы ж не на перамогу працаваць будзеце. Тады на што? Хто большы ўклад унясе ў калектыўнае самазабойства? Як ставіцца задача пры тым, што гэта ўжо сказана?

Ён мне:

— Задача ставіцца свядома вузкая: знішчыць вось такую цэль. Напрыклад, падлодку ворага з ракетамі і боегалоўкамі. Зрэшты пра гэту — цэль — даведваемся ў апошні міг.

— І ні пра што больш не думай? Цэль — плі?!

— Ні пра што больш. Іменна.

— Ну, а калі цэль — цэлы кантынент?

Сёння — гэта якраз для аднаго залпа, адной падлодкі.

— Перамагчы ў канкрэтным паядынку. І не зазіраць, што далей. А што яшчэ тут можа быць пры такой вось сітуацыі?

Значыць, выратаванне — думаць аб цэлым, аб усім і не вылучаць для сябе цэль — «ворага»? У ядзернай зброі цэль адна — чалавецтва. Усё чалавецтва.

Юрый Каракін некалі (якраз у той час, пра які гаворка ідзе) выкрыкнуў востра, пранізліва: «Не спазніцца!»

Цяпер, калі столькі праблем (акрамя ядзерных і разам з імі) навалілася на нас — экалагічных, сацыяльных і іншых, — хочацца дадаць да гэтага:

«Не разгубіцца!» Перад камнепадам праблем — здаецца, што невырашальных, — не разгубіцца. Не адчаяцца.

## 3. Апакаліпсіс — гэта колькі рэнтген?

Народ наш — беларусы, украінцы, жыхары заходніх рускіх абласцей, таксама паражоных радыенуклідамі, — ужо вымяраюць гістарычны час так: да 26 красавіка 1986 года і пасля. Да Чарнобыля і пасля Чарнобыля. Усё 4 больш усведамляем: Чарнобыль не ззаду, ён наперадзе. Нам жыць і жыць (і паміраць) поруч з ім, дзесяцігоддзі, стагоддзі, нават пасля таго, як усе блокі чарнобыльскага «мільённіка» будуць прыбраныя з вачэй. Цяпер Чарнобыль у глебе, у вадзе, у прадуктах харчавання. Потым ён будзе праяўляць сябе праз гены — на працягу стагоддзяў. Гэта так сур'ёзна для ўкраінцаў, рускіх, якія жывуць на паражоных землях, а для беларусаў — для ўсіх, для цэлай нацыі (у нас паражонае практычна ўсё, а што яшчэ чыстае, заўтра можа запазніцца), што і такія вось ідэі-прапановы гучаць: адсяліць некалькі дзесяткаў тысяч беларусаў далей ад роднай зямлі з тым, каб пасля, праз 100, праз 200 гадоў, іх, здаровы генафонд, вярнуць назад... Пісьменна гэта ці непісьменна па навуцы — не так важна. Але само па сабе страшна, што пра такое мы вымушаны ўжо думаць.

Такія біялагічныя вынікі Чарнобыля, але ёсць і сацыяльныя. І яны будуць нарастаць — на Беларусі, на Украіне, ды і ў Расіі таксама.

Напрыклад, у красавіку 1990 года ў самых забрудненых раёнах, на Гомельшчыне, прайшлі забастоўкі на буйных заводах (да гэтага былі ў раённых цэнтрах) з патрабаваннем суда над тымі партыйнымі, дзяржаўнымі дзеячамі і іх інтарэсы абслугоўваючымі «вучонымі» (паіменна), хто вінаваты ў вялікай хлусні, у злачынным утойванні праўды пра катастрофу і яе вынікі. Вінаватых у сітуацыі, калі над велізарнай масай людзей і над вялікімі тэрыторыямі праводзіцца нейкі бюракратычны эксперымент: а што будзе, калі рабіць усё не тое і не так, як дыктуе здаровы сэнс? Напрыклад, не лакалізаваць тэрмінова небяспечныя зоны радыяцыі, а вырабляць там прадукты харчавання, нарошчваючы гэтую справу, вывозячы іх, «гразныя», каб завозіць «чыстыя». Або: замест таго каб людзей з гэтых зон адсяляць, усе сродкі і рэсурсы кінуць, накіроўваць на сізіфаву працу: адмываць ад радыяцыі хаты, платы, дрэвы, называючы гэта «дэзактывацыяй». (2,5 мільярда рублёў затрацілі на Беларусі ў асноўным на гэта, ды яшчэ на будаўніцтва «культаб’ектаў» і асфальтаваных дарог, вуліц там, дзе жыць нельга, немагчыма і адкуль сёння ўсё роўна вымушаны адсяляць.)

За гэтым абсурдам — што? І хто? Наша цудоўная каманднa-бюракратычная сістэма на аснове аднапартыйнасці, калі вырашае некампетэнтнасць і псеўданавуковая самаўпэўненасць догмы, а абгрунтоўвае гэтыя рашэнні ведамасная, пазбаўленая ўсякай маралі навука.

Аднак ці толькі некампетэнтнасць усяму віной? Няўжо ў такой глабальнай хлусні не было карысці? У кагосьці і ў чымсьці.

Што ж на самай справе адбылося, чаму так павялі сябе ўлады, многія вучоныя, атамшчыкі, медыцына, экалагічная служба? Ды сама таталітарная сістэма, ад якой мы пазбаўляемся, але якая сфарміравала гэтых людзей і пэўныя структуры, традыцыі, усё гэта прадвызначыла. Але больш канкрэтна — як усё адбывалася?

У нас у краіне існавала проста-такі эйфарыя ў адносінах да атамнай энергетыкі. Самая чыстая, самая бяспечная і танная! Можна рэактары прама пад сцяной маскоўскага Крамля ўстанаўліваць. (Вось бы ўстанавілі!) Гэта пацвярджалі праектанты рэактараў (акадэмікі Аляксандраў, Даліжаль і інш.), работнікі атамнага міністэрства, будаўнікі АЭС.

А калі ахнула, першая рэакцыя і імкненне ўсіх гэтых людзей і ведамстваў — прымяншыць маштабы бяды, а тым самым і ўласную

